26 сакавіка 2021 | № 12 (720)
Выдаецца з сакавіка 2002 года

Новы час

novychas.by
АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

ISSN 2218-2144

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

«Даказаў, што адплата немінучая»
Стар.20




# «Мы выйдзем шчыльнымі радамі...»

Аксана КОЛБ

**Што значыла для нашай краіны 25 сакавіка 1918 года? Што будзе значыць 25 сакавіка 2021-га? Паміж гэтымі датамі — 103 гады. Розныя людзі, розныя эпохі. Адна мэта.**

Тады, у 1918-м, нягледзячы на вайну і голад, беларусы захацелі нарэшце «людзьмі звацца» і жыць у сваёй краіне, вольнай і незалежнай. Каб іх дзеці, унукі і праўнукі маглі ганарыцца, што нарадзіліся і жывуць на гэтай зямлі. Ці не таго ж мы прагнем сёння, праз сто з лішкам гадоў?

«Мы выйдзем шчыльнымі радамі// На вольны родны свой прастор.// Хай воля вечна будзе з намі,// А гвалту мы дамо адпор!» — гэтымі словамі пачынаўся верш Макара Краўцова (Касцевіча). Называўся ён «Ваяцкі гімн». У 1920 годзе гэты верш, пакладзены на музыку Уладзіміра Тэраўскага, стаў гімнам БНР. У 1938-м Уладзіміра Тэраўскага расстралялі. Магчыма, у Курапатах. Увосень 1939-га Макар Краўцоў быў закатаваны падчас допытаў у беластоцкай турме. Такім чынам, абодва аўтары гімна БНР сталі ахвярамі сталінскага тэрору. Аднымі з мільёнаў.

1937-мы прыйшоў не адразу. Ён насоўваўся паступова, крок за крокам. Зжыраючы незалежнасць, свабоду, правы, мову... Кавалкамі. Вялікімі і малымі. Заўважнымі і не надта. Ён грукаўся спачатку да незнаёмца, пасля да суседа, сваяка, жонкі, брата, бацькі, сына... «Невінаватых не арыштоўваюць», — казалі людзі. Дыму без агню не бывае. Калі я буду маўчаць, не высоўвацца — мяне не зачэпіць. Каб не прыйшлі па мяне, раскажу пра суседа... Мільёны ахвяраў абыякавасці і здрады. Мільённы кошт страху і заплюшчаных вачэй.

Скаруся, бо ў мяне ж дзеці. Не буду пярэчыць, бо звольняць з работы. Зраблю, што скажуць, агавару суседа, здам сябра, падпішу, што загадаюць... А раптам пранясе, а, можа, не зачэпіць? Я ж у палітыку не лезу, — ці не такое чуецца цяпер?

Мой першы Дзень Волі быў 25 гадоў таму, у 1996-м. Ён быў брутальна разагнаны. Але тады ў нас быў добры шанец не даць тэрору раскруціцца. Быў ды сплыў. Ці то волі было замала, ці раўнадушша забагата. А можа, яшчэ час не прыйшоў. Бо кожны народ заслугоўвае свайго правіцеля. А праз этапы развіцця грамадства нельга пераскочыць беспакарана. Дый што такое 25 гадоў на шкале гісторыі!

А што такое 25 гадоў у маім жыцці, у жыцці маіх сяброў і знаёмых? У жыцці ўсіх тых, хто бачыў, што адбываецца? Тых самых «праплачаных адмарозкаў», якія не давалі нармальным людзям спакойна жыць. Яшчэ год-два таму шмат хто лічыў тую ж Ніну Багінскую, якая выходзіла на вуліцу з плакатамі і бел-чырвона-белым сцягам, як мінімум дзіўнаватай. Шмат хто верыў прапагандзе і не хацеў бачыць праўду. Шмат хто проста жыў нібыта па-за палітыкай, пакуль палітыка не пагрукалася ў дзверы.

Жнівень 2020-га прыйшоў не адразу. Ён крок за крокам прасоўваўся ў наша жыццё, еў кілбасы, гуляў па Зыбіцкай, адпачываў на цёплых морах і нават катаўся на лыжах у Раўбічах. І ён усё яшчэ спрабуе захлынуць нас усіх, прымусіць баяцца, маўчаць і не рыпацца. Пагрозы, дубінкі, пратаколы, краты... Але гэта яшчэ не расстрэльныя ямы. Пакуль не яны. Ці зноў змаўчым? Шчыльней заплюшчым вочы? Як думаеце, дапаможа? Пачакаем яшчэ пару дзесяцігоддзяў? А й праўда, на шкале гісторыі — гэта ж дробязь.

Але не на шкале майго жыцця. І сёння, як ніколі раней, такімі блізкімі становяцца словы «Ваяцкага маршу»: «Няхай жыве магутны, смелы // Наш беларускі вольны дух. // Штандар наш бел-чырвона-белы, // Пакрый сабой народны рух».

І чамусьці гэтай запозненай вясной, нягледзячы на тэрор і запалохванні, я чую вокліч соцень тысяч — Жыве, Беларусь!

# Сяргей Скіба: «Перастаньце выконваць злачынныя загады»

**Дзевяціразовы чэмпіён свету і шматразовы пераможца Кубка свету па кікбоксінгу, пераможца чэмпіянатаў Еўропы, былы супрацоўнік ААТ «Нафтан» Сяргей Скіба, які адным з першых падтрымаў стачку, звярнуўся да сілавікоў.**

«Мы не хочам вайны, і мы не экстрэмісты, як вам забіваюць у галовы. Мы — чыесьці дзеці, чыесьці бацькі, браты, сёстры, бабулі, дзядулі, вашы суайчыннікі — і мы стаміліся. Стаміліся ад гвалту, жорсткасці, зневажанняў і бясконцых рэпрэсій. Мы стаміліся баяцца. Вас ужо называюць фашыстамі і карнікамі. Мы не хочам, каб так было, мы хочам бачыць вас абаронцамі свайго народа, героямі.

Мы разумеем, што вам таксама, як і нам, вельмі страшна. Вам страшна быць звольненымі, страшна пазбавіцца стабільнага заробку, страціць выслугу. Але вы яшчэ можаце дапамагчы свайму народу і сабе, у першую чаргу, проста зрабіўшы адзін крок насустрач. І ўзводам, ротай, батальёнам апусціць зброю, скласці шчыты. Я па сабе ведаю, заўсёды ёсць хваляванне перад выхадам на рынг, але трэба зрабіць першы крок — далей становіцца лягчэй.

Ёсць меркаванне, што ўсё вырашаецца ў сталіцы. Не! У маім родным Наваполацку ўсё вырашыцца хутчэй і лягчэй. У малых гарадах усе адно аднаго ведаюць, незалежна ад прафесіі — і нам жыць далей у гэтых маленькіх гарадах.

Вы цудоўна ведаеце «нафтанаўцаў». Я — адзін з іх. Ці падобныя мы да экстрэмістаў або ворагаў? Зразумела, не. У цывільных і сілавікоў — адзін вораг, які з усіх сіл спрабуе ўтрымацца ў крэсле цаной нашай крыві, таму і правакуе грамадзянскую вайну. Сілавікам у малых гарадах прасцей прыняць валявое рашэнне — узурпатар далёка, а людзі тут. З гэтымі людзьмі давядзецца жыць далей. Як жыць — залежыць толькі ад вас. Адзін раз не спалохацца — і жыць усё жыццё без балаклавы, з гонарам за сваю прафесію, з чыстым сумленнем, або навечна застацца ў вачах беларусаў карнікамі. Сёння гераізм выяўляецца ў тым, каб апусціць зброю. Гэта і ёсць годны мужчынскі ўчынак. Проста пакладзіце шчыты, перастаньце выконваць злачынныя загады. Адзін ваш крок — і вы ўсе на волі.

Усё, што мы хочам, — гэта проста вярнуць нашы галасы, скрадзеныя на выбарах. Мы ж не змірымся ні з фальсіфікацыяй выбараў, ні з гвалтам, ні са знішчэннем закону ў краіне. Наш супраціў — гэта падпалены тарфянік. Вас настройваюць на разгон беспарадкаў, але вы выдатна ведаеце самі, што беспарадкаў не будзе, калі толькі вы іх не пачняце. Дайце нам усім шанец жыць у міры і ганарыцца вамі!» — сказаў спартсмен.

Пасля ціску федэрацыі кікбоксінгу і тайскага боксу Сяргей Скіба вымушаны быў з'ехаць за мяжу разам з сям'ёй. Ён усё роўна працягвае трэніравацца, актыўна выказвае сваю грамадзянскую пазіцыю і неабыякавы да ўсяго, што адбываецца на яго радзіме.

# Улада губляе адну пазіцыю за другой

Пётр КУЗНЯЦОЎ

**Генералы заўсёды рыхтуюцца да мінулай вайны. Заўсёды — такі, мабыць, закон прыроды. Добра для іх, калі ім супрацьстаяць такія ж генералы. Горш — калі значна больш складаныя сістэмы, такія, як народы і нацыі, здольныя самастойна генераваць новую рэальнасць, піша аналітык Пётр Кузняцоў.**

Мы чулі, як Караеў наракаў, што пры падрыхтоўцы да разгону 9 жніўня арыентаваліся на 2010 год, і чулі, як Карпянкоў пагражаў «паўтарыць» сілавыя меры восені, калі пратэст праявіцца 25 сакавіка. Пакуль яны ўлічвалі, як ім здавалася, свежы досвед, рэальнасць змянілася вельмі адчувальна.

У апошні тыдзень мы назіралі адразу некалькі ўзаемавыключальных хадоў улады ў публічнай сферы. З аднаго боку, у Гродне забаранілі спектакль, які асуджае фашызм. Здавалася б, маразм, але людзі ўсё зразумелі правільна: улада вельмі спалохалася наўпроставых паралеляў з сабой і антыфашысцкае прадстаўленне расцаніла як пратэснае супраць сябе. Паказальна. З іншага боку: раптам актывізавалася «патрыятычная рыторыка», натуральна, накіраваная супраць прыхільнікаў перамен. Тут і распачатая крымінальная справа супраць генацыду беларусаў падчас Другой сусветнай вайны, і Усебеларуская малітва ў Хатыні, дзе, вядома, узгадвалі БЧБ.

Калі супаставіць усё гэта ў адзін шэраг, карціна атрымліваецца больш складанай і цікавай, чым проста традыцыйная прапаганда. Мяркуючы па забароне гродзенскага спектакля, улады ўсвядомілі, наколькі ў сённяшняй Беларусі паняцці «фашызм» і «генацыд» сталі моцна асацыяваца менавіта з імі. І, з аднаго боку, актывізацыяй менавіта ў гэтым кірунку, быццам бы, пайшлі ў контратаку.

Аднак прапагандысцкі спектакль, які разыгрываецца, настолькі наіўны і смешны, што, здаецца, накіраваны зусім не на шараговых беларусаў. Шараговым беларусам з тэлеэкранаў якраз пагражаюць «нямецкім парадкам» і шыбеніцамі. Мяркуючы па ўсім, мэта ўсяго гэтага — мабілізацыя сілавікоў, якім хочуць давесці, што яны сёння — нешта накшталт дзядоў, якія ваявалі, і праціўнік — адзін.

Такія патугі зразумелыя, калі ўлічыць, што ў шэрагах сілавых службаў сёння цалкам могуць быць адчувальныя хістанні. У сеціве шмат пісалі пра тое, што рэсурсаў не хапае настолькі, што супрацоўнікам не выдалі прэміі нават на Дзень міліцыі. Але гэта адно. Значна больш істотным бачыцца той факт, што 7 месяцаў працы сістэмы літаральна на мяжы не прынеслі адчувальных вынікаў: як паказвае галасаванне на «Голасе», пратэсныя настроі нікуды не дзеліся, «парадак» — толькі бачны, а гэта значыць, што ўсяму гэтаму канца-краю не відаць: да «перамогі» як мінімум вельмі далёка (калі яна ўвогуле дасягальная). І любы чалавек, у тым ліку і ўнутры сілавога блока, нехаця задумаецца: а ці ёсць той вымерны і існуючы вораг, калі яго немагчыма перамагчы, ці ўсё ж барацьба ідзе з цэлым народам, і фашысты, на самай справе, — улада?

Вось і агрызаецца ў стылі Карпянкова: «Не мы, а вы». Але выглядае гэта зусім непераканаўча, з улікам таго, што ніякіх інструментаў рэальнага ўплыву на сітуацыю, акрамя сілавых, ва ўлады не засталося. Наогул.

Тут самы час успомніць допісы і каментары перыяду «жнівень — снежань». Хтосьці спадзяваўся на змену ўлады да Новага года, але не аўтар гэтых радкоў. Казаў і пісаў неаднаразова пра тое, як улада, што страціла легітымнасць, будзе слабець паступова, губляючы адну пазіцыю за другой, да поўнага рассыпання.

Цяпер, літаральна ў рэжыме рэальнага часу, мы гэта і назіраем. Прапаганда толькі «пенкі пускае» і нічога дамагчыся не можа. Рэсурсы адкрыта растаюць, Пуцін грошай не дае наогул з моманту таемнай інаўгурацыі (фармальнай страты легітымнасці). Кожны тыдзень ЕС перахоплівае кантрабандныя фуры цыгарэт. Слушны кірунак намацаў Павел Латушка з НАУ: удары па еўрабондах на еўрапейскіх фінансавых рынках. Аглушальныя правалы з МАК, чэмпіянатам па хакеі, Еўрабачаннем — працягваць можна доўга.

Сутнасць жа застаецца ўсё той жа. Пакуль улада працягвае шчыра верыць, што цэлы народ можна перамагчы тупой сілай, і спрабаваць дасягнуць гэтага, улічваючы досвед папярэдніх вулічных разгонаў, пад ціскам сілаў куды вышэйшага парадку яна губляе адну пазіцыю за другой. У рэальнасці, за якой яна не ў сілах угнацца.

## ЛІСТЫ ЗА КРАТЫ

# «Добры дзень, дарагі Сцяпан!»

**Апошнім часам перапіска з палітзняволенымі значна пагоршылася. У тым ліку амаль няма сувязі са Сцяпанам Латыпавым. Таму ў суполцы «Лісты салідарнасці» людзі вырашылі напісаць лісты Сцяпану, а НЧ — іх надрукаваць. Прыводзім толькі невялічкую іх частку.**

**Вольга Сурма:**

— Я ніколі нікому яшчэ не пісала, але ўвесь час думаю пра велізарную несправядлівасць, якая адбывалася — дый працягвае рабіцца — у Беларусі многія гады, а асабліва са жніўня 2020-га. Дзякуй велізарны, што вы і такія людзі, як вы, змагаюцца з гэтым, не праходзяць міма, не заплюшчваюць вочы. Не адчайвайцеся, нішто не можа доўжыцца вечна! Так ці інакш, дабро і праўда пераможа!

**Алеся Кісялёва:**

— Добры дзень, дарагі Сцяпан! Пішу вам з кастрычніка. І менавіта з-за вас стала пісаць іншым такім жа выдатным людзям, як вы. Бязмежна захапляюся вамі! Як кандыдат педагагічных навук магу сведчыць: вы ў поўнай меры — усебакова развітая гарманічная асоба, незвычайны чалавек, герой! Велізарны вам дзякуй за віншаванне з 8 сакавіка! І паштоўка з вожыкамі супер! Я таксама вельмі люблю вожыкаў. Сцяпан, я накіроўвала вам грашовы перавод (20 руб.), выпісала вам часопісы на красавік («Психолоджи» (псіхалогія), «Дыскаверы» і «1000 сканвордаў»). Спадзяюся, усё дойдзе. Калі першы перавод дайшоў, планую яшчэ перавесці грошай вам на атаварку. Як вы? Сэрца маё разрываецца ад болю з-за таго, што такія цудоўныя людзі, як вы, у зняволенні. Думаю пра вас кожны дзень. Што я магу зрабіць для вас? Напішыце, калі ласка. Ці атрымлівалі вы малюнкі вожыкаў ад мяне і маіх сяброў (на асобных маленькіх аркушыках)? Спадзяюся, што ў вас ужо сабралася цэлая галерэя вожыкаў. Абдымаю з павагай і любоўю. Алеся. Мае сяброўкі і сябры далучаюцца.

**Віця Гурыновіч:**

— Уражаны вашай мужнасцю, ганаруся вамі! Жадаю вам найхутчэй выйсці на волю, а да гэтага — зберагчы па магчымасці сваё здароўе, вы патрэбны Беларусі!

**Іра Азарынская:**

— Дарагі Вожык! За апошнія 2 месяцы напісала табе лістоў пяць. Дзівілася і трывожылася, што ты не адказваеш. І толькі сёння даведалася, у чым прычына твайго маўчання. Спадзяюся, ты ўсё ж атрымаеш мае лісты і зможаш на іх адказаць. А яшчэ я падпісала цябе на «Нашу Гісторыю»). Буду працягваць пісаць і чакаць добрых навінаў. Усім сэрцам з табой! Моцна абдымаю!

**Святлана Скалковіч:**

— Першы раз пішу вам. Але як у жніўні даведалася пра вас, думаю вельмі часта. За гэты час часта чытаю, як многія вашы сябры распавядаюць пра вас. Мяне дзівіць ваш характар — цвёрды, мужны, годны. Вы выдатны прафесіянал, і ўсё яшчэ будзе, я абсалютна ўпэўненая! Шкада, што праблемы з дастаўкай лістоў не даюць магчымасці зносін, хай і на адлегласці. Ведаю пра тое, праз што вам давялося прайсці. Я ўсёй душой хачу пасланне вам сілы і ўпэўненасць, што вы і мы ўсе зможам пераадолець і перамагчы гэтую цемру і дзікі прымітыў. Паспрабую паслаць перавод, раптам дойдзе... Што вам цяпер неабходна ў першую чаргу? Як вы адчуваеце сябе? Пішыце пра ўсё. Вы — наш родны і блізкі чалавек. Мы любім вас і ганарымся вамі. Без вас няма нас.

**Вольга Аўсюкевіч:**

— Выдатна, што ёсць розныя магчымасці перадаць вам паведамленне. Я адпраўляла вам ліст у лютым. Не ведаю, ці дайшоў... Ведаеце, Сцяпан, ролік з вамі ёсць у мяне ў стужцы ў фэйсбуку. Я была вельмі ўражаная вашай мужнасцю ў той момант.

Гэта наогул жа дзіка, што трэба мужнасць для таго, каб сказаць праўду ці запатрабаваць выканання закона. І тым больш павагі заслугоўваюць людзі, якія дэманструюць цвёрдасць духу і стойкасць! Дзякуй вам вялікі! І жудасна несправядліва, што самыя лепшыя, самыя сумленныя і смелыя пазбаўленыя волі. Вельмі хочацца вас падтрымаць, сказаць, што многія людзі (у тым ліку і незнаёмыя вам, як я, напрыклад) пра вас думаюць і суперажываюць вам.

Калі ласка, знаходзьце ў сабе сілы заставацца на светлым баку аднаго таго, што адбываецца. Усё пройдзе — і гэта таксама. А мы будзем падтрымліваць вас адсюль. У тым ліку і паведамленнямі-свяцячкамі. Абдымаю вас моцна!

**Беларусы Бразіліі:**

— Прывітанне вам ад беларускай дыяспары ў Бразіліі. Мы ўжо некалькі разоў пісалі вам. Спадзяемся, што нашы паштоўкі даходзяць.

Мы працягваем сачыць за навінамі на радзіме, і за вашым лёсам, канешне. Працягваем спадзявацца на тое, што аднойчы вы прыедзеце да нас у Бразілію, каб упэўніцца, што не ўсе тут ходзяць у белых нагавіцах і малпы тут не на кожным дрэве:) Хаця, шчыра кажучы, залежыць ад месца. У некаторых гарадах яны сапраўды замест вавёрак:)

Мы вельмі спадзяемся на тое, што вы ў адносна добрым стане і не маеце праблем са здароўем. Мы верым, што ўсё скончыцца добра. І вы не губляйце веры і надзеі!

**З павагай і захапленнем, беларуская дыяспара Бразіліі.**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Прымус да перамоваў

Сяргей САЛАЎЁЎ

**«На небе толькі і размоваў, што пра мора», — гаварылася ў фільме «Дагрукацца да нябёсаў». А ў нас — усе абмяркоўваюць ініцыятыву Святланы Ціханоўскай па агульнанацыянальным галасаванні за пачатак перамоваў пра выхад з крызісу.**

Святлана Ціханоўская абвясціла агульнанацыянальнае галасаванне на платформе «Голас» за мірны выхад з крызісу праз перамовы пры міжнародным пасярэдніцтве. У момант напісання матэрыялу (24 сакавіка) колькасць тых, хто прагаласаваў, перавысіла 725 тысяч.

Сутнасць праекта — у тым, каб пры падтрымцы міжнароднай супольнасці запатрабаваць ад улады перамоваў пра выхад з крызісу. Прапанова, безумоўна, цікавая, асабліва тады, калі Лукашэнка ні на якія перамовы ісці, падаецца, не збіраецца. Разумеючы гэта, многія паставіліся да ініцыятывы са скепсісам. Аднак перамовы, насамрэч — гэта толькі задача-максімум. Ціханоўская сваёй прапановай ужо зрабіла шмат карыснага.

Па-першае, за зіму і «дэцэнтралізаваныя» пратэсныя акцыі беларусы забыліся, што іх, на самай справе, вельмі багата. У выніку ў многіх з'явіліся дэпрэсіі і пачуццё безнадзейнасці. Асабліва калі з кожнага праса льюцца толькі дрэнныя навіны: гэтага асудзілі, таго пасадзілі, яшчэ аднаго затрымалі, улады падрыхтавалі новыя рэпрэсіўныя законы… У людзей узнікала ўражанне, што яны змагаюцца за свабоду ледзь не самотна. А ініцыятыва Ціханоўскай дазволіла чарговы раз прадэманстраваць: са жніўня–2020 нічога не змянілася. Людзей, якія патрабуюць пераменаў, і цяпер вельмі і вельмі шмат, і яны па-ранейшаму гатовыя да супраціву.

І гэта — нягледзячы на шалёныя рэпрэсіі з боку пакуль яшчэ ўлады.

Па-другое, гэтым крокам Ціханоўская калі не вярнула сабе і пратэстам інфармацыйны парадак дня, то зрабіла сур'ёзную заяўку на такое вяртанне. Амаль тыдзень усе сацыяльныя сеткі і тэлеграм-каналы толькі і робяць, што абмяркоўваюць яе ініцыятыву. Лаюць, крытыкуюць, ухваляюць, спрачаюцца. Раней у інфармацыйным полі (памятаеце пра дрэнныя навіны?) пераважаў самаабвешчаны кіраўнік дзяржавы. Цяпер пра яго ледзь не забыліся.

Лукашэнка днямі наведаў Хатынь і выступіў там на мітынгу. Хто-небудзь ведае, што ён там казаў? Упэўнены, што многія на гэтае пытанне адкажуць адмоўна: ён стаў нецікавы. Ёсць лепшая тэма для спрэчак, і гэта — Ціханоўская. Улада зноў страціла інфармацыйную прастору. А, як кажа старая амерыканская прымаўка, «калі цябе няма ў тэлевізары, значыць, цябе няма нідзе». Цяпер — цябе няма, калі цябе не абмяркоўваюць у інтэрнэце.

Па-трэцяе, Ціханоўская, вядома, прадэманстравала Захаду (як і збіралася), што беларускі палітычны крызіс нікуды не падзеўся. І вось ужо ЗША і АБСЕ падтрымалі не патрабаванні не толькі па правядзенні перамоваў, але і па правядзенні новых прэзідэнцкіх выбараў ужо сёлета.

І, па-чацвёртае: гэтае галасаванне не можа не падзейнічаць на розумы чыноўнікаў, якія пакуль ціха сядзяць у сваіх крэслах, тым самым дэманструючы «маўклівую згоду» з рэжымам. Такім у чарговы раз прадэманстравалі: пратэстоўцы не хочуць грамадзянскай вайны, людзі хочуць перамоваў і мірнага вырашэння крызісу. А вось грамадзянскай вайны хочуць іншыя — тыя, хто казаў пра задзейнічанне войскаў для падаўлення мірных акцый пратэсту. І цяпер можна зрабіць выбар: ты на баку міра або на баку вайны.

**Заяву Пяскова можна расцэньваць не толькі так, што Лукашэнка нічога не абяцаў Пуціну, але што і Пуцін, у сваю чаргу, нічога не абяцаў Лукашэнку наўзамен. А гэта ўжо — зусім іншая сітуацыя. Асабліва на фоне размовы Пуціна наконт Беларусі з прадстаўніком ЕС**

Вядома, крытыкаў у Ціханоўскай дастаткова. Шмат пішацца пра тое, што «ніхто не зрынаў рэжым анлайн-галасаваннем» і да таго падобнае. Але ўжо гэтыя чатыры пункты пераважваюць усю крытыку. І, да таго ж, каб гэтая прапанова была такой бяскрыўднай, улады б не кінуліся блакаваць сайт «Голасу» ды чарговым разам тэставаць адключэнне інтэрнэту ў Мінску. А менавіта гэта было заўважана.

У той жа час цікавыя зрухі адбыліся ў Расіі. Як перадаюць інфармагенцтвы, 22 сакавіка старшыня Еўрапейскага савета Шарль Мішэль пагаварыў па тэлефоне з Пуціным. Як паведамляе прэс-служба Крамля, «закраналіся пытанні барацьбы з пандэміяй каронавіруса, у прыватнасці магчымасці выкарыстання расійскай вакцыны «Спутник V», палітычнае ўрэгуляванне ўнутрыўкраінскага канфлікту, сітуацыя ў Беларусі і некаторыя іншыя актуальныя тэмы».

Напэўна, гэта ўпершыню — прынамсі, я не памятаю, каб раней Пуцін абмяркоўваў з прадстаўніком ЕС сітуацыю ў Беларусі. Масква да сёння досыць агрэсіўна рэагавала на падобныя пытанні, заяўляючы аб «недапушчальнасці ўмяшання ва ўнутраныя справы» Сінявокай.

І ў той жа час прэс-сакратар Пуціна Дзмітрый Пяскоў заявіў, што, нібыта, Лукашэнка не даваў ніякіх абяцанняў Пуціну з нагоды тэрмінаў канстытуцыйнай рэформы. «У іх былі абмеркаванні. Там гаворка ідзе не пра абяцанні, гаворка ідзе пра тое, што Лукашэнка інфармаваў Пуціна аб далейшых планах, у тым ліку і планах па канстытуцыйнай рэформе», — заявіў Пяскоў.

Аднак не хто іншы, як кіраўнік МЗС Расіі Сяргей Лаўроў усе вушы прагудзеў пра «ўрэгуляванне беларускага крызісу шляхам канстытуцыйнай рэформы». Смешна думаць, што такі дасведчаны дыпламат, як Лаўроў, грунтаваў свае прамовы і выказванні на факце «інфармавання» Пуціна з боку Лукашэнкі. Дый безліч экспертаў таксама не абмяркоўвалі б вераснёўскія «сочынскія дамовы» на падставе аднаго толькі інфармавання.

Хутчэй за ўсё, Лукашэнка цалкам у сваім стылі «пракінуў» Пуціна. Таму заяву Пяскова можна расцэньваць не толькі так, што Лукашэнка нічога не абяцаў Пуціну, але што і Пуцін, у сваю чаргу, нічога не абяцаў Лукашэнку наўзамен.

А гэта ўжо — зусім іншая сітуацыя. Асабліва на фоне размовы Пуціна наконт Беларусі з прадстаўніком ЕС.

Зразумела, рабіць далёка ідучыя высновы на падставе такіх фактаў пакуль рана. Але адзін выпадак — гэта выпадак, а два — ужо тэндэнцыя.

«Кола вакол Лукашэнкі паступова сціскаецца, пастка захлопваецца. Калі ЕС і РФ дамовяцца пра сыход дыктатара, то для рэжыму тэрмін пойдзе на тыдні. Таму добрая парада сілавікам перад 25 сакавіка: паводзьце сябе максімальна добразычліва ў адносінах да сваіх суграмадзян, а галоўнае — выконвайце закон і не выконвайце заведама злачынныя загады начальства. Бо ў дзень X усё кіраўніцтва паляціць у цёплыя краіны, а адказваць давядзецца вам», — каментуюць у тэлеграм-каналах.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Павел Севярынец

**«Праз тыдзень справу Паўла перадаюць у пракуратуру. Думаем, што раней траўня да суда не дойдзе», — напісала жонка палітыка Вольга на сваёй старонцы Facebook.**

Сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Павел Севярынец быў затрыманы 7 чэрвеня каля дома пасля вяртання з акцыі. На наступны дзень ён быў асуджаны на 15 сутак арышту. Падчас адбыцця пакарання ў яго было яшчэ як мінімум тры адміністрацыйныя судовыя пасяджэнні, на якіх яму дадавалі кожны раз па 15 сутак, — усяго ён атрымаў 60 сутак на працягу месяца.

Таксама ў Севярынца засталіся не адбытыя 30 сутак, атрыманыя за ўдзел у акцыях супраць паглыблення інтэграцыі з Расіяй, якія праходзілі ў снежні 2019 года.

У пачатку верасня палітыку прад'явілі абвінавачанне па крымінальнай справе пра ўдзел у масавых беспарадках (частка 2 артыкула 293 КК) і затрымалі яшчэ на два месяцы. Потым тэрмін знаходжання пад вартай яму працягвалі некалькі разоў.

Міжнародная арганізацыя «Amnesty International» абвясціла акцыю тэрміновай дапамогі па вызваленні Севярынца і заявіла, што мае інфармацыю пра жорсткае абыходжанне з ім. Арганізацыя таксама прызнала яго вязнем сумлення.



## Вольга Калацкая

**Суд Фрунзенскага раёна Мінска 23 сакавіка пачаў разгляд крымінальнай справы ў дачыненні да вядомай перакладчыцы і выкладчыцы англійскай мовы Вольгі Калацкай.**

Яе вінавацяць у злосным хуліганстве (частка 1 і частка 2 артыкула 339 КК), нібыта Вольга падчас адной з акцый пратэсту ўдарыла супрацоўніка СТБ Рыгора Азаронка. Максімальны тэрмін пакарання па гэтым артыкуле — да шасці гадоў пазбаўлення волі. Справу разглядае суддзя Ала Скуратовіч.

На суд прыйшоў і пацярпелы Азаронак. Калацкая распавяла, што была моцна абураная паводзінамі прапагандыста, які паставіў пад сумнеў шчырасць смутку людзей па забітым Рамане Бандарэнку, а таму дала яму поўху. Яна прызнала сваю віну.

Азаронак адзначыў, што заяву на Калацкую не пісаў і ўвогуле не лічыць, што жанчына яго абразіла. Таксама ён хадайнічаў аб спыненні крымінальнага пераследу і настойвае на спыненні справы.

Вольга Калацкая вядомая тым, што ў свой час пераклала на беларускую мову дзясяткі фільмаў, серыялаў і кніг, у тым ліку Вірджыніі Вулф, Тэнэсі Уільямса, Уільяма Голдынга, Пола Остэра, Тоні Парсанза, Артура Голдэна, «Гладыятар», «Шрэк», «Сямейку Смітаў» ды іншыя. З патрабаваннем неадкладна вызваліць Вольгу выступіў Амерыканскі ПЭН (PEN America) і вядомая канадская пісьменніца Маргарэт Этвуд.

## Віктар Бабарыка

**У Мінску аднавіўся суд над Віктарам Бабарыкам. Пасяджэнні праходзяць у судзе Маскоўскага раёна, працэс вядзе Вярхоўны суд.**



Фармальна, працэс адкрыты, але трапіць на яго не ўдалося ні незалежнай прэсе, ні многім з тых, хто хацеў падтрымаць Віктара Бабарыку.

Абарона Бабарыкі настойвае на тым, што абвінавачванні яму не канкрэтызаваныя: у прыватнасці, следства не можа сказаць, калі, якім чынам і колькі хабару атрымаў Бабарыка, якім чынам ён «адмываў» грошы і колькі іх было. У аўторак Бабарыку не далі выступіць з заявай, хаця такая магчымасць прадугледжаная на любой стадыі працэсу. Гэта экс-прэтэндэнт у прэзідэнты палічыў парушэннем права на абарону і даў адвод суду. Суд гэты адвод, зразумела, не задаволіў.

Па «справе Белгазпрамбанка» праходзяць восем фігурантаў. Віктар Бабарыка абвінавачваецца ў «адмыванні» сродкаў, атрыманых злачынным шляхам (частка 2 артыкула 235 КК, да сямі гадоў пазбаўлення волі), і атрыманні хабару ў асабліва буйным памеры (частка 3 артыкула 430 КК, да 15 гадоў пазбаўлення волі).

Праваабаронцы лічаць Бабарыку вязнем сумлення, а рэальнымі падставамі крымінальнага пераследу Віктара Бабарыкі называюць палітычныя матывы, скіраваныя на спыненне яго публічнай дзейнасці па вылучэнні ў якасці кандыдата ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь.

а | Азбука паліталогіі

# «Мотавелазавод» у люстэрку беларускага неафеадалізму


Сяргей НІКАЛЮК

**Архітэктары Беларускай мадэлі з усіх відаў будаўніцтва дасягнулі найбольшага поспеху ў пабудове планаў.**

Адкрываю «Советскую Белоруссию» за 5 ліпеня 2001 года: «Да канца гэтага года з канвеера Мінскага мотавелазавода сыдзе першая партыя новых матацыклаў. Ужо заключаны кантракт з адной з кітайскіх фірмаў на пастаўку рухавікоў для гэтай мадэлі. Сучасны чатырохтактны матор амаль на траціну змяншае расход паліва, акрамя таго, ён экалагічны. Чакаецца, што такіх матацыклаў будзе выпускацца да 50 тысяч на год — і 90 працэнтаў іх пойдзе на экспарт».

А цяпер крыху афіцыйнай статыстыкі.

За два дзесяцігоддзі вытворчасць матацыклаў скарацілася ў 8,6 разу. З роварамі здарылася аналагічная гісторыя: 2000 год — 585,5 тысяч штук, 2020 — 69,3 тысячы штук (скарачэнне ў 8,4 разу). Але з агучваннем планаў праблем па-ранейшаму няма. Падчас наведвання ТАА «Мотавелазавод» 5 сакавіка адзіны палітык (АП) прапанаваў пашырыць лінейку прадукцыі, у тым ліку шляхам вытворчасці электрамабіляў, бо гэта найбольш экалагічны від транспарту.

Як тут ні працытаваць воcліка Іа з несмяротнага мульціка: «Вартае жалю відовішча, жахлівае відовішча...». І з якога боку не глядзець — уражанне не паляпшаецца.

## Грамадства нейтралізацыі пагрозаў

Сацыёлаг Сымон Кардонскі тлумачыць: «Ёсць грамадства рызыкі — заходняе грамадства. Там рызыкуюць на глабальным рынку — і як вынік атрымліваюць капітал. А ў нас грамадства заснаванае змаганні з пагрозамі, падчас нейтралізацыі якіх захоўваецца цэласнасць дзяржавы — гэта значыць, асноўнае, для чаго яна і існуе. Ёсць цэлы дзяржаўны і грамадскі інстытут экспертаў, якія вынаходзяць пагрозы, пераконваюць грамадства ў іх рэальнасці і выбіваюць грошы на іх нейтралізацыю».

У грамадствах рызыкі, напрыклад, крытэрыем эфектыўнасці сельскай гаспадаркі служыць прыбытак, у беларускай мадэлі — харчовая бяспека. Адчуваеце розніцу?

Але не хлебам адзіным жывыя прафесіяналы па ліквідацыі пагроз. Кантроль за якасцю духоўнай ежы (інфармацыяй) патрабуе не меншай увагі. Не дзіва, што масавыя пратэсты лета-восені 2020 года павысілі статус кантралёраў усіх колераў і адценняў.

Згадаем словы старшыні КДБ Івана Церцеля: «Ёсць канкрэтнае даручэнне кіраўніка дзяржавы па мінімізацыі пагрозаў. Будзем працаваць, накіраваныя на эфектыўнае рашэнне задач. Абстаноўка ў краіне, паводле нашых ацэнак, будзе стабільнай. Праваахоўныя органы маюць дастаткова сіл і сродкаў для рэагавання на рознага роду пагрозы».

Цікава, якое месца ў спісе пагроз, якія пастаянна маніторыць КДБ, займаюць пагрозы, што зыходзяць ад беларускай выбарчай сістэмы? Шукаць арсеналы з тратылам і пластыдам — справа, безумоўна, важная. Але як бы ні паўтарыліся гісторыі «Белага легіёну» і так званых «вагнераўцаў».




## Капіталізм — ад слова «капітал»

Згодна з Вялікай савецкай энцыклапедыяй, эканамічную аснову сацыялізму складае грамадская ўласнасць на сродкі вытворчасці, палітычную аснову — улада працоўных масаў пры кіруючай ролі працоўнага класа на чале з марксісцка-ленінскай партыяй. Асноўнымі ж прыкметамі капіталізму з'яўляецца панаванне таварна-грашовых адносін і прыватнай уласнасці на сродкі вытворчасці. Мэта капіталістычнай вытворчасці — прысваенне створанай працай наёмных рабочых дадатнай вартасці.

З Вялікай савецкай энцыклапедыяй не паспрачаешся. Крыніца больш чым аўтарытэтная. На жаль, пра асаблівасці беларускай мадэлі яна не паведамляе. Дапытлівым даводзіцца арыентавацца на выказванні АП. Абмяжуюся адным, якое пацвярджае рацыю Маркса: «Калі вы багатыя, то гэта за кошт сваіх работнікаў!»

Вось такія яны, беларускія капіталісты! Яны не аналізуюць рынкі, не складаюць бізнес-планы, не арганізоўць тэхналагічныя ланцужкі і збыт прадукцыі, не займаюцца пошукам крэдытаў і не бяруць на сябе камерцыйныя рызыкі. Яны самі нічога не робяць і жыруюць выключна за кошт сваіх работнікаў.

Тым не менш у Беларусі ёсць пэўная колькасць капіталістаў. Пры ўмове адмаўлення ад палітычнай дзейнасці ім дазвалялася займацца валтузнёй на сваіх прадпрыемствах. Іншая справа — дзяржаўныя прадпрыемствы. Аднак і з імі не ўсё так адназначна. Ад сацыялізму савецкага ўзору ў нас засталіся вартыя жалю драбніцы, але да панавання таварна-грашовых адносін, уласцівых капіталізму, нам яшчэ ісці і ісці.

**Цікава, якое месца ў спісе пагроз, якія пастаянна маніторыць КДБ, займаюць пагрозы, што зыходзяць ад беларускай выбарчай сістэмы? Шукаць арсеналы з тратылам — справа, безумоўна, важная. Але як бы ні паўтарыліся гісторыі «Белага легіёну» і так званых «вагнераўцаў»**

Капіталізм — ад слова «капітал». Галоўнае ж прызначэнне капіталу палягае ў стварэнні дадатнай вартасці і выманні прыбытку. Прыбытковыя дзяржаўныя прадпрыемствы знайсці ў Беларусі яшчэ можна, але калі мы адмінусуем усе бонусы і прэферэнцыі, якія гарантаваныя ім заканадаўчымі і падзаконнымі актамі, усе прамыя і ўскосныя субсідыі з дзяржаўнага бюджэту і ўсе «правільныя» рашэнні судоў, дык што застанецца ў сухім астатку?

Застануцца страты, паслядоўнае знішчэнне сыравіны, абаротнага капіталу і працоўнай сілы, што ўдзельнічаюць у працэсе вытворчасці. Да капіталізму такі від дзейнасці дачынення не мае.

## Вопыт маецца

Найноўшая гісторыя вытворчасці беларускіх матацыклаў і ровараў — гэта гісторыя даўгоў. Кожны ахвочы можа лёгка азнаёміцца з ёй на сайце газеты «СБ. Беларусь сегодня». Абмяжуюся цытатай ад 22 чэрвеня 2017 года: «У Эканамічны суд Мінска накіраваная заява аб прызнанні ААТ "Мотавела" банкрутам. Дакумент падпісаў гендырэктар прадпрыемства Мікалай Ладуцька.

"Мотавела" — даўжнік у сямі банкаў. Да прыкладу, "Белгазпрамбанку", паводле іх заявы ў Эканамічны суд, завод завінаваціўся прыкладна $9 мільёнаў. Латвійскаму "Рыетуму Банка" — €7,138 мільёна. "Беларусбанк" патрабуе вярнуць $1,9 мільёна...»

Візіт АП на прадпрыемства 5 сакавіка пацвердзіў, што ўдыхнуць новае жыццё ў вытворчасць беларускіх матацыклаў і ровараў на капіталістычнай аснове не плануецца. Па традыцыі, якая склалася за чвэрць стагоддзя, пачнуць з «вырашэння праблемных пытанняў, звязаных з назапашанымі даўгавымі абавязацельствамі». Наступны крок — падрыхтоўка ўказа, у якім будуць прапісаныя «тыя ці іншыя льготы». У тым, што абедзве задачы будуць вырашаны паспяхова, сумнявацца не даводзіцца. Як па асобных прадпрыемствах, так і па беларускай мадэлі ў цэлым адпаведнага вопыту дзяржаўным кіраўнікам не займаць.

## Феадалізм з прэфіксам «неа»

Капіталізм у Беларусі так і не склаўся. Няма яго і ў Расіі, і ва Украіне. Рэальнасць жа, дадзеная народам славянскага трохкутніка ў адчуваннях, па сваіх базавых характарыстыках нагадвае феадалізм.

Па каментар звернемся да працы «Нацыянальныя асаблівасці ўкраінскай эліты», падрыхтаванай Міжнародным інстытутам палітычнай філасофіі:

«Пераразмеркаванне раней "агульнанароднай" уласнасці паміж грамадзянамі магло пайсці як па капіталістычным, так і па неафеадальным шляху: у першым выпадку ўласнасць ператвараецца ў капітал, у другім — у багацце.

Прымнажэнне капіталу звязанае з інвестыцыямі і інавацыямі ды абапіраецца на эканамічныя веды і тое, што прынята называць "духам прадпрымальніцтва".

У аснове прымнажэння багацця ляжаць прывілеі, што мы спрошчана называем "блізкасцю да ўлады", якая вызначаецца асабістай лаяльнасцю. У адрозненне ад класічнага феадалізму, дзе аб'ектам лаяльнасці з'яўляецца сюзерэн, пры неафеадалізме — бюракратычны апарат, які часцяком увасабляецца асобнымі чыноўнікамі».

У Расіі і ва Украіне багацце ў сваіх руках сканцэнтравалі алігархі і чыноўнікі, у Беларусі ж, якая корміцца з расійскай рэнты, для кантролю за асноўнымі матэрыяльнымі і фінансавымі патокамі хапіла аднаго чалавека, але сутнасці гэта не мяняе.

Адмова ад мадэрну (правал у феадалізм, хай і з прэфіксам «неа») — гэта тое, што аб'ядноўвае сёння тры братэрскія народы.

**(Працяг будзе)**

**ДЫНАМІКА ВЫТВОРЧАСЦІ МАТАЦЫКЛАЎ (ШТ.)**

| 2000 | 2005 | 2010 | 2015 | 2020 |
|---|---|---|---|---|
| 36 561 | 5 959 | 3 176 | 1 544 | 4 263 |



Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

# Самы сакрэтны дакумент урада

Таццяна ЛІСІЧЭНКА

**Сярод праваабаронцаў з пачатку жніўня ходзіць показка: «Ніколі такога не было — і вось зноў». У тым сэнсе, што тое, што адбываецца навокал, ужо было, але грамадства гэтага не заўважала. Аднак адзін крок нашага ўрада сапраўды прэтэндуе на званне «ніколі такога не было». Урад засакрэціў сваю пастанову «Аб сацыяльна-эканамічным развіцці Рэспублікі Беларусь на 2021 год».**

## Не вельмі і хацелася...

Такая сакрэтнасць — вельмі дзіўная. Па-першае, падобныя дакументы былі, хутчэй, прапагандысцкімі. Проста народу паказвалася, што ў планах дзяржавы — стабільнае эканамічнае развіццё. А значыць, заклік «Квітней, Беларусь!» мае пад сабой нейкі грунт.

Па-другое, усе гэтыя пастановы былі не вельмі блізкія да рэальнасці. Возьмем хаця б аналагічны план на мінулы год.

Напрыклад, прагноз сацыяльна-эканамічнага развіцця на 2020 год прадугледжваў рост ВУП на 2,8% (рэальна — мінус 0,9% паводле афіцыйнай статыстыкі), рост рэальных наяўных грашовых даходаў насельніцтва — на 2,4% (паводле Белстату гэты паказчык нават перавыкананы — 4,6%). Прадукцыйнасць працы па ВУП павінна была вырасці на 2,6%, а рэальна — знізілася на 0,5%. Планаваўся рост экспарту тавараў і паслуг на 3,6%, але «каранасіхоз» абваліў гэты паказчык аж да мінус 11,7%. Зразумела, у выніку засталася нявыкананай задача займець станоўчае сальда знешняга гандлю таварамі і паслугамі на плюс 1% да ВУП. Прамыя замежныя інвестыцыі на чыстай аснове планаваліся ў памеры $1,7 мільярда, а склалі $1,3 мільярда. Прычым гэтыя $1,3 мільярда Мінфін палічыў як інвестыцыі «ў рэальны і банкаўскі сектары эканомікі Рэспублікі Беларусь, а таксама ў продаж нерухомай маёмасці». Інфляцыя закладвалася не больш за 5%...



Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

Як бачым, выкананы толькі адзін пункт прагнозу. І тое не ведаеш, радавацца з гэтай нагоды ці сумаваць. Рост рэальных наяўных грашовых даходаў насельніцтва на 4,6% пры зніжэнні прадукцыйнасці працы на 0,5% і падзенні ВУП на 0,9% ясна паказвае: гэтых грошай мы не зарабілі. Улады проста пагуляліся са статыстыкай і з друкарскім станком: адсюль і інфляцыя ў 7,4%, што ў паўтара разы большая за прагнозныя 5%.

Але дрэнныя былі мэты прагнозу ці добрыя, рэалістычныя ці не, — яны ўсё-такі былі. Урад хаця б казаў, на што трэба арыентавацца і якія зыходзячы з гэтага крокі рабіць у эканоміцы краіны.

Цяпер мэтаў, да якіх ураду трэба імкнуцца, дэ-факта, няма. Засакрэчванне прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця можа сведчыць, што ўлады проста не могуць растлумачыць яго насельніцтву. А значыць, самі не разумеюць, што рабіць, куды рухацца, да чаго імкнуцца. Няма ні стратэгіі, ні тактыкі, як гэтага развіцця дасягнуць. І, мабыць, урад будзе проста рэагаваць на ўзнікаючыя выклікі — сітуацыйна.

Аднак сітуацыйнае рэагаванне ніколі не прыводзіла да росту і развіцця. У лепшым выпадку, у час сітуацыйнага рэагавання толькі ставілі латкі на прарэхі ў беларускай эканоміцы. У горшым — наяўнасць гэтых дзірак проста канстатаваліся.

## Няма справы да «ябацек»

У той жа час улада чарговым разам паказала, чаго для яе вартае меркаванне народа. Прычым нават не таго народа, які вывешвае ў вокнах бел-чырвона-белыя сцягі і патрабуе яе сыходу. Наплявалі, у першую чаргу, на меркаванне сваіх жа прыхільнікаў.

Памятаеце, з якімі ўзнёслымі тварамі «ябацькі» ішлі ў цэмры на Усебеларускі народны сход? Так, вядома, былі там і такія, якія ведалі, што ад іх меркавання нічога не залежыць. Аднак гэтыя людзі ўсімі сіламі спрабавалі ўхіліцца ад удзелу ў гэтым мерапрыемстве. А тыя, у каго ўхіліцца не атрымалася, ці свядомыя ўдзельнікі сходу аднагалосна прынялі чарговую «лёсавызначальную» рэзалюцыю.

У прыватнасці, у гэтай рэзалюцыі гаварылася: «Ключавымі эканамічнымі фактарамі ў бягучай пяцігодцы будуць эфектыўнае размеркаванне рэсурсаў, удасканаленне сістэмы кіравання дзяржактывамі, роўнае развіццё арганізацый усіх формаў уласнасці... Галоўнымі ў сацыяльна-эканамічнай палітыцы застануцца надзённыя пытанні жыцця людзей — справядлівае цэнаўтварэнне, прымальныя тарыфы на асноўныя паслугі, эфектыўная занятасць і забеспячэнне годнай аплаты працы».

І ў гэтай жа рэзалюцыі было вырашана «даручыць дзяржаўным органам прыняць вычарпальныя меры па дасягненні пастаўленай мэты і рэалізацыі прыярытэтных напрамкаў сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны».

Дзе мы бачым «рэалізацыю прыярытэтных напрамкаў сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны»? Правільна, нідзе, таму што яны засакрэчаныя. То-бок, усё, дзеля чаго «ябацькі» два дні праседжвалі штаны ды ездзілі ў Мінск, выкінутае ў сметніцу. Яны стварылі патрэбную карцінку — і ўсё. Цяпер іх меркаванне і іх рашэнні нікога не цікавяць. Вось такія яны — «усенароднае абмеркаванне», «лёсавызначальныя рашэнні» і павага ўлады да думкі сваіх жа прыхільнікаў.

## Сакрэтнасць ад розуму?

Ёсць яшчэ адно, больш прыемнае, але больш песімістычнае тлумачэнне «засакрэчвання» прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця. Мажліва, гэта зроблена ў сувязі з тым, што ні пра якое «развіццё» ў прагнозе гаворкі няма, і ўсе параметры гэтага дакумента сведчаць, што эканоміка Беларусі будзе каціцца ў прорву.

Чаму такое тлумачэнне песімістычнае — зразумела, але чаму «прыемнае»? Таму што тады давядзецца прызнаць: ва ўрадзе сядзяць людзі, якія цвяроза ацэньваюць сённяшнюю сацыяльна-эканамічную і палітычную сітуацыю. Яны ўсведамляюць, што Беларусь знаходзіцца ў глыбокім крызісе, і на гэты крызіс збіраюцца рэагаваць у меру сваіх сіл і магчымасцяў. Усё ж, напэўна, людзі не проста так трапляюць на міністэрскія пасады?

Прыкладна так разважае эканаміст Леў Марголін.

«Я не думаю, што ва ўрадзе няма плана, план у іх, хутчэй за ўсё, ёсць. Іншая справа, што назва гэтага плана сведчыць не пра тое, пра што ён складзены. Ні пра якое сацыяльна-эканамічнае развіццё ў 2021 годзе гаворка ісці не можа. Калі называць рэчы сваімі імёнамі, то, напэўна, гэты план павінен быў бы называцца “План выратавання беларускай эканомікі ў 2021 годзе”. Зразумела, што пры бягучай сітуацыі эканоміка рана ці позна абрынецца. Але можна зрабіць, каб яна не паваліліся ў 2021 годзе, а паваліліся ў 2022-м. Гэта значыць, у нас — як звычайна: “Дзень прастаяць ды ноч пратрымацца”.

І менавіта таму, што развіцця няма, а гаворка ідзе пра нейкія мабілізацыйныя меры, якія павінны даць магчымасць вытрымаць гэты перыяд у надзеі на нешта лепшае, — гэта і прымушае засакрэчваць дакумент. Таму што, у адваротным выпадку, ён можа толькі ўзмацніць паніку, а паніка — гэта непажаданая з'ява як на грашовым рынку, так і на таварных рынках, і гэтак далей», — лічыць Марголін.

Акрамя таго, эканаміст адзначае: паміж планамі самімі па сабе і ажыццяўленнем гэтых планаў — вялікая розніца. «Наяўнасць плану не кажа пра яго ажыццяўляльнасць — сапраўды гэтак жа, як планы, агучаныя на 2025 год, таксама не азначаюць, што яны будуць выкананыя. Хутчэй, наадварот: любы студэнт першага курса эканамічнага факультэта разумее, што гэтыя планы — невыканальныя ў прынцыпе. Так і тут: планы ёсць, але адзінае, што яны рэальна адлюстроўваюць, — існуючую сітуацыю. Таму іх і засакрэцілі — каб не палохаць людзей», — кажа эксперт.

Пра тое, што ж можа быць у гэтым дакуменце, нам застаецца толькі здагадвацца. «Можа, у гэтым плане ідзе гаворка пра тое, што трэба ў кожным раённым цэнтры размясціць вайсковыя часткі — на ўсялякі выпадак. Можа — прыгатавацца да ўвядзення картак, як у пачатку 1990-х гадоў. Усё можа быць. Але факт застаецца фактам: калі дакумент засакрэчаны, то, як мінімум, ён існуе».

## Ці дапаможа «сакрэтны план»?

Агульную ж сітуацыю ў эканоміцы Леў Марголін параўноўвае з тым самым засакрэчаным дакументам урада Галоўчанкі: няма дакладнай інфармацыі — і няма пэўнасці. «Для таго, каб цяпер даваць нейкія ацэнкі бягучай сітуацыі, у нас недастаткова інфармацыі. Але тэндэнцыі вызначыліся. Па-першае, эканоміка, пазбаўленая інвестыцый, — гэта як аўтамабіль, пазбаўлены заправкі. Нейкі час ён будзе ехаць, пакуль ёсць бензін у баку, але колькі засталося гэтага бензіну — незразумела. Па-другое, золатавалютныя рэзервы Беларусі памяншаюцца. Але якая частка з іх ліквідная, а якая не — незразумела. У ЗВР жа ёсць і злІткі, і манетарнае золата, а гэта такая рэч, якую мы ацэньваем па адной цане, але калі заўтра іх спатрэбіцца тэрмінова прадаць, цана можа рэзка ўпасці. Зноў жа, мы не ведаем валютны склад нашых ЗВР — там могуць быць і расійскі рубель, і юань. Яшчэ трэба мець на ўвазе рост знешняй запазычанасці, і запазычанасці наогул... Таму казаць нейкімі канкрэтнымі фразамі пра сённяшні эканамічны стан складана. Эканоміка — такая рэч, якая не бурыцца ў адзін момант, як гэта бывае з палітычнымі рэжымамі», — адзначае Марголін.

Па яго словах, «уваходныя ўмовы», — тое, што існуе цяпер, — паказваюць, што эканоміка ідзе да краху. Але наколькі доўгі будзе гэты шлях?

«Мяркуючы па тым, што план выратавання эканомікі засакрэчаны, гэта шлях, напэўна, будзе не вельмі доўгі», — адзначае эксперт.

Дзіяна СЕРАДЗЮК

# Паралімпіец Аляксандр Ігнатовіч: «Я паглядзеў на сваю краіну па-новаму»

**«Я спартсмен, а ў спартсмена павінна быць цвёрдая грамадзянская пазіцыя», — гаворыць паралімпіец Аляксандр Ігнатовіч. Ён адзін з першых падпісаў ліст Свабоднага аб'яднання спартсменаў супраць фальсіфікацыі выбараў і гвалту. У інтэрв'ю «Новаму Часу» Аляксандр распавёў пра тое, з якімі праблемамі сутыкнуўся ў спорце і ў жыцці.**



Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

## Ракавая траўма і шлях у спорт

З Аляксандрам Ігнатовічам мы сустракаемся каля аднаго з цэнтраў настольнага тэніса ў Мінску, дзе ён трэніруецца. У сваe 30 з невялікім, ён — майстар спорту па футзале, настольным тэнісе, васьміразовы чэмпіён Беларусі і шматразовы чэмпіён і прызёр міжнародных спаборніцтваў, дзесяціразовы чэмпіён Беларусі і ўдзельнік чэмпіянату Еўропы–2019 па настольным тэнісе. Вывучыўся на праграміста, працуе менеджарам па продажы камп'ютарнай тэхнікі, мае каханую жонку і дзяцей, водзіць машыну. А яшчэ ў яго інваліднасць.

Аляксандр нарадзіўся ў сям'і ваеннага ў Магдэбургу, потым бацьку накіравалі служыць ва Узбекістан. Так здарылася, што ў тры гады Саша трапіў пад матацыкл. Атрымаў чэрапна-мазгавую і спіннамазгавую траўмы, і дактары не давалі ніякіх добрых прагнозаў. Саша не мог нават сядзець без дапамогі. Але паступова ён стаў адчуваць сябе лепш. Сашу хацелі адправіць на рэабілітацыю ў Маскву, але тут разваліўся Савецкі Саюз, і бацьку хлопца перавялі на радзіму ў Беларусь.

Дактары з года ў год проста перапісвалі дыягназ Аляксандра. Але, пасталеўшы, ён захацеў разабрацца ў сваёй праблеме. Аказалася, што ў яго нервовым спінальным канале ёсць пустоты, і гэта перашкаджае цалкам аднавіцца пасля траўмы. Гэтая з'ява называецца сірынгамелія, вылечыць яе немагчыма і трэба рэгулярна кантраляваць, ці не паявілічваюцца пустоты.

Саша пайшоў у спорт. Услед за старэйшым братам. Пачалося ўсё з гандбола. Потым — футзал, настольны тэніс, плаванне…

— Мне прапанавалі паспрабаваць сябе ў плаванні, але на той момант я плаваць яшчэ не ўмеў. Мяне спрабавалі вучыць, але нічога не атрымлівалася. І неяк у сёмым класе мы пайшлі з сябрамі на рэчку. Мяне стала зносіць плынню, і водарасці пачалі чапляцца за ногі. Я набраў паветра, лёг на ваду і стаў грэбсці рукамі — і ў мяне атрымалася праплысць! — прыгадвае Аляксандр.

## Пайшоў у каледж, бо там была секцыя па настольным тэнісе

З 1 да 11 класа Аляксандр жыў у гарадскім пасёлку Рось. Пасля школы паступіў вучыцца ў радыётэхнічны каледж у Мінску.

— Я ўсё жыццё марыў быць эканамістам, але зразумеў, што інжынерна-тэхнічная адукацыя больш запатрабаваная, і я пайшоў на праграміста, — прызнаецца Аляксандр.

Адметна, што каледж ён выбіраў паводле наяўнасці там секцыі настольнага тэніса.

— Я прыходжу ў каледж, запытваюся пра тэнісны стол. Мне кажуць, што ён быў, але яго даўно ўжо спісалі. Але я пайшоў да загадчыцы, і цягам месяца каледж набыў два тэнісныя сталы, і ў нас з'явіліся трэніроўкі.

Але з плаваннем тым часам усё чамусьці заглухла. Жывучы ў Росі, Аляксандр выступаў на спаборніцтвах за Гродна. Аднойчы паехаў на чэмпіянат Беларусі, і, да свайго здзіўлення, выйграў яго. Потым стаў плаваць на разрад кандыдата ў майстры спорту. Але пасля пераезду ў Мінск маладога чалавека перасталі запрашаць на спаборніцтвы па плаванні.

— Гэта крыўдна, бо ўсе крычаць, што трэба развіваць спорт, павінна быць матывацыя, каб людзі з інваліднасцю маглі ім займацца, а тут абразаецца колькасць удзельнікаў. Апошнія шэсць гадоў я не плаваю, хоць кажуць, што будуць запрашаць, — зазначае Аляксандр.

## «Выступаеш дрэнна, вінаваты ты. Добра — дзяржава ставіць сабе птушачку»

Затое ў каледжы ў яго жыцці з'явіўся футбол. Каманда, у якой гуляў Аляксандр, ездзіла на чэмпіянаты Беларусі, на спаборніцтвы ў Расію і ва Украіну. Супернічаць даводзілася нават з паралімпійскімі чэмпіёнамі Алімпіяды ў Сіднеі.

— Увесь час нам абяцалі, што ў Беларусі з'явіцца федэрацыя паралімпійскага футбола, каб можна было ўдзельнічаць у чэмпіянаце свету з магчымасцю атрымаць ліцэнзію на Паралімпійскія гульні. Але аднойчы два нашы трэнеры не сышліся ў меркаваннях і вырашылі падзяліцца. Бо адзін разглядаў спорт як спосаб рэабілітацыі дзяцей, а ў нас была мэта на вынік. З гэтага часу ў наш бок пасыпаліся пагрозы і абвінавачанні.

У выніку каманду выключылі са спаборніцтваў.

З праблемамі Аляксандр сутыкнуўся не толькі ў футболе, але і ў настольным тэнісе.

— У нас ёсць толькі чэмпіянат рэспублікі, і ён абсалютна не рэйтынгавы. Ты не можаш зразумець, на якім узроўні гуляюць спартсмены за мяжой. Так, у нас адкрыты чэмпіянат, і на яго рэгулярна прыязджаюць літоўцы. Але гэта не той узровень, каб зразумець, да чаго трэба імкнуцца.

Неўзабаве Аляксандру надакучыла спадзявацца на некага, і ў 2019 годзе ён на краўдфандынгу сабраў грошы на паездку на чэмпіянат Еўропы ў шведскі Хёльсінгборг — узнос туды каштуе 1200 еўра.

— Людзі дапамаглі сабраць мне грошы, я паехаў з трэнерам і яшчэ з адной дзяўчынай з Брэста. І нам пастаянна тэлефанавалі з федэрацыі спорту, хаця яны не ўклалі ні капейкі, і запытваліся: «Ну як спартсмены?» І такая сітуацыя заўжды: калі ты выступаеш дрэнна, то вінаваты ты альбо трэнер. А калі добра — то дзяржава адразу ставіць сабе «птушачку», бо гэта нашы трэнеры і спартсмены, і мы прыклалі для гэтага ўсе намаганні.

Аляксандр распавядае, што падчас чэмпіянатаў Беларусі ў Раўбічах ці Стайках пражыванне даводзіцца выбіваць праз скандал.

— Калі чэмпіянат праходзіць на адлегласці ад Мінска, і кожны дзень даводзіцца ездзіць туды-сюды — дзе канкурэнтныя магчымасці для спартсменаў? Нехта ў гэты час адпачывае, а ты едзеш дадому. І калі заўтра спаборніцтвы пачынаюцца а 9-й раніцы, ты думаеш, як табе ўстаць а 5-й, каб даехаць туды.

Па словах суразмоўцы, прызавыя налічэнні за першае месца на чэмпіянаце Беларусі цяпер складаюць 50 рублёў. Аляксандр кажа, што эквівалент гэтай жа сумы спартсмены атрымлівалі яшчэ ў 2002 годзе.

— А сёлета я даведаўся, што на чэмпіянаце Беларусі па плаванні нават не плацілі прызавыя за першае месца, — гаворыць паралімпіец.

## За працу і правы кіроўцы давялося змагацца

Аляксандр Ігнатовіч зазначае, што яму не даводзілася сутыкацца са стэрэатыпным стаўленнем да магчымасці чалавека з інваліднасцю займацца спортам. Часцей гэта выклікала захапленне, асабліва падчас спаборніцтваў са здаровымі людзьмі.

А вось з чым былі перашкоды, дык гэта з пошукам працы. Пасля вучобы ў каледжы Аляксандр планаваў па размеркаванні працаваць на «Інтэграле». Але на камісіі па размеркаванні яму заявілі, што месцаў няма, і яго ўзяць не могуць. Як высветлілася, прычынай адмовы стала інваліднасць. Тады Аляксандр запатрабаваў вольнае працаўладкаванне і стаў шукаць працу ў камп'ютарных фірмах. Для гэтага давялося прайсці праз мноства сумоўяў.

— Нікога не хвалявае мой узровень ведаў і магчымасці, усе глядзелі на мяне, як на вокладку для сваёй кампаніі. Нават выпрабавальны тэрмін ніхто не прапаноўваў.

За час пошуку працы Аляксандр паспеў атрымаць правы кіроўцы. Гэта таксама далося не так проста: тады, у 2010 годзе, бліжэйшым да Мінска месцам, дзе людзей з інваліднасцю вучылі кіраваць машынай, была Вілейка.

Калі Аляксандр прыйшоў па медыцынскую даведку, пачуў: у вас чэрапна-мазгавая траўма, вы не можаце кіраваць аўтамабілем. Для таго, каб атрымаць даведку, хлопец мусіў цягам пяці дзён прадаставіць вынікі МРТ, якія б засведчылі адваротнае. І ён гэта зрабіў.

Прыехаўшы ў Вілейку, ён са здзіўленнем убачыў, што з групы ў 20 чалавек 13 былі з Мінска, хоць яму казалі, што ў сталіцы групы не набіраюць, бо гэта незапатрабавана.

Паколькі ў Аляксандра праблемы з нагамі, яму выдалі дазвол на ручное кіраванне. Але, калі адна нага здаровая і дазваляе ездзіць на аўтамаце, то гэта можна рабіць. Таму ў аўташколе Аляксандр вучыўся на аўтамабілі не з ручным кіраваннем, а з камбінаваным.

Аляксандр набыў машыну і за 10 гадоў аб'ехаў на ёй мноства краін, але на медкамісіях яму ўвесь час пярэчаць, што ён не можа ездзіць на машыне з каробкай-аўтамат. Цяпер у яго дакументах кіроўцы пазначана мадыфікаванае ручное кіраванне.

## «У спартсмена павінна быць цвёрдая пазіцыя»

— Я спартсмен, а ў спартсмена павінна быць цвёрдая грамадзянская пазіцыя, — тлумачыць Аляксандр свой подпіс пад лістом Свабоднага аб'яднання спартсменаў.

Але яго прыклад падтрымала няшмат спартсменаў-паралімпійцаў, хаця Аляксандр кажа, што яны ў большасці падзяляюць яго пазіцыю, бо цяперашні ўзровень развіцця спорту і пенсіі іх не задавальняюць. Але яны маўчаць, бо баяцца страціць працу.

— Людзі з інваліднасцю баяцца, бо для іх гэта адзіны варыянт зарабіць, і калі іх выганяць, ім не будзе куды падацца. Сярод майго атачэння ёсць чалавек, які заўсёды крытыкаваў адсутнасць развіцця і стаўленне да людзей з інваліднасцю, але ён знайшоў працу ў сябе ў горадзе ў структуры спорту і падпісаў праўладны ліст.

Аляксандр разумее, што праблема — ва ўсёй сістэме. Рэгрэс ён назірае паўсюль, не толькі ў спорце, у якім ён ужо 20 гадоў, хаця гэты прыклад для яго найбольш яскравы. Па яго словах, Паралімпійскі камітэт ніяк не дапамагае яму, усе яго дасягненні — вынік уласнай працы і ўкладанняў.

Апошнім часам праз каронавірус трэніроўкі давялося абмежаваць, і Аляксандр звярнуўся ў Фонд спартыўнай салідарнасці з просьбай знайсці магчымасці, каб ён мог падтрымліваць сваю фізічную форму. Фонд падарыў Аляксандру прафесійны тэнісны стол. Цяпер спартсмен можа трэніравацца дома, і мае намер атрымаць ліцэнзію на Паралімпійскія гульні — у складзе зборнай Беларусі ці пад нейтральным сцягам.

— Мая мэта — паказаць уладам у Паралімпійскім камітэце і Міністэрстве спорту, што яны катэгарычна не маюць рацыі ў тым, якую палітыку праводзіць па развіцці спорту ў краіне. Нашы спартсмены могуць дамагчыся большага, калі ўкладваць у іх крыху больш любові, разумення і фінансавання.

Запытваюся, ці не было ў Аляксандра жадання памяняць умовы на больш спрыяльныя для спартыўнага развіцця і пераехаць у іншую краіну.

— У мяне былі такія думкі, калі я быў адзін, у мяне не было сям'і, — прызнаецца ён. — Але пасля жніўня 2020 года, калі суседзі пачалі пазнаваць адзін аднаго і вітацца, у мяне расплюшчыліся вочы. Я паглядзеў на сваю краіну па-новаму.

Калі я кручуся ў паралімпійскай супольнасці, мне заўжды здавалася, што здаровыя спартсмены, якія маюць пэўныя рэгаліі, стаяць на іншым баку барыкад, і ніколі мы з імі не будзем на роўных. Але насамрэч усё не так. Гэта такія ж самыя людзі, мы пасябравалі, у мяне шмат знаёмых сярод іх. Яны, як і ўсе беларусы, неверагодныя. І калі мы разам будзем працягваць у тым жа рэчышчы, у нас усё абавязкова атрымаецца.

Новы Час | 26 сакавіка 2021 | № 12 (720) | «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | №3



# Літаратурная Беларусь

Выпуск №3 (175)
(сакавік)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by

## Змест



# «Залатыя праменні 25 сакавіка»



Кастусь ЕЗАВІТАЎ

**У ноч з 24 на 25 сакавіка 1918 года ў Менску пасля доўгіх абгавораў і спрэчак Рада Беларускай Народнай Рэспублікі абвясціла незалежнасць Беларусі ад Расеі і выдала з гэтага поваду «Трэцюю Устаўную Грамату» да жыхарства Беларусі.**

Памеры і характар нашага часопіса не даюць нам магчымасці падрабязней спыніцца на гісторыі гэтага акта, а таму мы абмяжуемся толькі галоўнымі фактамі і этапамі, што падрыхтавалі гэты гістарычны акт.

...Усебеларускі Кангрэс, які адбыўся 5–18 снежня 1917 года (па старым стылі), абвясціў Беларусь Народнаю Рэспублікаю і абраў Раду Кангрэса і яе Выканаўчы Камітэт, якім даручыў скласці першы ўрад Беларусі і ўвайсці ў перагаворы з расійскім і ўкраінскім урадамі аб фармальным замацаванні федэрацыі з гэтымі рэспублікамі. Выконваючы даручэнне Кангрэса, Выканаўчы Камітэт Усебеларускага Кангрэса ў канцы снежня 1917 года звярнуўся да Масквы і Кіева з прапазіцыямі аб канстытуцыіраванні Федэрацыі. Але і Масква, і Кіеў, кожны з розных прычын, прапазіцыю гэтую адкінулі: Масква жадала і надалей панаваць над Беларуссю як сваёй калоніяй, а Украіна, якая толькі што абвясціла сваю незалежнасць ад Масквы, не жадала сябе звязваць ніякімі новымі дзяржаўнымі звязамі з Маскоўшчынай. Такім чынам працягнутая Беларуссю рука асталася ў паветры.

Беларуская грамадства, летуцеўшае ў той час аб Усеславянскай Федэрацыі і глядзеўшае на федэрацыю з Маскоўшчынай і Украінай як на першы крок у гэтым кірунку, — было дужа расчаравана гэткім адношаннем да прапазіцый Усебеларускага Кангрэса і змушана было зрабіць належныя вывады. І вось ужо 31 снежня 1917 года (па старым стылі, новы стыль на Беларусі ўведзены быў з 1 лютага 1918 года) на навагоднім банкеце, які адбыўся ў Менску ў Клубе «Беларуская Хатка», сябрамі Прэзідыума Беларускай Вайсковай Цэнтральнай Рады было рашуча пастаўлена пытанне аб абвяшчэнні незалежнасці Беларусі. Пасля адпаведных прамоў быў пушчаны ліст з кароткай дэкларацыяй: «Хай жыве Незалежная Беларуская Народная Рэспубліка!». Ліст гэты быў падпісаны ўсімі прысутнымі на банкеце беларускімі дзеячамі.

Гэты банкет і праведзенае на ім шляхам падпісання ліста папярэдняе галасаванне канчаткова вырашылі пытанне абвяшчэння Беларускае Народнае Рэспублікі незалежнаю. Аставалася толькі належным і аўтарытэтным чынам аформіць гэтую важную справу.

Разглядаючы падзеі 1917 і 1918 гадоў на Беларусі, трэба ўвесь час памятаць, што цераз усю Беларусь праходзіў нямецка-расейскі фронт, які адрэзаў Заходнюю Беларусь ад Цэнтральнай і Усходняй Беларусі, ды што ўся Цэнтральная Беларусь была набіта расейскімі вайскоўцамі і рознымі расейскімі грамадскімі арганізацыямі, абслугоўваўшымі армію. У беларускіх гарадах, асабліва ў Менску, дзе стаяў штаб Заходняга фронту, расейская прыезджая інтэлігенцыя ўваходзіла ў значнай лічбе ў гарадскія і нават земскія самаўрады, дзе мела вялікі ўплыў і ў хаўрусе з яўрэйскімі домаўласнікамі ды польскімі і расейскімі абшарнікамі ўсімі спосабамі перашкаджала працы Выканаўчага Камітэта Усебеларускага Кангрэса.



Члены Народнага Сакратарыята БНР. Сядзяць Алесь Бурбіс (консул БНР), Янка Серада, Язэп Варонка (старшыня ), Васіль Захарка, стаяць — Аркадзь Смоліч, Пётр Крачэўскі, Кастусь Езавітаў, Антон Аўсянік, Лявон Заяц

Прайшло некалькі тыдняў, пакуль Выканаўчы Камітэт і Рада Усебеларускага Кангрэса настолькі ўмацаваліся, што здолелі з дапамогай Беларускай Вайсковай Цэнтральнай Рады ўзяць уладу ў Менску ў свае рукі і стварыць першы Урад Беларусі — Беларускі Народны Сакратарыят. Здарылася гэта 19 лютага 1918 года, калі Беларуская Вайсковая Цэнтральная Рада, скарыстаўшы абставіны і абапершыся на беларускіх вайскоўцаў і свядомую моладзь у Менску, захапіла горад і яго ваколіцы ў свае рукі і стварыла ў Менску Беларускую Камендатуру і 1-шы беларускі пяхотны полк.

Расейская армія, у якой панаваў тады поўны развал, адступіла на Усход, за Оршу, на лінію Дзвіна–Дняпро і беларусам не перашкаджала. Затое на маладую беларускую ўладу адразу ж зрабілі напад польскія абшарнікі з Паўднёвае Меншчыны, якія мелі ў раёне Бабруйска сканцэнтраваны польскі корпус генерала Даўбар-Мусніцкага. Частка гэтага корпуса адразу была кінута на Менск з паўднёвага боку, каб зліквідаваць беларускую ўладу і захапіць Цэнтральную Беларусь і беларускую сталіцу ў польскія рукі. Аднак гэтыя захопніцкія планы палякаў на той раз не ўдаліся, бо хутка ў справу ўмяшаліся немцы, якія павялі наступ на Менск з захаду і акупавалі яго.

Нямецкая акупацыйная армія спыніла беларуска-польскія сутычкі ў дужа арыгінальны спосаб: яна абяззброіла як палякаў, так і беларусаў, пры гэтым польскія вайсковыя часткі былі перавезены з Беларусі ў Польшчу, а беларускія вайскоўцы былі інтэрнаваны. Зліквідаваўшы польскую пагрозу, акупацыйная армія не спыніла працы Народнага Сакратарыята Беларускай Народнай Рэспублікі, які застаўся ў Менску і нягледзячы на розныя абмежаванні і перашкоды з боку акупантаў лічыў сябе і ўважаўся ўсім жыхарствам за адзіную законную ўладу на Беларусі.

Пасля стварэння Беларускага Народнага Сакратарыята і пераходу ўлады ў рукі беларусаў расейскія і яўрэйскія партыйныя арганізацыі, а таксама Менскі гарадскі і земскі самаўрады зрабіліся больш лагоднымі і выказаліся за поўнае супрацоўніцтва з Радай Усебеларускага Кангрэса і яе арганізацыямі Выканаўчым Камітэтам і Беларускім Народным Сакратарыятам. У выніку гэтае беларускае перамогі аказалася магчымым сканструяваць Беларускі Прадпарламент, які аб'яднаў у сабе:

Працяг на стар. 8 (2) »

Кастусь Езавітаў — паэт, публіцыст, дзеяч беларускага нацыянальнага адраджэння — нарадзіўся ў 1893 годзе ў Дзвінску (цяпер Даўгаўпілс, Латвія). Скончыў Віцебскі настаўніцкі інстытут і Паўлаўскае вайсковае вучылішча ў Пецярбургу. У чыне паручніка ўдзельнічаў у Першай сусветнай вайне. Арганізаваў у сваім пяхотным палку беларускую групу, ад імя якой быў выбраны дэлегатам на з'езд беларусаў Паўночнага фронта (Віцебск). Увайшоў у склад Цэнтральнай Беларускай Вайсковай Рады, быў дэлегатам Першага Усебеларускага кангрэса. За ўдзел у яго рабоце і за стварэнне беларускага войска ў студзені 1918 года арыштаваны ЧК. Пасля адступлення бальшавікоў быў прызначаны камендантам Менска і Менскага гарнізона і ўзначаліў беларускі полк. У сакавіку 1918 года ўвайшоў у Раду Беларускай Народнай Рэспублікі, удзельнічаў у абвяшчэнні дзяржаўнай незалежнасці Беларусі. У першым урадзе БНР — народны сакратар унутраных спраў, а потым — сакратар асветы. Атрымаў званне палкоўніка.

У 1919–1920 гадах узначальваў вайскова-дыпламатычную місію БНР у Латвіі і Эстоніі. У 1920-м урад БНР прысвоіў яму званне генерал-маёра. У 1921 годзе, калі пасля Рыжскай дамовы Заходняя Беларусь перайшла ў склад Польшчы, прыняў латвійскае грамадзянства і распачаў культурна-асветніцкую працу сярод этнічных беларусаў Латвіі. Працаваў дырэктарам беларускай гімназіі ў Дзвінску, потым у Люцыне.

Паводле афіцыйнай версіі, памёр пад час судовага следства 23 мая 1946 года, па іншых звестках — быў расстраляны.

Напісаў шэраг кніг і артыкулаў па гісторыі нацыянальна-вызваленчага руху, беларусазнаўстве. Аўтар лірычных вершаў, укладальнік школьных дапаможнікаў. Меў багаты кнігазбор, падрыхтаваў да друку невядомыя раней творы Максіма Багдановіча.

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 3 (175) | 26 сакавіка 2021 | № 12 (720) Новы Час

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 1 (7)

1) Раду і Выканаўчы Камітэт Усебеларускага Кангрэса, 2) Беларускую Цэнтральную Вайсковую Раду, 3) прадстаўнікоў ад беларускіх гарадскіх і земскіх самаўрадаў і 4) прадстаўнікоў ад усіх палітычных партый на Беларусі. Створаны на гэткім шырокім прадстаўніцтве Беларускі Прадпарламент быў названы Рада Беларускай Народнай Рэспублікі. У ёй былі рэпрэзентаваны ўсе краёвыя нацыянальнасці, самаўрады, кірункі і партыі, за выключэннем невялічкае групы беларускіх хрысціянаў і абшарнікаў, якія згрупаваны былі каля беларускага абшарніка Рамана Скірмунта і ўскладалі надзею на тое, што сваімі даносамі на Раду даб'юцца ад акупавальных Менск немцаў разгону Рады. Немцы, аднак, добра бачылі, што Рада штодзень болей набывае ў Краі папулярнасці і сімпатыяў, а таму разагнаць яе не адважваліся, хаця ж у Радзе і была непажаданая ім сацыялістычная большасць.

Хаця беларускія партыі і арганізацыі мелі ў Радзе большасць, аднак з актам абвяшчэння незалежнасці Беларусі яны не спяшаліся, бо хацелі, каб гэты акт быў вынесены як мага большаю лічбаю галасоў. З гэтай мэтай вяліся адпаведныя перагаворы з партыямі іншых нацыянальнасцяў у Радзе ды разам з тым чакаліся «беларускія рэзервы» з Заходняй Беларусі, якой таксама былі прадугледжаны 10 мандатаў у Радзе БНР.

24 сакавіка з'явіліся ў Раду прадстаўнікі Віленскай Беларускай Рады, лічба беларускіх галасоў павялічылася, апрача таго, атрымана была згода на абвяшчэнне незалежнасці Беларусі ад некаторых расейскіх і яўрэйскіх груповак. І пытанне аб прыняцці дэкларацыі з абвяшчэннем незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі было пастаўлена ў парадак дня. Пасля доўгіх спрэчак з расейскімі сацыялістамі-рэвалюцыянерамі, польскімі сацыялістамі і некаторымі яўрэйскімі групамі пад самую раніцу быў зроблены перапынак, а на світанні пераважнай большасцю галасоў была прынята «Трэцяя Устаўная Грамата» з абвяшчэннем незалежнасці Беларускае Народнае Рэспублікі.

Калі абвешчаны былі вынікі галасавання, у зале запанаваў урачыста-ўзняты настрой, беларускія сацыялісты заспявалі рэвалюцыйны беларускі гімн «Ад веку мы спалі, і нас разбудзілі!..». Уся Рада ўстала і дружна падхапіла гэтую хвалюючую магутную мелодыю з не захопліваючымі, як прысяга, словамі.

У гэты момант праз вокны ўдарылі першыя залатыя прамені наступаючага 25 сакавіка, і ўся зала афарбавалася ў нейкі містычна-ружовы колер. Захопленыя агульным уздымам, нават прадстаўнікі расейскіх сацыял-рэвалюцыянераў і яўрэі пасля адсяпванага гімна зрабілі ўрачыстыя заявы, у якіх падкрэслілі, што, лічачыся з стаўшымся фактам, яны таксама ўсімі сіламі будуць падтрымоўваць Беларускую Дзяржаву.

**1933 г.**

# «Залатыя прамені 25 сакавіка»

УСТАУНАЯ ГРАМАТА

РАДЫ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ.

Год назад народы Беларусі разам з народамі Расіі скінулі ярмо расійскаго царызму, які найцяжэй прыціснуу бyу Беларусь; ні пытаючыся народу, ен укінуу наш край у пажар вайны, якая чыста зруйнавала гарады і вескі беларускіе.

Цяпер мы, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, скідаем з роднаго краю апошняе ярмо дзяржаунай залежнасьці, якое гвалтам накінулі расійскіе цары на наш вольны і нізалежны край.

Ад гэтаго часу **Беларуская Народная Рэспубліка абвешчаецца Нізалежной і Вольной Дзяржавай.** Самі народы Беларусі, у асобі свайго **Установчаго Сойму**, пастановяць аб будучых дзяржауных зьвязях Беларусі.

На моцы гэтаго трацяць сілу усе старыя дзяржауныя зьвязі, якія далі магчымасьць чужому ураду надпісаць і за Беларусь трактат у Берэсьці, што забівае на сьмерць беларускі народ, дзелючы зямлю яго на часткі.

На моцы гэтаго урад Беларускай Народнай Рэспублікі мае увайсьці у адносіны з зацікауленымі старанамі, прапануючы ім пераглядзіць тую часьціну **Берэсьцейскаго Трактату**, якая датычыць Беларусі, і надпісаць міравую умову з усімі ваевaушымі дзяржавамі.

Беларуская Народная Рэспубліка павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае лічбенную перавагу беларускі народ, а ласьне: **Магілеушчыну, беларускія часьці Меншчыны, Гродзеншчыны (з Гродной, Белостокам і інш.), Віленшчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Чарнігоушчыны і сумежныя часьці суседніх губерняу, заселеныя беларусамі.**

Беларуская Народная Рэспубліка падцьверджывае усе тыя правы і вольнасьці грамадзян і народау Беларусі, якія абвешчаны **Устаунай Граматай ад 9 сакавіка 1918 году.**

Абвешчаючы аб нізалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, Рада яе пакладае свае надзеі на тое, што **усе любячые волю народы** дапамогуць беларускаму народу у поунай меры здейсьніць яго палітычна-дзяржауные ідэалы.

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі.

Дана у Менску-Беларускім
25 сакавіка 1918 году.

### «Граматы» новай дзяржавы

*Тры «Устаўныя Граматы» Беларускай Народнай Рэспублікі, прынятыя Выканаўчым Камітэтам Рады Усебеларускага З'езда (Радай БНР) у лютым і сакавіку 1918 года — першыя ў XX стагоддзі галоўныя дакументы, у якіх абвяшчалася воля беларускага народа і ў якіх былі сфармуляваныя галоўныя прыярытэты і каштоўнасці беларускай дзяржаўнасці.*

*«Першая Устаўная Грамата да народаў Беларусі» канстатавала асноўныя мэты і накірункі працы беларускага руху ў тагачасных умовах.*

*«Другая Устаўная Грамата да народаў Беларусі» абвяшчала Беларусь Народнай рэспублікай, жыхарам якой гарантуюцца асноўныя правы чалавека.*

*Паводле «Трэцяй Устаўной Граматы Рады Беларускай Народнай Рэспублікі» Беларусь упершыню ў найноўшай гісторыі абвяшчалася незалежнай і вольнай дзяржавай.*

*Дзень прыняцця «Трэцяй Устаўной Граматы» — 25 сакавіка — святкуецца беларусамі па ўсім свеце як Дзень Незалежнасці (Дзень Волі).*

### Першая Устаўная Грамата да Народаў Беларусі

Радзімая старонка наша апынулася ў новым цяжкім палажэнні. Дзе цяпер улада, што тут была, няведама. Мы стаімо перад тым, што край наш можа быць заняты нямецкім войскам.

Вы павінны ўзяць сваю долю ў свае ўласныя рукі.

Беларускі народ павінен здзейсніць свае права на поўнае самавызначэнне, а нацыянальныя меншасці на нацыянальна-персанальную аўтаномію.

Правы нацыяў павінна знайсці сваё здзейсненне шляхам склікання на дэмакратычных пачатках Установчага Сойма.

Але і да склікання Сойма ўся ўлада на Беларусі павінна належаць тым народам, якія на ёй жывуць.

Выканаўчы Камітэт Рады Першага Усебеларускага З'езда, дададзены прадстаўнікамі рэвалюцыйнай дэмакратыі нацыянальных меншасцяў, здзяйсняючы заданні З'езда, абвяшчае сябе тымчасовай уладаю на Беларусі, падыходзячаю да кіравання краем і да найхутчэйшага склікання Усебеларускага Установчага Сойма на аснове агульнага права для ўсякага дарослага насельніцтва, не рахуючыся з нацыянальнасцю, рэлігіяй і полам.

Тымчасовую народную ўладу краю, якая паставіць сабе заданне абароны і зацвярджэння здабыткаў рэвалюцыі, будзе здзейсніваць створаны намі Народны Сакратарыят Беларусі, які ад гэтага дня пачаў выпаўняць свае абавязкі. Персанальны склад Сакратарыята будзе апублікаваны потым.

**Дадзена ў Менску-Беларускім
21 (8) лютага 1918 рока
Выканаўчы Камітэт Рады Усебеларускага З'езда**

### Другая Устаўная Грамата да народаў Беларусі

У часе сусветнай вайны, што бурыць адны моцныя дзяржавы і аслабляе другія, абудзілася Беларусь да дзяржаўнага жыцця. Пасля трох з паловаю вякоў няволі ізноў на ўвесь свет кажа беларускі народ аб тым, што ён жыве і будзе жыць. Вялікі народны Збор — Усебеларускі З'езд 15–17 снежня 1917 рока, дбаючы аб долі Беларусі, зацвердзіў на яе землях рэспубліканскі лад. Выпаўняючы волю З'езда і бароначы дзяржаўныя правы народа, Камітэт Рады З'езда гэтак пастанаўляе аб дзяржаўным устроі ды аб правох і вольнасцях яе грамадзян і народаў:

1. Беларусь у рубяжох рассялення і лічэбнай перавагі беларускага народа абвяшчаецца Народнай Рэспублікай.

2. Асноўныя законы Беларускай Народнай Рэспублікі зацвердзіць Установчы Сойм Беларусі, скліканы на асновах агульнага, роўнага, простага, патаёмнага і прапарцыянальнага выбарчага права, не зважаючы на род, народнасць і рэлігію.

3. Да часу, пакуль збярэцца Установчы Сойм Беларусі, заканадаўчая ўлада ў Беларускай Народнай Рэспубліцы належыць Радзе Усебеларускага З'езда, дапоўненай прадстаўнікамі нацыянальных меншасцяў Беларусі.

4. Спаўняючая і адміністрацыйная ўлада ў Беларускай Народнай Рэспубліцы належыць Народнаму Сакратарыяту Беларусі, які назначаецца Радаю З'езда і перад ёю трымае адказ.

5. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі абвяшчаецца вольнасць слова, друку, сходаў, забастовак, хаўрусаў; безмоўная вольнасць сумлення, незачэпнасць асобы і памешкання.

6. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі ўсе народы маюць права на нацыянальна-персанальную аўтаномію; абвяшчаецца роўнае права ўсіх моваў народаў Беларусі.

7. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі права ўласнае ўласнасці на зямлю касуецца. Зямля перадаецца без выкупу тым, што самі на ёй працуюць. Лясы, вазёры і нутро зямлі абвяшчаюцца ўласнасцю Беларускай Народнай Рэспублікі.

8. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі ўстанаўляецца найбольшы 8-гадзінны рабочы дзень.

Абвяшчаючы ўсе гэтыя правы і вольнасці грамадзян і народаў Беларускай Народнай Рэспублікі, мы, Спаўняючы Камітэт Рады З'езда, абавязуемся пільнаваць законнага парадку жыцця ў Рэспубліцы, сцерагчы інтарэсаў усіх грамадзян і народаў Рэспублікі і захаваць правы і вольнасці працоўнага люду. А таксама даложым усіх сілаў, каб склікаць у найбліжэйшым часе Установчы Сойм Беларусі.

Усіх верных сыноў Беларускай Зямлі клічам памагчы нам у цяжкой і адказнай нашай працы.

**Спаўняючы Камітэт Рады 1-га Усебеларускага З'езда
Выдана ў Менску-Беларускім
9 сакавіка 1918 рока.**

### Трэцяя Устаўная Грамата Рады Беларускай Народнай Рэспублікі

Год таму назад народы Беларусі разам з народамі Расеі скінулі ярмо расейскага царызму, які найцяжэй прыціснуў быў Беларусь; не пытаючыся народу, ён кінуў наш край у пажар вайны, якая чыста зруйнавала гарады і вёскі беларускія.

Цяпер мы, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасці, якое гвалтам накінулі расейскія цары на наш вольны і незалежны край.

Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнаю вольнаю дзяржавай. Самі народы Беларусі ў асобе Установчага Сойма пастановяць аб будучых дзяржаўных звязях Беларусі.

На моцы гэтага трацяць сілу ўсе старыя дзяржаўныя сувязі, якія далі магчымасць чужому ўраду падпісаць і за Беларусь трактат у Берасці, што забівае насмерць беларускі народ, дзелячы зямлю яго на часткі.

На моцы гэтага ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі мае ўвайсці ў зносіны з зацікаўленымі старанамі, прапануючы ім перагледзець тую часціну Берасцейскага трактата, якая датычыць Беларусі, і падпісаць міравую ўмову з усімі ваяваўшымі дзяржавамі.

Беларуская Народная Рэспубліка павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае лічбенную перавагу беларускі народ, а ласьне: Магілёўшчыну, беларускія часці Меншчыны, Гарадзеншчыны (з Горадняй, Беластокам і інш.), Віленшчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны і сумежныя часці суседніх губерняў, заселеных беларусамі.

Беларуская Народная Рэспубліка зацвярджае ўсе тыя правы і вольнасці грамадзян і народаў Беларусі, якія абвешчаныя Устаўной Граматай ад 9 сакавіка 1918 рока.

Абвяшчаючы аб незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі, Рада яе пакладае свае надзеі на тое, што ўсе любячыя волю народы дапамогуць беларускаму народу ў поўнай меры здзейсніць яго палітычна-дзяржаўныя ідэалы.

**Рада Беларускай Народнай Рэспублікі
Дана ў Менску-Беларускім
25 сакавіка 1918 рока.**

# Галасы Беларусі

**Вершы з праекта wir.by**

Раман АБРАМЧУК

* * *

*А тым, хто застаўся ў падвале*
*савецкага раўса*
*куды не трапляе ані малітва Багародзіцы,*
*ані сігнал сотавага*
*на трэція суткі прыходзіць раўсовая фея*
*у дыядэме з гумовых дручкоў —*
*раздае пайку*
*тэлефануе блізкім*
*паведамляе пра месцазнаходжанне*
*змахвае слязу і абяцае*
*што дадуць*
*не болей*
*15-ці*

Аліна АГРЭНІЧ

* * *

*— Так,*
*мы запомнілі:*
*за адрознае меркаванне*
*цёмнагаловыя вы*
*правяраеце,*
*ці добра пасуе*
*кулак ваш*
*да нашых твараў*
*і бакавін.*
*А раскажыце,*
*бамбізы шаноўныя,*
*што рабіць з выслоўем*
*«колькі людзей —*
*столькі і меркаванняў»?*
*Гэта пытанне да вас пакуль*
*нумар адзін.*
*— Што ты, дзевачка,*
*з выслоўем рабіць*
*не трэба*
*нічога.*
*Глядзі глыбей:*
*меркаванне ваша пустое,*
*бо мы проста не лічым вас*
*за людзей.*

Кацярына ГЛУХОЎСКАЯ

**Галасы Беларусі**

*Намалюю карціну з зубрамі,*
*Каб вы знялі свае забралы.*
*Каб толькі не забіралі,*
*Не адымалі*
*маю маму,*
*майго сябра,*
*майго мужа,*
*майго брата,*
*майго тату,*
*маю сястру,*
*маю дачку хросную,*
*майго ненароджанага сына,*
*мае кветкі пажоўклыя,*
*мае парасткі сноў.*
*Каб не білі ў спіны.*
*Адмалюю маю Беларусь,*
*Адмалю яе*
*Словамі, якіх мала*
*Слабому сэрцу,*
*Магутнаму Божа.*
*Адмыю яе, быць можа,*
*Ад чорных слядоў,*
*Ад армейскіх ботаў.*
*Каб набела напісаць: «Беларусь жыве!*
*Прыгожа, прыгожа, прыгожа*
*Мая Беларусь жыве.*
*А ты як маешся?» —*
*І дасылаць паштоўкі ў белых капэртах*
*З усмешкамі на ўсе адрасы,*
*І ведаць, што маем годнасць.*
*Свае галасы*
*Ўзнімаць, не галосячы*
*З болю ці гневу,*
*А для спеваў.*

Вольга ГРОНСКАЯ

* * *

*Тут,*
*дзе адвечную песню пяе Белавежа,*
*дзе зямля і нябёсы вакол —*
*з пашырэннем "бай",*
*мы выходзім на вуліцы*
*ў чырвонай і белай адзежы*
*і штодня адчуваем наноў,*
*што вось гэта ўжо —*
*край.*
*Нас*
*гэты год пазнаёміў з сабой і суседам.*
*Мы вастрыць пачалі не сякеры —*
*свае радкі.*
*І калі небяспека — ратуюць глыбіні.*
*Мы ведаем:*
*у глыбінях не будзе страшна.*
*Бо дно — не ў ракі.*
*Тут*
*людзі без зброі насупраць людзей без пагонаў.*
*І літары SOS замест абарванага "Жы..."*
*лятуць у эфір з адключаных тэлефонаў,*
*з краіны,*
*ў якой мы сталі баяцца жыць.*
*З краіны, ў якой мы хочам застацца жыць.*

Артур КАМАРОЎСКІ

* * *

*твая самая чаканая цяжарнасць*
*напрыканцы лета*
*пасярод Еўропы*
*мы чакалі*
*калі адыдуць воды*
*гладзілі твой вялікі жывот*
*сваімі маленькімі рукамі*
*захіналі ў вялікія сцягі*
*слухалі*
*як унутры варушыцца будучыня*
*і мкнецца ў цяпер*
*мы баяліся*
*што яна будзе кволай*
*што будзе нягеглай*
*і яе не возьмуць у садок*
*яна не пойдзе ў школу*
*як іншыя дзеці Еўропы*
*што чакае яе замужжа і нялюбы муж*
*такі як наш бацька*
*што яна*
*самая малодшая ў нашай сям'і*
*ніколі не зведае шчасця й любові*
*тым вечарам неба —*
*наша бабка-павітуха —*
*надзела чырвонае з белым*
*каб узяць твой боль*
*самыя цяжкія твае роды*
*ты плакала*
*губляла прытомнасць*
*ачуньвала*
*але нараджала будучыню*
*мы стаялі вакол*
*усе твае дзеці*
*а бацька ў шаленстве хапаў нас*
*збіваў*
*і кідаў у турмы*
*ён хацеў і далей валодаць табой*
*мы трымаліся*
*трымалі твае вялікія рукі*
*чакалі*
*і жнівеньскім вечарам*
*будучыня нарадзілася жывой*
*і закрычыла*

Наста КУДАСАВА

**Голас маці**

***Памяці Рамана Бандарэнкі***

*Там людское заходзіцца мора, а я не веру.*
*Непамерные слова «памёр» не ідзе на язык.*
*Лепш завешу акно ды пайду*
*прыгатую вячэру,*
*вось жа бульба, віно, паляндвіца,*
*чабор, базілік...*
*Там людскі акіян захліпаецца*
*штормам на плошчах,*
*там нясуць на сцягах непад'ёмнае*
*слова «герой».*
*Што мне словы? Галоўнае, хутка*
*прыедзе мой хлопчык,*
*сядзе побач за стол, павячэрае*
*разам са мной...*
*А калі не прыедзе, я ўстану,*
*я выйду да Бога,*
*я скажу яму: «Ты, што зрабіў*
*з нашых сэрцаў агні!*
*Мне не трэба героя!*
*Вярні мне сына жывога!*
*Звычайнага сына жывога мне,*
*чуеш, вярні!».*



Малюнак Яўгеніі Зыблюк

Дар'я ЛІС

* * *

*Гэтыя хлопчыкі — дзеці цемры,*
*грахі неадмоленыя*
*сваіх дзядоў.*
*Павернешся спінай —*
*памрэш першым.*
*Ты слабак.*
*І твой сцяг — адстой.*
*Чужыя? Свае...*
*Хочаш спэўніць?*
*Ідзі.*
*Тваё неба з табой.*

Таццяна СВЕТАШОВА

* * *

*Я нарадзіўся тут. Я сам вінаваты.*
*Ведаў, на што ішоў.*
*Атрымаўшы зарплату, адразу куплю*
*даляры на ўсе.*
*Маю запас прадуктаў на два-тры тыдні*
*на выпадак заражэння.*
*Ведаю, як паводзіць сябе*
*пры затрыманні.*
*Як след запаролю тэлефон.*
*Схаваў нумар ў мэсэнджарах.*
*Сачу за аўтазакамі ў тэлеграме.*
*Наліў вады з-пад крана ва ўсю*
*наяўную тару.*
*Здаецца, нічога не забыў?.. —*
*А што я хацеў? А што я хацеў?*
*А чаго ж, чаго захацелася мне?*
*Я нарадзіўся тут. Я ведаю правілы.*
*Я нарадзіўся тут. Я азнаёмлены*
*і нязгодны.*
*Я нарадзіўся тут. Я не прызнаю віны.*

Ганна СЕВЯРЫНЕЦ

* * *

*Адны казалі: я чую шэпты ягоных*
*грымот.*
*Другія скептычна прымружвалі вока.*
*Мы баяліся: што, як вернецца*
*трыццаць сёмы год.*
*А ён ужо быў навокал.*
*Ён ездзіў з намі ў трамваях,*
*хадзіў з намі ў кіно.*
*Сядзеў з намі на лавачках,*
*піў піва ці колу.*
*Іншы раз — супраць нас,*
*іншы раз — заадно,*
*Асабліва калі вёў дзіцёнка*
*першага верасня ў школу.*
*Ён быў як мы. Яму не трэба было*
*вырывацца з-за нейкіх там кратаў.*
*Ён тут, ён з намі, і ён не хоча назад,*
*Хіба імя памяняў на дзве тысячы*
*дваццаты.*
*Ён мяняе імя, як мяняюць*
*на грошы тавар.*
*Трыццаць сёмы таксама не першае.*
*Ён з чалавекам ад веку.*
*І так будзе, пакуль мы не вывучылі*
*яго ў твар,*
*Так, як ведаем свой у звычайным*
*хатнім люстэрку.*
*Паглядзі на сябе. Ты ўчора змаўчаў*
*каля зла.*
*Ты скарыўся начальству. Спужаўся.*
*Не выйшаў з дому.*
*Твае вочы глядзяць абыякава.*
*Рукі назад.*
*То пільнуйся. Ён тут, у табе ўнутры,*
*трыццаць сёмы.*

Дзмітрый СТРОЦАЎ

* * *

***памяти Александра Тарайковского***

*не майдан*
*без щитов и касок*
*без страха*
*живые мишени*
*в тире*
*АГЛ*

Галіна СІЎЧАНКА

**Калі ласка**

*«Калі ласка, біце!*
*Біце мяне па нырках,*
*у вачніцах маіх гасіце свае недапалкі,*
*кулямі,*
*кулямі*
*рабіце мне ў целе дзіркі*
*і — куды вам захочацца! —*
*ўстаўце палкі.*
*Калі ласка, зламайце мне шыю,*
*пальцы,*
*пазваночнік зламайце, ногі...*
*Спыніце сэрца.*
*Электрычнасць пусціце ў мозг*
*праз даўгое джальца,*
*дайце мне захлынуцца крывёй*
*ад удару берцам!*
*Калі ласка...*
*пастаўце, пастаўце мяне на калені*
*ля бетоннай сцяны, ля бяздоннай*
*разрытай ямы.*
*Так, свабода — гэта нявольніцтва,*
*рай — глумленне!*
*Задушыце абрыдлы голас*
*смуроднай плямы,*
*калі ласка!..»*
*— ты ў пекле будзеш прасіць расплаты,*
*і твайму невыноснаму болю*
*канца не будзе,*
*і ніхто не кране, не кіне цябе*
*за краты,*
*бо ў пекле — запомні, поган! —*
*таксама Людзі!*

# Размова працягваецца...

## Аляксею ПЯТКЕВІЧУ — 90

Альжбета КЕДА

### Лёды

Слухаць Аляксея Міхайлавіча — вялікае задавальненне. Гэта заўсёды цікава, пазнаваўча, займальна. Гэта шчасце — жыць, працаваць поруч з ім...

Лета, 2017. Навагрудак. З Аляксеем Міхайлавічам і Дубатоўкамі чакаем прэзентацыі кнігі Міхася Зізюка. Прыселі за столікам каля рэстарацыі. Шчаслівыя. І ад таго, што ў такім любым кожнаму з нас месце. І ў такой мілай сябрыне. І дзень цудоўны, якіх нямнога было гэтым летам. Напоўніцу п'ем асалоду. Хто з чым. Мужчыны з мацнейшым, кабеты з саладзейшым.

Смакую салодкі марозны аскепак. Аляксей Міхайлавіч згадвае, як бацька аднойчы купіў яму, малому, лёды. Хлопчык неасцярожна нахіліў шклянку, і ўраз размяклая салодкая смаката аказалася на бруку. Якая бяда! Бацька быў добрым. Купіў яшчэ адну порцыю. Малы з усіх ног паімчаўся дахаты, бо лёды раставалі імгненна. Каб данесці маме.

Гэты ласунак у іх мястэчку ў трыццатыя гады называлі лёды.

### Перад спектаклем

Памятаеце, шаноўныя, спектаклі, якімі радавалі вясковых жыхароў у мінулым стагоддзі беларускія акторы? Ставіліся ў клубах, а цёплым часам на вуліцы, у парках, скверах.

На спектакль «Верачка», што чакаўся летнім вечарам у мястэчку Тарнова, прыехалі пісьменнікі з Гародні. Часу заставалася багата, Аляксей Міхайлавіч Пяткевіч выйшаў на праменад. Каля аднаго будынка згледзеў кветнік. Зараслы. Яго палола кабета. Падышоў бліжэй і застыў у здзіўленні: гэта была Стэфанія Станюта. Яна ні на кога не зважала, працягвала наводзіць парадак.

Хацелася Аляксею Міхайлавічу загаварыць да знакамітае акторкі, выказаць сваю павагу, захапленне талентам. Сціплы, не пасмеў патрывожыць яе. Пайшоў сваёю дарогай...

Перад спектаклем акторка палола кветнік.

### Касец

Гэта было летам, калі ён закончыў дзевяць класаў. Пятнаццаць гадоў меў. Працаваць на зямлі прызвычаіўся з маленства. З ахвотаю дапамагаў бацьку. Той кіраваў аховай на тартаку. Таму паспець аднаму па гаспадарцы было няпроста.



Зоська Верас, Аляксей Пяткевіч, Генадзь Каханоўскі на святкаванні 90-годдзя Зоські Верас. 1982 г. Фота Сяргея Панізніка

Аляксей Пяткевіч нарадзіўся 30 сакавіка 1931 года ў вёсцы Новы Свержань на Стаўбцоўшчыне. Скончыў аддзяленне беларускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта і аспірантуру пры кафедры беларускай літаратуры. Працаваў у Гродзенскім дзяржаўным універсітэцеце імя Янкі Купалы. Кандыдат філалагічных навук, прафесар. Ганаровы член Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў. Аўтар шэрагу літаратурна-крытычных і культуралагічных работ, у тым ліку 16 кніг.

Тою раніцаю хлопец прыйшоў на луг вельмі рана. Касіў без перадыху, з ахвотай, кладучы роўныя пракосы-радкі на старонку шырокага луга.

Калі з'явіўся бацька, праца была завершана. Падышоў да хлопца і моўчкі працягнуў яму цыгарэту. Ведаў, што сын, хаваючыся, ужо курыў. Тым самым прызнаў, што той ужо мае правa. Прызнаў ягоную самастойнасць, самавітасць, мужчынскасць.

Гэта быў першы ганарар ад бацькі, які атрымаў у юнацтве Аляксей Міхайлавіч.

### Ганарар

Ягоны бацька быў таленавітым. Меў вельмі прыгожы, моцны голас. Любіў зацягнуць песню ў лузе, на полі, у лесе, на вуліцы, радуючы сваім спевам людзей.

Усё жыццё працаваў на тартаку. І пры немцах таксама. Кіраўніком аховы.

Аднойчы летнім вечарам у канцы змены выйшаў на прахадную і заспяваў. Пачалі падыходзіць немцы. Вялікі натоўп нечаканых слухачоў сабраўся. Спяваў па-беларуску. Ці разумелі сэнс? Неістотна. Слухалі, быццам зачараваныя.

Скончыў спяваць. Немцы падыходзілі і кожны даваў спеваку па цыгарэце.

Такі незвычайны ганарар атрымаў за свае спевы бацька Аляксея Пяткевіча.

### Цяга да роднага дома

Іхні кот быў драпежнікам. Відаць, не давала спакою абуджаная генетычная памяць ад тых часоў, калі суродзічаў, што жывуць, п'ючы кроў іншых. Зрэшты, хто яго ведае, чаму даўно прыручаныя чалавекам мілыя хатнія гадаванцы часам звяраюць.

Кот еў куранят. Такое доўга трываць не маглі. Бацька адвёз драпежніка ў суседнюю вёску, за дзесяць кіламетраў. Кот вярнуўся назаўтра. Адвёз у Мір. Нябліжкі свет — дваццаць кіламетраў. Вярнуўся праз тыдзень. Тады адвёз лодкай у лес, праз Нёман. Вада для ката непераадольная перашкода. Плаваць яны не ўмеюць. Якое ж было дзіва, калі вярнуўся зноў. Ажно праз год. Адшукаў дарогу да няблізкага маста і перайшоў яго. Але як адважыўся?! Той мост быў адзіным у ваколіцы, заўсёды шумным. Ішлі людзі, ехалі падводы, машыны. Мо ночы чакаў?..

Прыйшоў і сеў на слупок ад агароджы. Малы Аляксей выйшаў ранкам з хаты, а кот вітае яго.

Ды бяда: куранят зноў хапаў...

— Якая вялікая цяга да роднага дома! — заканчвае згадку Аляксей Міхайлавіч.

А я думаю пра сваіх улюбёных беларускіх паэтаў-эмігрантаў: Наталлю Арсенневу, Масея Сяднёва, Алеся Салаўя, Рыгора Крушыну, Янку Золака, Зянона...

### Усміхнемся

Гарачы чэрвень. Сярэдзіна васьмідзясятых мінулага стагоддзя. Ва ўніверсітэце дзяржаўныя іспыты. Тым разам беларускую літаратуру здаюць завочнікі. Дакладней, завочніцы. Хлопцы і на стацыянары вялікая рэдкасць. А на завочным — рэдкае выключэнне з правіла.

Адказы ніякія, горача, сумна. Малады дэкан Тамаш Іосіфавіч Тамашэвіч прапаноўвае сябрам камісіі: «Давайце напішам вершы, чатырохрадковікі. Тайным галасаваннем абярэм лепшы». Упэўнены, што ягоны будзе лепшым. Ён і насамрэч быў вельмі таленавітым. Экспромты, гумарэскі даваліся лёгка.

Закончылі вершатварэнне. Абмяняліся. Таемна прагаласавалі. Якая неспадзеўка: найбольш галасоў набрала чатырохрадкоўе Аляксея Пяткевіча, які ніколі вершаў не пісаў.

Вось ён, той верш:

*Ёсць выпускніцы, як суніцы,*
*А ёсць і так, і сяк — ніяк.*
*Закрыць бы лепей аканіцы*
*І сесці з імі піць каньяк!*

Усміхнемся разам...

### Аэрапорт — на замку

З Гародні (былі часы!) можна было самалётам даляцець да кожнага райцэнтра. Аляксей Міхайлавіч карыстаўся з гэтага, калі быў са студэнтамі на бульбе ў Астравецкім раёне.

Падказалі яму ў тым Астраўцы, як дабрацца да аэрапорта. З'явіўся. Але нічога, падобнага да месца, адкуль самалёты ўзлятаюць, не ўгледзеў. Пытаецца ў чалавека, які праходзіў.

— Ды вось жа ён, аэрапорт, — і паказвае на звычайную хату.

Падышоў гарадзенскі выкладчык, а хата — на замку. Бачыць, непадалёк жанчына поле грады. Звярнуўся да яе. Адарвалася ад свае працы, адамкнула хату і дала пасажыру квіток...

### І ніхто не затрымаў

І яшчэ пра палётнае.

Сяброў у Мінску ў тыя далёкія часы ў Аляксея Міхайлавіча было мора.

І сустрэчы-развітанні былі цёплыя, сардэчныя, пры добрай чарцы. Так і тым разам. А яму ляцець да Гародні патрэбна было. «Не дазволяць на пасадку прайсці, не пусцяць у самалёт», — падумаў. А ляцець мусова. Так зрабіў: чакаў да самага адлёту. А тады — скок праз турнікет і лятом у самалёт...

— І паспеў. І ніхто не затрымаў, — расказвае нам шаноўны калега. Гаворыць з усмешкай. Толькі перайшлі мост святога Францыска. Трыццатага кастрычніка дзве тысячы васямнаццатага. Ідзем у Цэнтр гарадскога жыцця, дзе ў Кніжным клубе адбудзецца абмеркаванне маіх «Шчонаўскіх абразкоў». Аляксей Міхайлавіч — рэдактар.

Уяўляю, як лёгкі, спрытны малады Пяткевіч пераскоквае праз турнікет і нясецца на злом галавы, і залятае ў самалёт. Бо ляцець жа мусова!..

І цяпер, у паважаным веку, наш дарагі старэйшы сябра лёгкі і спрытны.

### Размова

Тэлефонны званок у кватэры Аляксея Міхайлавіча на Горкага. Гады васьмідзясятыя. Стагоддзе дваццатае.

— Здароў!
— Здароў.
— Пазнаў?
— Пазнаў.

Як жа не пазнаць голас Вячаслава Адамчыка, якога добра ведаў, з якім сябраваў?

— Хлеб у цябе ёсць?
— Ёсць.
— А да хлеба?
— Ёсць каўбаса.
— То чаму адразу не кажаш?! Бяры хлеб і каўбасу і да мяне, у «Беларусь».

Размова ў гатэлі зацягнулася дапазна. Пра што? Найбольш пра Заходнюю Беларусь і пра заходніх беларусаў. Пра тое, што мацнейшыя яны ў сваёй беларускасці за ўсходнікаў. Пра адметнасць мовы, у якой багата паланізмаў. І не заўсёды яны засмечваюць гаворку...

Ужо і дахаты пара, а развітвацца сябрукам-аднадумцам не хочацца. Запрасіў Аляксей Міхайлавіч менчука да сябе на каву. Марыя Міхайлаўна каву згатавала і пакінула іх, каб не перашкаджаць.

Размова працягвалася яшчэ доўга...

### Балючае

Вядомая гісторыя. 1974-ы год. Трагічная развязка. Гібель Міколы Прашковіча...

Сёння Аляксей Міхайлавіч пэўны: уратаваў яго ад горшага, ад звальнення рэктар Бадакоў. Быў асобай шанаванай, аўтарытэтнай. Зразумела, што з пасады загадчыка кафедры дацэнт Пяткевіч павінен быў пайсці. Але галоўнае — на кафедры застаўся. «Дабегаўся!» — зларадніча ягоны калега, які пераняў кафедру. Зрэшты, зусім неблагі чалавек...

Пазней Аляксей Міхайлавіч спрабаваў пагаварыць з рэктарам, даведацца дакладна, хто яго ўратаваў. Бадакоў толькі ўсміхнуўся і нічога не сказаў.

### Удзячнасць

Пытаюся, за што так шчыра дзякуе Аляксею Міхайлавічу Уладзімір Васілевіч. Вось жа, у тым часе ён рэдагаваў том, у якім сабраныя галашэнні. Пяткевіч у тыя часы чытаў фальклор (якія толькі курсы ён не чытаў!) і кіраваў фальклорнай практыкай. А часы ж тады якія спрыяльныя былі! Жылі яшчэ ў нашых вёсках бабулі, носьбіты аўтэнтычнага фальклору. Матэрыялу набралася багата. Прыехаў Васілевіч у Гародню. Выкладчык Пяткевіч павінен быў ісці на працу. Вынес цэлую гару папак і пакінуў менчука: «Выбірайце, што трэба». І навыбіраў. Многае ў той том увайшло. За тое і дзякаваў.

## Аляксей Пяткевіч: Жыццё для Беларусі

...Часам мы здзіўляемся: як ён вытрымлівае, як яму хапае мужнасці і змогі заўсёды быць ветлівым і культурным? Відаць, гэта таму, што ён, сумленны і культурны чалавек, жыве ў суладдзі з Богам, прыродай і людзьмі... Навуковы даробак прафесара Аляксея Міхайлавіча Пяткевіча складае больш за 500 пазіцыяў: манаграфіі, падручнікі, артыкулы ў часопісах, зборніках і энцыклапедыях, шматлікія рэцэнзіі. У іх мы бачым грунтоўнага, аб'ектыўнага і рознабаковага даследчыка, літаратуразнаўцу, літаратурнага крытыка, культуролага. Прафесар Пяткевіч — удумлівы тэарэтык культуры. Менавіта гэта вызначыла прадмет і тэматыку навуковых даследаванняў А. М. Пяткевіча — гісторыя культуры нашага заходнебеларускага краю. Яго кнігі «Літаратурная Гродзеншчына» (1996), «Людзі культуры з Гродзеншчыны» (2000) уражваюць сваёй глыбокай сутнасцю, формай, фактычнай насычанасцю і шляхетнасцю!

Сяргей Габрусевіч

# Адольваць шлях...



Васіль ЗУЁНАК



Фота www.psi.today

## Радок метэазводкі

*Хоць і ветрана, хоць і золка,*
*Ды надзей у зімы — ні на грош!*
*Хай сабе й ненадоўга, а ўсё ж —*
*Шуганула на небе вясёлка!*

*Дзень шаснаццаты красавіка,*
*Васямнаццаць-дзесяць «па-Мінску»:*
*Сем калёраў — вясёлыя рыскі —*
*Гучны выклік вясны мастакам.*

*Мне вясёлка вяснянкай гучыць,*
*Я нябесную госцю вітаю:*
*Гэта вырай мой прылятае —*
*І ў мяне ад вясны ёсць ключы!*

## Ідзі...

*Хоць непазбежны прысуд смяротны,*
*Ды з нараджэннем, аднак, змірыся.*
*Ідзі адольваць шлях незваротны,*
*Жыццё аспрэчваць не бярыся*
*І не пытайся, хто паклікаў.*
*Ідзі —*
*Суд Божы і Свет вялікі.*

## Жыццё

*Апошні, як першы, пагляд:*
*Адказвае, як пытаецца.*
*Рэкі не ходзяць назад,*
*Рэкі —*
*не вяртаюцца.*

## Свята

*Хай здраджвае няўмольна памяць*
*Аб свяце, што жыццё дало,*
*Хай час масты вяртання спаліць, —*
*Але ж яно было, было.*

*Хай вечнасць наша — толькі міг,*
*Але ж навечна, на дваіх!*

*І ўсё, што ў забыцці растраціў,*
*Аднойчы выбухне вясной:*
*Не, не адзін я быў на свяце —*
*На ім і ты была са мной.*

## Крэда

*Валадар Усяісны*
*Мой зацвердзіў Статут:*
*Веру першаму камуністу*
*Ісусу Хрысту.*

## Даруй...

*У кожнага свой грэх.*
*І ўсе цяжкія.*
*І ўсе з надзеяй молімся*
*І даравання просім.*

*І ўсім няўцям,*
*Як цяжка Аднаму,*
*Бязгрэшнаму,*
*Пад гэтай ношай...*

*Даруй нам, Божа...*

## Адляцелі...

*Адляцела ў нябёсы бяроза,*
*Пень пакінуўшы мне: дакорам,*
*Напамінкам, а можа, пагрозай, —*
*Ды яшчэ й на сусветны сорам.*

*Быў з бярозай маёй нароўні*
*Шпак, вясны абвеснік крылаты.*
*Хто цяпер немату запоўніць*
*Над маёю бяскрылай хатай?..*

*Не ўбярог я цябе, бяроза,*
*Не ўстаяў перад хцівым суседам, —*
*Спілавалі... Жыцейская проза...*
*Адляцела і песня следам...*

*Аб адным завірусі люцелі,*
*Як спявалася нам, як жылося...*
*Вы куды, шпакі, адляцелі,*
*Што ад песні той засталося?..*

## Вечна

*Дзе тыя зачыны,*
*Дзе тыя прычыны, —*
*І ніхто —*
*Сам Бог —*
*Не аспрэчыць*
*Жанчыну*
*Вечную,*
*Што трымае мужчыну*
*Між анёлам і д'яблам*
*Вечна.*

## Усім, з кім лета святкаваў...

*Не возера — а сонечны навар:*
*Кіпіць — а хвалі ў пырсках ружавеюць, —*
*Скульптурнай лепкай ліпеньскі загар*
*Мастачыцца, каб торсы бранзавелі.*

*Вяршыня лета — як вячысты звон*
*(Вяршыні любіць услаўляць прырода), —*
*А мне здаецца, што даецца ён,*
*Каб з летам развітацца назаўсёды.*

*Шкада вяршыню пакідаць, ды час*
*Рыштунак сціплы рыхтаваць на восень.*
*І ўсім, з кім лета святкаваў, якраз*
*Падзякваць час, — адно і засталося...*

## Начлег

*На зямлі пара́ такая ёсць —*
*Восенню ў людзей яна завецца, —*
*Дзе ўжо я ні гаспадар, ні госць.*
*На атаве ўжо мой конь пасецца.*

*У стагах даўно наш першы ўкос,*
*Спіць гадоў пластамі першатраўе.*
*Што ж, з той пашы не ўцяжарыш воз,*
*Ды на крук вуздэчку не сабраў я.*

*Не, не ўпрост адлетавалі мы,*
*Не ўпікне знянацку час агледзін,*
*І не ўлегцы да варот зімы,*
*Хай сабе здарожана, прыедзем.*

*Восенню ашчаджаны папас*
*Хай і не ў запас, а не змарнуем.*
*Гэты мудры час якраз для нас,*
*То давай трымацьмем спраўнай збрую.*

*Глухне поле, і цішэе лес —*
*Абнаўленне йдзе праз адміранне.*
*І які нам, косю, інтарэс*
*Да зімы прасіцца на ўтрыманне?!.*
*Гэта па-сялянску акурат:*
*Калі восень хоць што-небудзь мае,*
*Дык і студзень нам і кум і сват,*
*І зіма тады здаецца маем!..*

## Жаданне

*Каб мне кабан, ды хлеў,*
*Ды й выканаўца спраў, —*
*Я сала б з салам еў*
*І на саломе спаў!..*

## Сляза

*З гадзюк пяршы́нствуйце гюрзу*
*І моц атрутную патройце,*
*Каб ацаніць з вачэй слязу*
*Сентыментальнага забойцы.*

## Касмічнае

*Каметы вогненная цвердзь,*
*Што нам нясеш? Жыццё ці смерць?*
*Ці раскалоць жадаеш шар —*
*Прытулак амбіцыйных мар,*
*Каб на кавалачку зямлі*
*Мы самі ад сябе ўцяклі?..*

## Бажынкі

*Зімні дзень — як дасвецце*
*Над ракой у туманнай імжы.*
*Прытаіўся мароз. Нават вецер*
*Недзе ў лесе прытулле абжыў.*

*А з нябёсаў сняжацца сняжынкі —*
*Як ад Бога — з душой трапяткой...*
*Дзякуй, дзякуй вам за неспадзеўку,*
*бажынкі:*
*За цішыню і спакой...*

## Калі святкуе лістапад...

***1. Каса́***
*Усё прайшло, не ўсё збылося...*
*Адна каса, і я адзін, —*
*Як дзень апошні на пакосе:*
*Дабіць апошняй пожні клін...*

***2. Успомніш...***
*Калі святкуе лістапад*
*Апошні ліст, як радасць;*
*Калі дымок з надрэчных хат*
*Плыве за далягляды;*
*Калі гісторыя цячэ*
*Ужо не ў твой кірунак, —*
*Расінкай лёгкай на шчацэ*
*Успомніш пацалунак...*

***3. Здаецца, вечнасць...***
*Здаецца, вечнасць да апошняй*
*Той жменькі жвіру з глыбіні,*
*Што на расстанне ледзь не кожны*
*Паспешна кіне з вышыні.*

*«Здаецца, вечнасць...» — дайце ж веры*
*Хоць жменьку, будучыя дні,*
*Калі замкнуліся ўжо дзверы*
*Тых, што ў адвечнай цішыні.*

*Яны і цвердзяць мне маўкліва,*
*Што вобмаль вас на доўгі век,*
*Што з кожным днём вузее ніва,*
*І падскрабае плён засек...*

## Школа

***Акадэміку Радзіму Гарэцкаму***

*Гэта факт: ёсць Гарэцкіх школа.*
*І Радзім — яе выхаванец:*
*Летуценны шукальнік-геолаг*
*І ў пісьменніках не навабранец.*

*Як зямныя пласты перагортваў,*
*Як скараў таямніцы глыбіняў,*
*Так і кніг выпраўляў кагорту*
*На агляд Францішку Скарыне.*

*Не прывык кабінетна грэцца*
*У палоне вучонасці вузкай —*
*Летапісец роду Гарэцкіх,*
*А тым самым — шляхоў беларускіх.*

***

*Гэта кон: да мяне была вечнасць,*
*Тая ж вечнасць будзе пасля.*
*Гэта кон. І яго неаспрэчнасць*
*Не ў лагодзе з душой Васіля.*
*І ў сусветным строгім парадку —*
*А куды, і няўжо ў нябыццё,*
*І адкуль? — перакінута кладка,*
*Што завецца маім жыццём?..*

## Дарогі

*А куды вядуць тыя дарогі,*
*Дзе людскія не ходзяць ногі?*
*Ні слядоў на іх, ні каляін,*
*Ні прасткоў да іх, ні сцяжын,*
*Неадхільныя, не крыжавыя —*
*На грудзях зямлі нажавыя.*
*А хто ходзіць па тых дарогах? —*
*Не пытайся: не скажуць нічога.*
*Бо дарогі ўжо самі ходзяць,*
*Каб грахоўную памяць прыводзіць...*

## Бяскніжжа

***...И сам себе себя читая...***
***Ігар Севяранін***

*З якіх краёў, з якое далечы*
*Верш прылятае да мяне*
*І, сам сабе сябе чытаючы,*
*Жыць, нібы зажыва ў труне?*

*Прапіску на касмічны хутар*
*Аформіў і (як спеў спаліць)*
*Бяскніжна пасяліў камп'ютар, —*
*Ні пахаваць і не спаліць...*

## Пытанне графамана

*А вершы на тым свеце пішуць? Не?!*
*Тады не прыставайце з гэткім светам*
*І марна не ўгаворвайце мяне, —*
*Прабачце! Я павінен жыць на гэтым.*

## Вось і знай...

*Гэта ж трэба! — прысніцца:*
*І вясна, і світанкі, —*
*Як з-пад снегу брусніцы,*
*Як азон з-пад маланкі... —*

*Вось і знай: весяліцца*
*Ці маркоціцца зранку...*

***

*А што тады будзе, як свет*
*Пакіне мяне ў нябыцці?*
*І як я патраплю на след,*
*Каб з цемры той выйсце знайсці?*

*Не богазмаганцам пamру,*
*І бога не мне паўтарыць —*
*Ды сам сабе неба ствару,*
*Каб зоркі нанова адкрыць.*



Алесь САЧАНКА

# З тугой пра час

**Алесь Сачанка, які прапанаваў гэтыя запісы «Літаратурнай Беларусі», — брат вядомага беларускага пісьменніка Барыса Іванавіча Сачанкі, журналіст, які доўгі час працаваў у «Настаўніцкай газеце», быў арганізатарам і галоўным рэдактарам навукова-метадычнага часопіса для выхавальнікаў дзіцячых садкоў «Пралеска». Падчас працы ён часта сустракаўся з творцамі — пісьменнікамі і проста цікавымі асобамі. Пра гэта ягоныя зацемкі-ўспаміны.**

## Па-зямляцку…

З вялікім задавальненнем чытаю і перачытваю кнігу Чэслава Пяткевіча «Рэчыцкае Палессе», выдадзеную ў «Беларускім кнігазборы» ў 2004 годзе. І кожны раз агортвае смутак, што ў прадмове да яе сказана не ўся праўда пра з'яўленне гэтай кнігі…

Насамрэч кніга Ч. Пяткевіча належыць Івану Мележу! Гэта я ведаю дакладна, бо аднойчы на маіх вачах у Саюзе пісьменнікаў ён перадаў яе Барысу Сачанку. Пры гэтым Іван Паўлавіч сказаў: «Будзеш пісаць раман — вельмі спатрэбіцца. Калі я пісаў «Людзі на балоце», многае адсюль узяў…». Гэту кнігу І. П. Мележу, аказваецца, падарыў Ян Баршчэўскі…

Тады я паспеў з захапленнем пагартаць кніжку, пакуль Іван Паўлавіч гаварыў з Барысам па іншых справах… Памятаю, кніга была на польскай мове, у папяровай вокладцы…

Барыс хацеў выдаць гэтую кніжку ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», куды запрасіў працаваць раней земляка Льва Салаўя, у якога кніга ўрэшце і апынулася. Барыс, на жаль, выдаць яе не паспеў…

## Андрэй Макаёнак і «сацыялістычны рэалізм»

Стаіць Андрэй Макаёнак каля «старога» Саюза пісьменнікаў. Падыходзім з братам да яго, вітаемся. Барыс прадстаўляе мяне — студэнта-журфакаўца. А Макаёнку гэта нібы і трэба было. Тут жа пытае:

— Літаратуру вывучаеш?

— Ну, вядома…

— Тады скажы мне: што такое «сацыялістычны рэалізм»?

— Ну, гэта паказ рэчаіснасці ў яе развіцці, — нешта такое кажу я «па-падручніку»…

— Правільна! А вось скажы, калі пятух сядзіць на плоце і кукарэкае, гэта «сацыялістычны рэалізм»?

Я ўпэўнена кажу:

— Так!

— А калі ён саскочыць з твайго плота і стане «таптаць» курыцу — гэта «сацыялістычны рэалізм»? — працягвае А. Макаёнак.

Я сумеўся. І не столькі пытанню, колькі вось гэтаму — «таптаць». Паміж намі, братамі, такое ніколі не абмяркоўвалася. Гэта было «табу», як і мат ці нешта «такое» з далікатных тэм. Памятаю і цяпер, што пачырванеў і заціх… Макаёнак усміхнуўся і кажа:

— Вось гэта, ведай, і ёсць насамрэч «сацыялістычны рэалізм», студэнт…

Што ён меў на ўвазе, я зразумеў праз многія гады…

## Павысіць прадукцыйнасць працы!

Сустрэча на «першым» журфаку з Андрэем Макаёнкам. У невялічкай зале бітком студэнтаў і выкладчыкаў. Андрэй Уладзіміравіч доўга і з уласцівым яму гумарам расказваў пра сваю творчасць і вельмі зацікавіў усіх. У канцы сустрэчы просіць пытанні. Ледзь не першай устае «затычка» ва ўсе мерапрыемствы трэцякурсніца-выдатніца Ала К. і задае па-руску «простенькае» пытанне:

— Сколько времени занимает у вас написание пьесы?

— Давайце лічыць. Пару дзён пішу аўтаручкай, пару дзён друкую на машынцы. Праўлю, зноў друкую, вось і атрымліваецца недзе каля тыдня…

— Поэтому вы так мало и написали пьес? — са скрухай кажа Ала.

— Інакш нешта не атрымліваецца. У мяне ж ёсць яшчэ і праца ў часопісе «Вожык», іншыя справы, — нібы апраўдваецца А. Макаёнак. — Але вашу заўвагу я абавязкова ўлічу. Трэба мне ўсё ж больш пісаць п'ес…

Ала была шчаслівая ад такога дыялогу.

## «Навацыі» А. С. Дзяржынскага

Авяр'ян Дзяржынскі ў сталыя гады стаў пісаць «дзіўныя» вершы — «радок — адно слова». Атрымліваўся верш «доўгі» і «тонкі». Я заўважыў, што такі верш лёгка складваецца ў «звычайны», які прыняты ў «звычайнай» паэзіі. І калі Авяр'ян Сафонавіч прынёс у рэдакцыю часопіса «Пралеска» такія «танклявыя» вершы, я яму пра гэта сказаў. Маўляў, займаюць вашыя вершы шмат месца, іх цяжка вярстаць на кампутары, бо яны «доўгія і тонкія», «нязручныя», адным словам.

Авяр'ян Сафонавіч спакойна заўважыў:

— Алесь, гэта таму, што ў паэзіі плоцяць не за верш, а за колькасць радкоў у ім!

Што тут скажаш? «Кароткасць — сястра таленту і падчарыца ганарару»…

## А не пішы!..

У часопісе «Вожык» па-традыцыі працуюць літаратары. Вядома чаму — гумар, сатыра не кожнаму «даюцца». У 70-я тут працавалі пісьменнікі Іван Грамовіч, Валянцін Зуб, Змітрок Бяспалы, Уладзімір Правасуд. Галоўным рэдактарам быў вядомы байкапісец Уладзімір Корбан. Аддзел літаратуры ўзначальваў Міхась Пянкрат. Патрабаванне ж было жорсткім: на кожны допіс у рэдакцыю трэба было «рэагаваць», г. зн. даваць адказ аўтару, што зроблена з яго допісам.

Гэта тычылася і літаратурных твораў — гумарэсак, вершаў, розных «смяшынак». Таму «валакіты» з пісьмамі было шмат.

Самыя кароткія адказы выглядалі прыкладна так: «Паважаны Пятроў/Іваноў/Сідараў! Ваша пісьмо накіравана на рэагаванне туды і туды. Аб прынятых мерах Вам паведамім дадаткова». А як адказваць на літаратурныя творы? Міхась Пянкрат меў некалькі «гатовых» нарыхтовак. Ды якіх! Я і цяпер здзіўляюся, як такія адказы «праходзілі»?! Напрыклад, сваім пастаянным аўтарам ён мог напісаць такое: «Не пішы х…, мой брат, з прывітаннем М. Пянкрат».

У аддзеле пісьмаў і фельетонаў, памятаю, працавала Эма Мікалаеўна, і яна друкавала ўсе гэтыя адказы і дасылала аўтарам. Калі трапляў чарговы «трапны» і «дасціпны» адказ, яна казала: «Зараз пайду да Корбана і ўсё пакажу!».

— Ён што, лепш напіша? — гаварыў Міхась Міхайлавіч. — Калі лепш — тады ідзі…

Хадзіла яна ці не — не памятаю. Цікава, што мне, студэнту-практыканту, даводзілася чытаць і заклейваць у канверты такія «трапныя» адказы і таксама захапляцца «смеласцю» Міхася Пянкрата…

## Такая непатрэбная «лухта»

Ідзем з Алегам Куліцкім па вуліцы Захарава, дзе была размешчана рэдакцыя «Настаўніцкай газеты». У гэтай газеце Алег ужо супрацоўнік, я — студэнт-практыкант. Сустракаем маладога паэта Паўла Марціновіча. Галоўнае пытанне, якое тады нас усіх турбавала — кватэрнае.

Алег пытаецца празнае, а пасля цікавіцца ў Паўла:

— Ты мо ўжо член Саюза пісьменнікаў?

— Вядома!

— Мо і кватэру ад Саюза атрымаў?

— Так, атрымаў!

— Добрую?

— Добрую!

— Дык, можа, і тэлефон маеш?

— Маю…

— Дык, мо, скажаш?

— Калі ласка!

Павел дастае з унутранай кішэні пінжака блакнот і гартае яго — шукае тэлефон паміж вершамі.

— Ты што — уласны нумар не памятаеш? — з усмешкай пытаецца Алег.

— Я яшчэ такую «лухту», як тэлефон, трымаць у галаве буду? — здзіўляецца Павел. — Тут у мяне вершы! — паказвае ён на галаву рукой.

Разгортвае блакнот на патрэбнай старонцы і называе свой хатні нумар тэлефона.

## Што браць з сабой?

У час вучобы ў Белдзяржуніверсітэце да нас, першакурснікаў журфака, запрасілі старшакурсніцу, выдатніцу вучобы Святлану Алексіевіч, каб яна падзялілася сваім вопытам добрай вучобы.

Запомнілася тое, што Святлана гаварыла з намі абсалютна «раскавана». Яна расказвала, як зрабіць, каб у адказе на пытанні білета было ўлічана ўсё, нават стан сённяшняга надвор'я. Гаварыла яна нам і пра тое, што з усяго прачытанага і пачутага неабходна «браць для сябе толькі яго філасофію»…

Слова «філасофія» мы яшчэ нават толкам не ведалі. Святлана запомнілася нам, «пачаткоўцам», тыповай «выдатніцай» і «сінім чулком»…

## Як «абулі» Сіпакова ў лапці…

Некаторыя пісьменнікі ўспрымаліся ў нашай сям'і амаль як родзічы — ні больш ні менш! Напрыклад, сябры Барысавай маладосці Рыгор Барадулін і Янка Сіпакоў. Янка быў у нас у вёсцы ў гасцях. Мы яго, памятаю, вадзілі з крыху старэйшым братам Паўлікам лавіць комляй уюноў. Каб было зручна, мы яму, як і сабе, абулі лапці. Нас тады вельмі здзівіла тое, што Янка яшчэ ніколі не хадзіў у лапцях! Дарэчы, уюноў мы тым разам налавілі цэлую торбу…

Маці, калі пісала пісьмы Барысу ў Мінск, заўсёды цікавілася, як справы ў Рыгора і Янкі. Яшчэ цікавілася, чаму даўнавата не бачна ў «Вожыку» Сібарсача? Або што напісаў яшчэ Сібарсач?

Часопіс «Вожык» мы выпісвалі дадому і здзіўляліся, як часам былі падобныя мужыкі (дзецюкі) на малюнках у ім на тых, што збіраліся ў нас каля крамы, сядзелі каля паркана або на лавачцы непадалёку…

Сібарсач, як мы даведаліся пасля ад маці, быў псеўданімам Сіпакова, Барадуліна і Сачанкі. Але што такое «псеўданім» нам, вясковым школьнікам, было тады цяжка зразумець. Сібарсач усё ж уяўляўся яшчэ адным сябрам Барыса, якога мы чамусьці не ведалі…

## З тугой пра час

Раней амаль усе газеты мелі літаратурную старонку. Была яна і ў «Настаўніцкай газеце» і называлася «Крынічка». Сярод тых, хто часта тут друкаваўся, быў паэт Павел Пруднікаў, даволі жвавы пенсіянер з усімі «стальнымі» зубамі. Яго вершы былі самымі «бездапаможнымі»… Хто іх толькі не правіў! Вершы нейкія занадта «мінорныя», з тугой пра час і пра сябе…

Неўзабаве тыя вершы, як ні дзіўна, выходзілі асобнай кнігай, якую Павел Іванавіч прыносіў у рэдакцыю і дарыў нам, супрацоўнікам.

Я неяк запытаў у намесніка рэдактара Уладзіміра Якубовіча, навошта друкуем гэтыя бездапаможныя вершы? Ён адказаў: «Добра, што ён піша яшчэ хоць такія…».

Пазней я даведаўся, што Павел Пруднікаў у сталінскія часы пасля заканчэння Ленінградскага педагагічнага інстытута імя Герцэна папрасіўся на Радзіму — у Беларусь, каб працаваць у роднай беларускай школе, па-беларуску вучыць дзетак… За гэта ён атрымаў дзесяць гадоў «лагераў» без права перапіскі…

## Як схуднела «народная паэтэса»?

Талеры — металічныя сталы, дзе вярсталіся некалі ў друкарні «Настаўніцкая газета» і «Піянер Беларусі», — былі побач. «Піянер Беларусі» заўсёды апекавала адказны сакратар паэтэса Таццяна Дзмітрусёва. Была яна не высокая, але даволі «ў целе», тоўсценькая і рухавая. Таня вырашыла «скінуць вагу», і ёй гэта ўдалося. Як? Пра гэта я запытаў у яе.

«Хадзі, пакажу!..». Яна падвяла да стала талера «Піянера…», дастала бутэрброд з сырам, дастала з сумачкі сцізорык. Кажа:

— Глядзі, вось бутэрброд гэты я падзялю — ужо ў мяне два. Гэтыя два дзялю яшчэ раз — чатыры! З'ядаю і думаю: «Упёрла ажно чатыры бутэрброды! І хопіць на сёння!».

Што тут скажаш? Я толькі заўважыў Тані:

— Але ж да гэтага ты была «дароднай паэтэсай», амаль «народнай»…

## Як узыходзіла «Пралеска»?

Калі мяне прызначалі ў 1991 годзе на пасаду галоўнага рэдактара новага часопіса для сістэмы дашкольнай адукацыі, мне паставілі ў Міністэрстве адукацыі ўмову, каб намеснікам была жанчына з вышэйшай адукацыяй, працавала ў дзіцячым садку і мела уласных дзяцей. Маўляў, часопіс выходзіць для работнікаў дашкольных устаноў, а я — журналіст, мужчына… Я працягнуў гэтую думку паводзе кінакамедыі «Каўказская палонніца»: «Магчыма, яна павінна быць яшчэ і пісьменніцай!?» (Памятаеце, «спартсменка, камсамолка…»?)

І такую кандыдатуру я неўзабаве знайшоў і прапанаваў — паэтэсу Людмілу Забалоцкую. Яна на той час з-за хваравітага малога сына працавала выхавацелькай у дзіцячым садзе…

Мая ўмова была адэкватнай — часопіс не павінен называцца «Дашкольнае выхаванне». Дарэчы, пад гэтай назвай ён быў ужо зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі. Маўляў, у Расіі — «Дошкольное воспитание», ва Украіне — «Дашкільне виховання», цяпер і ў нас такая ж назва будзе…

Мне далі два дні, каб я прыдумаў назву новаму часопісу. Я прыдумаў дзесяць назваў і прапанаваў у Міністэрстве адукацыі. Там спадабалася назва «Пралеска», як асацыяцыя з малым дзіцём… Давялося часопіс перарэгістраваць, а гэтая назва — «Пралеска» — стала настолькі папулярнай, што ёю пачалі на-

зываць і кавярні, і рэстараны, і чыгуначныя прыпынкі, і нават будаўнічыя фірмы... Часопіс «Пралеска» таксама неўзабаве стаў папулярным сярод работнікаў сістэмы дашкольнай адукацыі краіны і адным з самых шматтыражных у Беларусі...

## Ці стала больш парадку на зямлі?

Іван Шамякін любіў сустракацца са сваімі выбаршчыкамі і як дэпутат Вярхоўнага Савета БССР, і як першы сакратар Саюза пісьменнікаў, і як чалавек. У час такіх паездак на радзіму ён часта запрашаў Барыса. Пасля сустрэчы з выбаршчыкамі Іван Пятровіч з Барысам і кіроўцам Пецем — земляком — заязджалі да нас у вёску, да маці, бывала, нават начавалі.

Падчас адной такой паездкі спякотным летам нашу маці ніхто загадзя не папярэдзіў аб прыездзе І. Шамякіна і Барыса. Яны прыехалі, а маці няма дома. Барыс кажа:

— Трэба паглядзець пад дубком...

Дубок мы некалі пасадзілі з бацькам у гонар таго, што ў нас столькі братоў!

Пайшлі яны на агарод, дзе раскашаваў дубок. Так, маці сядзела там і чытала раман Івана Шамякіна «Сэрца на далоні», які вельмі любіла.

Шамякін ажно пусціў слязу — 80-гадовая жанчына чытае ягоны раман...

Маці сказала тады:

— Вось ты, Іван, заўсёды пішаш праўду, а мой Барыс піша-піша праўду, а пасля нешта «прыбрэша»...

Па-вялікаборску «прыбрэша» — напіша або скажа няпраўду...

Няма ўжо на свеце маці, няма Барыса, няма Шамякіна... Няма і дубка таго — у гэтакзваны Год навядзення парадку на зямлі старшыня мясцовага сельсавета загадала спілаваць той дубок. Ці стала больш парадку на зямлі пасля таго, як спляжылі той дубок у Вялікім Боры?

## Рэдактар і паэт

У 1976 годзе я прыйшоў на працу ў «Настаўніцкую газету». Праз год мяне зацвердзілі адказным сакратаром гэтай газеты. Я стаў часта бываць у галоўнага рэдактара Івана Паўлавіча Сіманоўскага.

Зразумела, я хутка пазнаёміўся і з сямейнікамі, і з тымі, хто да яго прыходзіў. Сярод іх быў паэт Паўлюк Пранузa. Ён, як правіла, прыходзіў з жонкай. Яны, казалі, не расставаліся ажно з пятага класа!

Паўлюк Кузьміч заходзіў да галоўнага рэдактара, а жонка сядзела і чакала ў калідоры. Пасля Паўлюк Кузьміч выходзіў, і яны ішлі ў краму, адкуль вярталіся з поўнай авоськай звычайнага фруктовага віна. Жонка зноўку садзілася ў калідоры чакаць, а Паўлюк Кузьміч заходзіў да Івана Паўлавіча. Мяне гэта здзіўляла, бо я ведаў, што І. П. Сіманоўскі такое віно не п'е ніколі! Звычайна ён ужываў каньяк або гарэлку!..

Праз нейкі час Паўлюк Кузьміч выходзіў і знікаў з жонкай гэтак жа ціхенька, як і з'яўляўся... Мяне ж выклікаў Сіманоўскі, даваў двайныя лісты з вучнёўскага сшытка з новымі вершамі П. Пранузы і красамоўнай пазнакай: «У нумар!».



Даводзілася нешта здымаць і тэрмінова ставіць вершы...

Мяне, між тым, увесь час казытала думка: «Што звязвала рэдактара газеты і паэта-настаўніка?» Пра гэта я даведаўся толькі праз гады...

Павел Кузьміч і Іван Паўлавіч былі аднакурснікамі апошняга перадваеннага выпуску філфака Гомельскага педагагічнага інстытута. Далей іх выпрабоўвала ўжо вайна, пасля якой яны засталіся жывыя. Дружба ж іх толькі ўмацавалася і загартавалася ў суровых выпрабаваннях часу...

## «Напішы, Барыс, раман!»

Неяк я прыехаў з вёскі і зайшоў да Барыса ў Саюз пісьменнікаў, каб расказаць, што дома, у нашай вёсцы, у братоў. Сядзелі, як казалі ў нас у вёсцы, «прастарэквалі». Раптам дзверы ў кабінет расчыніліся і ўвайшоў Уладзімір Караткевіч. Павіталіся. Караткевіч цёпла павіншаваў Барыса з адметным юбілеем у жыцці. Потым сказаў: «Пара табе, Барыс, пісаць раман». Барыс заліўся чырванню, усміхнуўся і пачаў гаварыць, як гэта цяжка зрабіць, сколькі і чаго для гэтага трэба...

Караткевіч слухаў-слухаў яго, пасля раскрыў сваю просценькую са скурзамяняльніка папку, дастаў адтуль жменю пустых стрыжняў і падаў Барысу. А яшчэ такую ж просценькую за 35 капеек шарыкавую ручку...

— Вось усё, што спатрэбілася мне, — сказаў ён, — для рамана «Каласы пад сярпом тваім». А табе, можа, і менш спатрэбіцца. Бяры.

І падаў-падарыў Барысу цэлую жменю тых пустых стрыжняў. Падпісаў у яго паперы ў Літфонд і пайшоў...

Я падумаў: «Вось гэта падарунак! Жменя пустых стрыжняў! Ну хоць бы поўных!..»

А Барыс толькі ўсміхаўся...

## Коцікі-варкоцікі павялічылі ганарар...

Котка — самая любімая хатняя жывёліна паэтэсы Ніны Галіноўскай. Сколькі вершаў прысвечана ёй! Гэтыя вершы ўключаны ў зборнікі, хрэстаматыі, падручнікі... Памятаеце?

*Коцік-варкоцік*
*Лёг на жывоцік.*
*Лапкі пад вушка –*
*Не трэба падушка...*

І ўсё роўна, калі Ніна Галіноўская прыносіла нізку новых вершаў у «Пралеску», там абавязкова быў новы верш пра коцікаў!

Аднойчы я запытаў у Людмілы Забалоцкай, свайго намесніка, адкуль такая любоў да котак у Ніны Галіноўскай? Тая ўсміхнулася і сказала:

— Гэта яшчэ што!.. Яе ж ведаюць і чакаюць усе коткі мікраёна, дзе яна жыве!..

Аказваецца, Ніна Галіноўская ўтрымлівае котак і дома, і падкармлівае ў сваім мікраёне...

З таго часу ганарар за вершы ў «Пралесцы» Ніна Галіноўская стала атрымліваць куды больш!..

## «Дзяўчынка з філфака»

Калі я вучыўся ў Белдзяржуніверсітэце, нямецкай мовай я займаўся ў групе Берты Рыгораўны Шнерсон. Чым толькі мы не займаліся ў яе! Спявалі песні па-нямецку, чыталі газеты, раман Леанарда Франка «Злева, дзе сэрца», перакладалі вершы Гётэ, вучылі палітычную лексіку... Асабліва Берта Рыгораўна любіла песні слухаць і вершы...

Яна кожны ўдалы пераклад верша, напрыклад, адносіла ў факультэцкую насценгазету або нават у шматтыражку «Беларускі ўніверсітэт». Вядома, не скупілася на пахвальбу і ў групе. Адчувалася, што яна дбала пра нас і наша развіццё як творцаў...

Асабліва яна любіла і вельмі часта нам хваліла «адну дзяўчынку» з філфака — Жэню Янішчыц! Зачытвала яе пераклады па-беларуску з нямецкай. Зрэшты, неўзабаве мы іх чыталі і ў шматтыражцы побач з новымі вершамі Жэні...

## Не проста размовы?

На апошнім курсе ўніверсітэта і ажно да прызыву ў войска я працаваў у рэдакцыі часопіса «Родная прырода». Мой стол стаяў побач са сталом Алеся Разанава, і міжволі я быў сведкам усіх ягоных перамоў. Асабліва часта ён званіў Жэні Янішчыц. А калі атрымаў кватэру, дык тэлефанаваў ёй па некалькі разоў на дзень. Ён расказваў, што купіў, што мяркуе набыць, і пытаў, што яна раіць яшчэ прыдбаць у новую кватэру. Відаць, Жэню гэта часам раздражняла нават. Тады Алесь ёй заўважаў: «Ну ты ж, Жэнька, усё ж такі — жанчына... Дапамажы, а, можа, разам купім?..»

Мне здавалася, што гэта былі не проста размовы аднакурснікаў. Гэта, падавалася мне, нечым большым...

## Таннай славы не трэба...

Я знаёмы з дваюраднай сястрой Уладзіміра Караткевіча — Таццянай Караткевіч. Жыве яна ў Мінску. Да выхаду на пенсію працавала ў невялікай краме «Ураджай», што на вуліцы Жылуновіча, 28. У яе замужняя дачка і ўнучка...

Таня, як дзве кроплі вады, падобная на свайго брата-пісьменніка. Сколькі ж яна памятае і ўспамінае пра дзяцінства і юнацтва Уладзіміра Сямёнавіча! Яны ж раслі, аказваецца, побач і разам у Оршы. Сустракаліся і пасля...

Але ж яна мала каму пра гэта расказвае. Бо Таня — асоба не публічная! Не жадае яна «таннай» славы...

Кажуць, і Уладзімір Сямёнавіч быў гэтакім жа сціплым чалавекам.

## «Землеўпарадчы» почырк

Почырк — пісьменніцкая бяда! Гэта цяпер ён ва ўсіх аднолькавы — «кампутарны». А раней пераважна пісалі алоўкам або ручкай. Уявіць цяпер цяжка — раман «Вайна і мір» напісаны «ад рукі»! А Леў Талстой, акрамя ўсяго, не дапускаў, каб на старонцы была хоць бы адна папраўка!

З усіх пісьменнікаў, якіх я ведаў, безумоўна, самы прыгожы почырк быў у Змітрака Бяспалага. Роўны, добра чытаемы... Раней казалі пра такі почырк — «настаўніцкі».

Аднойчы я запытаў у Дзмітрыя Аляксандравіча, майго аднавяскоўца, адкуль у яго такі прыгожы почырк? Аказваецца, да журналісцкай і пісьменніцкай дзейнасці ён закончыў Рэчыцкі землеўпарадчы тэхнікум. І працаваў пасля ў землеўпарадчай канторы. Розныя даведкі, акты, іншыя дзелавыя паперы яму даводзілася выпісваць часта прама ў полі! Пішучая машынка тут была б якраз дарэчы, ды хто ж яе павалачэ з сабой? Вось і даводзілася выпрацоўваць добры почырк. Ён спатрэбіўся Дзмітрыю Аляксандравічу не толькі ў землеўпарадчай канторы, але і журналісцкай і пісьменніцкай працы. Гэтым прыгожым почыркам проста любаваліся машыністкі і друкавалі, безумоўна, першымі ўсе творы Змітрака Бяспалага...

## Антонаў будан

Гэтую аднапакаёўку ў цэнтры Мінска паблізу Дома радыё ведалі ўсе ці амаль усе «творцы» — пісьменнікі, паэты, журналісты... Жыў тут былы партызан, паэт Антон Бялевіч.

Кватэра выглядала па-спартанску: не засланы нічым ложак з сеткай, стол, пара нейкіх нягеглых табурэтак... Кватэра ніколі не зачынялася, бо ў дзвярах не было ніякага замка.

У кватэры, як правіла, збіраліся аматары пагаварыць на розныя тэмы, заадно і выпіць.

Антон быў рады ўсім гасцям, у любы час. «Творчы бамонд» меў магчымасць тут абмеркаваць бягучыя праблемы, пачытаць напісанае, паспрачацца аб тым, што хвалюе... Адкрыта і шчыра.

Былы партызан заставаўся верным «партызанскаму ладу жыцця», адкрытасці, шчырасці, таварыскасці і дружалюбству нават у пасляваенны час. Таму ён і сваю кватэру называў «будан» — так, як некалі ў лесе сваё нягеглае жыллё...

## Каб ніхто не прыкмеціў

У маёй бібліятэцы адшукалася кніжка Станіслава Шушкевіча «Красавік», выдадзеная ў 1977 годзе выдавецтвам «Народная асвета». Маленькі фармат, дробны шрыфт, невыразныя малюнкі... Станіслаў Пятровіч напісаў на вокладцы: «На добры ўспамін». Я яго запомніў такім: сярэдняга росту, абсалютна лысы, вялікія, добрыя вочы... Ён некалі прыносіў свае вершы нам у «Настаўніцкую газету», вершы добрыя, адрасаваныя дзецям: пра дрэвы, жывёлы, расліны, краскі, хатніх жывёлін...

Станіслаў Пятровіч заўсёды быў у зімовай шапцы. Гэтая дэталь асабліва помніцца. Я тады здзіўляўся гэтаму... Бо не ведаў, што Станіслаў Пятровіч адседзеў два разы па 8 гадоў (!) у сталінскіх лагерах.

Пасля сталіншчыны Станіслаў Пятровіч стварыў шмат вершаў, але выключна дзіцячых. Вершаў таленавітых, разумных, сапраўды хрэстаматыйных...

...Гляджу на кніжачку і думаю: 77-ы год! А дух сталіншчыны бачны яшчэ нават у гэтай кніжцы, дзіцячай, бясскрыўднай. Яна названа і выдадзена так, каб яе ніхто асабліва і не прыкмеціў...

## Не з таго пачаў

У Міністэрстве адукацыі ў 90-х гадах стварылі Цэнтр гульні і цацкі. Кіраўніком Цэнтра прызначылі маладога паэта і вучонага-фалькларыста Алеся Лозку. Прызначылі, каб ён заняўся вывучэннем праблем беларускай нацыянальнай цацкі і гульні.

Алесь Юр'евіч напісаў шэраг артыкулаў пра беларускія гульні. А яшчэ стварыў выдатную кнігу «Беларускія гульні, ігрышчы», наладзіў выпуск беларускай «Батлейкі», арганізоўваў яе першыя спектаклі, дзе ў ролях батлеечнікаў выступалі супрацоўнікі Цэнтра...

Алеся Лозку неўзабаве з пасады знялі. Яго прызначалі на гэтую пасаду, каб ён займаўся толькі вывучэннем праблем беларускай нацыянальнай гульні і цацкі, а ён пачаў з іх вырашэння. Тэарэтычнага і практычнага...

# На беразе волі



Андрэй ХАДАНОВІЧ



## Хмаркі

***Францішку Багушэвічу, Фрыдрыху Ніцшэ***

*Паплылі па небе хмарачкі.
Адна — у выглядзе чарачкі,
другая — у форме закускі,
а трэцяя — смык беларускі.*

*Над той, што ў форме кілішка, —
вусішчы паэта Францішка,
ды могуць ператварыцца
ў вусішчы паэта Фрыца.*

*Плывуць праз вясновы ранак
равеснікі Фрыдрых і Франак
туды, дзе аўтар-нябога
не знішчыў Аўтара-Бога.*

*Дзе горад крыўду старую
пакрыўджанай вёсцы даруе,
дзе іх малых спадкаемцаў
не дзеляць на «рускіх» і «немцаў».*

*Дзе новы славіст пацее
над вершам Сымона й Мацея.
Рука, адпаведна даце,
выводзіць: «Не пакідайце...».*

*Паплылі па небе хмарачкі.
Паэт усміхнуўся з марачкі,
бы хмарку ў сінім канверце
паслала смерць у бяссмерце.*

**21.03.2020**

## Казка

*Голас казкі дражніць дацяпер —
непатрэбны, срэбны, спеўны, крэўны.
З трыснягом спрачаецца аер,
жабку або лебедзь у царэўны.*

*Пёс у ботах сочыць за катом,
кот — за вераб'іхай дамавою.
Хай не развітаецца з хвастом
і ў нябёсы вернецца жывою.*

*На паверх вышэй жывуць шпакі.
Трэцім небам гойсаюць гракі.
Па чацвёртым бусел ходзіць босы.
Пятым валадараць жаўрукі,
шостым небам — толькі скразнякі.
Самалётам — сёмыя нябёсы.*

*Козачкі ў шагалаўскім палёце.
Казачкі ў дзіравым пераплёце.*

*Хай жаўрук мінае самалёт,
не падрэжа ластаўку варона.
Вецер зацыруе пераплёт,
жабка-лебедзь даплыве да трона.*

*Каб фінал не ў горле камяком,
а на вейках падарожнай зоркай.
Не ў калысцы шэранькім ваўком,
а па дрэве думкаю-вавёркай.*

*Драпіну, загоеную ледзь,
цвеліш першай рыфмаю-няўмехай.
Хай бы гэтым вершам — забалець,
а ў сабакі з кошкай — зажыве хай.*

## (Не)лірычнае

***«...У палац, дзе гучаць паланэзы»
Уладзімір Высоцкі***

*Колькі часу і сіл разбазарыў.
Кожны год — то бляха, то жэсць —
брудны й пыльны, як шлем камісараў:
«дваццаць шэсць іх было,
дваццаць шэсць».*

*Ці то песня дрыжыць сама ўся,
ці то лапы ў ялінаў трымцяць.
Нехта стрыміць, нехта ўстрымаўся.
Не разбіць? Не спыніць?
Затрымаць!*

*Маеш рай з шалашом — ці досыць?
Бо палац даўно «хто-та зáняў».
А калі на дачу запросяць,
гэта дача тваіх паказанняў.*

*Можам-любім? Ці можам-верым?
Перамога здаецца конам.
Ды кагосьці возьмуць у церам,
не такі, што на моры з балконам.*

*Топіць час па-чорнаму лазні
ды гуляе на нервах малечы.
Ёсць сумленне, будуць і вязні.
Шчотка. Мыла. Простыя рэчы.*

*Будуць святы песні і танка,
ды за краты — праб'ецца бэз.
Бо свабода вядзе каханкаў
у палац, дзе гучыць паланэз.*

**30.07.2020**

## Ліст да былога

*Вам пішуць лісты ўсё адчайней —
то вершы, то проза.
Вы трапіце ў пекла з пасадаю
Дзеда Мароза.
У возеры лёду з нядобрай
лацінскаю назвай
прымерзлы да меху лістоў:
атрымаў — то адказвай.*

*Псіхолаг спытае:
«Як жыў ты, не любы нікому, —
так доўга і нудна, што ледзь
не загнаў нас у кому?».
Еўропа свабоды, законаў краіне
пазычыць.
Бабуля-Снягурка лісты пасартуе,
падлічыць.*

*Напіша з намётаў пра Плошчу
дзве тысячы шосты.
Сямнаццаты пра дармаедаў.
Пра «амерыканку» дзясяты:
«Ці помніш наш плач на Каляды?
Ці помніш пра ШОС ты?».
Вы ў роспачы: «ёлка, зажгісь!» —
выбухаюць гранаты.*

*«Дзядуля, ці вернецца тата?» —
пытае маленькі.
«Нягоднік, дачку адпусці!» —
праклінае старая.
Чытаеце ліст — і дрыжаць ад марозу
каленкі,
а хтосьці ўвесь час, кожны дзень,
на вачах памірае.*

*З Абхазіі, Крыму, Данбасу
напішуць прыязней,
але не ўратуе, бо ўсё —
аб суседзе крывавым.
А хтось перашле вам у пекла лісты
палітвязням,
усім палітвязням — і будзе надоўга
чытва вам.
Дашлюць дзевяностыя смешныя
мемы пра яйцы.
Дваццаты ж напіша:*

*«А знаеце, вас не баяцца.
Калі супраць нас вы калону
шляце за калонаю, —
баімся, ды ўсё-ткі выходзім.
Бо страх — не галоўнае.*

*Досць жартаў пра бацьку.
Хапае і ўласных бацькоў нам.
Вы ж чуйкаю чуеце шанец
апошні сысці!
Жывому ніколі не позна пабыць
беспрацоўным,
ці Дзедам Марозам для ўнукаў —
яшчэ пры жыцці».*

**11.08.2020**

## На беразе Волі

*Лета на беразе Волі.
Да ранку нямнога.
Стужачка сонца, а потым —
яшчэ, і яшчэ.
Воля не ловіцца ў рукі
разліку зямнога.
Хваля не ловіцца ў рэкі,
бо сонцам цячэ.*

*Хваля мацнее — і свет
на вачах маладзее,
юны прачнуўся —
і слёз не хавае стары,
сонца ўстае — і прыходзіць
у горад надзея,
дзень надыходзіць —
і страх пакідае двары.*

*Двор упадае ў завулак,
завулак у вуліцу,
вуліца скверам, праспектам
і плошчам нясе
вестку, што самае чэрствае сэрца
расчуліцца
і ў немагчымую праўду паверыць усе.*

*Сонца прыходзіць да ўсіх,
не пакрыўдзіць ніводнага, —
і ператворыцца кожны,
каго ні вазьмі,
кволы заплаканы раб
у героя свабоднага,
людзі ў народ, а народ —
застанецца людзьмі.*

*Памяць герояў святлом
ахінаюць нябёсы —
сонечнай стужкай,
гарачаю сцежкай крыві.
Скрадзены голас вяртаецца ў хор
шматгалосы.
Лета на беразе Волі. Бяры і плыві.*

**15.08.2020**

## На Каляды

*Пяты месяц, як месім цеста
салідарнасці і пратэсту.
Хоць няпроста ідзе, але
будзе хлеб і на нашым стале.*

*Звар'яцелы Ірад па краі
ходзіць, хлусіць, рыкае па-зверску,
ды прачнуліся ў цэлым краі,
што чакае Добрую Вестку.*

*Той, хто ўчора дыхаў з апаскаю,
на Каляды купляе шампанскае.*

*І дрыжыць халуй каля дучэ,
калі хор пяе, калядуючы.*

*Не паможа дубінка орку,
калі ўсе мы глядзім на зорку.
Служкі Ірада, кепска выеце...
Кожны выйдзе — і ўсё ў нас выйдзе.*

*І ўжо хутка роднаю мовай
павіншуем з Новым — ці Новай.
Верым, можам, таму пераможам!
Беларусь, з Нараджэннем Божым!*

**24.12.2020**

***

*Хлопцу радасць — цырк і арэна,
дзе цыркач катуе сабак.
А пачуў, як сабаку дрэнна, —
і равеш над вершам, слабак.*

*У падлетка ўсё пад капірку,
толькі біўся нашмат люцей.
А над кнігай — рыдаў, бо ў цырку
імператар мучыў людзей.*

*Час ідзе, ты ўжо не падлетак
і даўно над кніжкай не роў.
Ды ўсё болей наўкола клетак
і ўсё больш у клетках сяброў.*

*Як бы так напісаць пра краты,
пра свабоду, муры і турму,
каб усе дарослыя кáты
заравелі, як над Муму?*

*Покуль свет, пякельны і боскі,
непісьменна кроіць душу,
расстаўляю кропкі і коскі,
і не плачу,
проста пішу.*

***

*Бабуля ў вагоне сядзіць ля акна,
бароніца кніжкай ад сну.
За вокнамі цемра, а ў кніжцы вясна,
і сэрца гукае вясну.*

*Бабуля чытае ў вагоне старым
пра годных і добрых людзей,
і ў кожным радочку «свабодай гарым»,
і вочы глядзяць маладзей.*

*Бабуля чытае ў вагоне метро
пра свет без няволі й хлусні,
што зло не навечна і прыйдзе дабро
з мараллю на белым кані.*

*Дарма, што на станцыі ўзброены таць
чакае бабулю, дарма.
У краі захопленым нельга чытаць,
ды ўлады над кнігай няма.*

*Плыве карабель праз касмічны туман,
і любы на тым караблі.
Дзяўчынка чытае свой першы раман,
як першы раман на зямлі.*

**1.03.2021**

## Навагодняя паштоўка

*...Будзем гатаваць на Святы печыва,
рыхтаваць прэзенты і дары.
Будзем жыць бясстрашна і бяспечна,
на сваёй зямлі гаспадары.*

*Кантрабанду Дзеда Мікалая
на аленях прывязуць табе —
і запаліць зорачка малая
ёлачку па схеме БЧБ.*

*Нашы зоркі вернуцца на сцэну,
ўдзячную ўлюбёным галасам.
Бо свабода і любоў бясцэнныя,
іншае — накалядуеш сам.*

*Вандраваць не толькі ў самалёце,
не баяцца крокаў уначы,
ва ўсю моц не гнаць па галалёдзе,
а на Святы — печыва пячы.*

*Лёс, як навагодняя паштоўка,
што сястры на волю піша брат:
краты — гэта толькі падрыхтоўкада
жыцця, дзе не існуе крат.*

**29.12.2020**

# Два аповеды



Сяргей ЦЕЛЕШ

## Боты і турботы

Халодным зімнім днём па пустынным шашы ўздоўж засыпаных снегам палёў, дрымотных вёсак урачыста маўклівых пералескаў імчаў маленькі жоўты аўтобус «Пазік», а за ім крыты грузавік «ГАЗ-51» — артысты абласнога драматычнага тэатра спяшаліся са спектаклем у адзін з раённых цэнтраў. Грузавіком, які вёз дэкарацыі, рэквізіт, касцюмы да пастановкі, кіраваў каржакаваты, яшчэ даволі моцны, рухавы пенсіянер Раманавіч. Перад выездам ён правошкаўся з маторам старой машыны і не паспеў купіць папярос. Цяпер заціты курыльшчык імкнуўся хутчэй трапіць у райцэнтр да закрыцця крамаў, каб набыць пачак жаданага «Беламора».

У аўтобусе ехалі акцёры, рабочыя і машыніст сцэны, а на пярэднім «кандуктарскім» месцы бокам да салона, што дазваляла сачыць за дарогай, кіроўцам і падначаленымі акцёрамі, сядзела адміністратар Святлана Уладзіміраўна — жанчына ўладалюбівая, сварлівая, чый узрост даўно пераваліў за бальзакаўскі.

Адміністратар любіла прыфранціцца. Кароткае шэрае паліто-понча без каўняра, з адзіным гузікам на плячы, шыкоўны светла-русы парык, доўгі шэры шалік-самавяз складалі яе гардэроб.

На трасе бачнасць была добрая. Высокі тоўсты дзяцюк Вадзім вёў аўтобус лёгка і ўпэўнена. Акцёры паклалі ўпоперак вузкага прахода на супрацьлеглых сядзенні чамадан і бясклапотна «рэзаліся» на ім у «дурня». Хтосьці проста драмаў пад мернае пакалыхванне.

Характэрнае пляскання картаў, пахвальныя або расчараваныя воклічы, гучны смех раздражнялі адміністратара, уносілі бязладдзе ў яе думкі і перашкаджалі трымаць усё пад кантролем. На выездах яна звычайна рабілася напружанай, панічна баялася самай невялічкай пазаштатнай сітуацыі, з якой не змагла б справіцца. Святлана Уладзіміраўна падслепавата прыжмурылася і з сарказмам спытала:

— Ну, мае салодкія, як будзем працаваць сёння? Мо паўторым смаленскую гісторыю?

Вясёлая мітусня вакол картаў перарвалася, тыя, хто драмаў, прачнуліся. Адміністратар з кплівай усмешачкай свідравала вачыма маладога, перспектыўнага артыста Івана Ціхага, чый смех чуўся дагэтуль.

— Залішняя весялосць яшчэ не гаворыць аб розуме. Вы з якога перапуду на гастролях драму «Дети Ванюшина» ў фарс ператварылі? Добра атрымалася ў самым фінале замест заключнай фразы «Застрелился в саду!» выдаць «Засадился в стрелу!» Гучна! Трагічна! Адзіную рэпліку не здолелі вымавіць!

Ціхі пачырванеў, апусціў вочы, твар яго дыхаў дрэнна прыхаванай злосцю.

— Святлана Уладзіміраўна, кожны можа памыліцца! — рызыкнуў заступіцца за калегу вядучы артыст Котаў. Становішча і аднолькавы з адміністратарам узрост дазвалялі, як ён лічыў, нароўні размаўляць з ёй.

Ментарскі тон Святланы Уладзіміраўны пагрозліва ўзмацніўся:

— Кожны можа памыліцца, але не кожны мае права! — катэгарычна адказала яна.

— Вы наўмысна яму перад выхадам на сцэну нагадалі: «Самае галоўнае — тэкст не пераблытай»!? А потым ваш мёртвы купец Ванюшын ляжыць перад гледачамі, і ягонае пуза трасецца ад смеху, як халадзец. Ганьба! Калі яшчэ хто ўчыніць нешта падобнае, пакараю!

Адміністратар зноў накінулася на Ціхага:

— Дык вось, чалавек, які смяецца! Ваша першая вялікая роля можа сёння стаць апошняй. Будзеце вечна ў статыстах бегаць. Ужо я паспрыяю!

Інтэлігентны Ціхі пад ледзяным позіркам вульгарнай, помслівай кабеты, каб не было сорамна перад калегамі, вымушаны быў запярэчыць ёй:

— Скажыце, а як выразна вымаўляць тэкст, калі ў цябе зуб зуба даганяе! Упэўнены, што і сёння гледачы ў верхнім адзенні будуць назіраць, як мы, сінія, прадаем дрыжыкі, хукаем парай, даючы ім «Утиную охоту». Я, між іншым, трэцяе дзеянне ўвогуле босы пачынаю! Некалькі разоў паляўнічыя боты то абуваць, то здымаць даводзіцца. Я пасля хваробы антыбіётыкі дасюль п'ю.

Ён пахаладзеў, калі ўбачыў, як адміністратар, з перакошаным ад жаху тварам, падскочыла да кіроўцы, грукнула далонню па капоце матора, што раздзяляў кабіну з салонам.

— Стой! — штосілы гаркнула яна. — Назад!

Ад нечаканасці Вадзім рэзка націснуў і адпусціў тормаз. Аўтобус тузануўся, чамадан з картамі ўпаў, адміністратар ледзьве ўтрымалася на нагах.

— Святлана Уладзімін-на, што здарылася? — Вадзім спалохана круціў галавой то на начальніцу, то на дарогу.

— Паляўнічыя боты ў касцюмернай пакінулі! Паварочвай назад!

— Святлана Уладзімін-на, не паспем! Час згубім. Сарвём выезд.

Адміністратар гэта разумела сама. Яна брудна вылаялася і апусцілася на сядзенне.

З ботамі было выстраена некалькі мізансцэнаў спектакля. Іван Ціхі ў вобразе галоўнага героя Зілава, збіраючыся на паляванне, час ад часу рабіў з імі розныя маніпуляцыі.

— Святлана Уладзіміраўна, кожны можа памыліцца, — спачувальным тонам з'хідзіў Котаў.

Тая нядобра зыркнула на яго, пагардліва адвярнулася і ўтаропіла позірк на дарогу. Бывалы акцёр весела перамігваўся з братамі-акцёрамі. Яго чырвоны твар, здавалася, зараз трэсне ад бязгучнага смеху.

Але пытанне з ботамі павісла ў паветры. Трэба было тэрмінова штосьці вырашаць. Пад мернае гудзенне рухавіка далей ехалі моўчкі. Нарэшце машыніст сцэны Карней Гамзуноў, барадаты велікан гадоў сарака пяці з чорнай ільвінай капой валасоў на галаве, параіў:

— Паважаныя, наш Раманавіч заўсёды ў кірзавых ботах ходзіць. Пазычце ў яго, і ўся справа.

— Яны ж не паляўнічыя, — асцярожна мовіў Ціхі. Ён цяпер баяўся лішне нагадваць аб сабе.

— Якая розніца, — ляніва прамаўляў Карней. — Я ў вёсцы восем гадоў ветэрынарам адбыў. На ферму, у поле і ў лес адзін абутак меў — «кірзачы». А вашы «балотнікі», паважаны — гэта панскія празмернасці гараджан.

Нерухомая адміністратар слухала ўсё з каменным выразам твару і, здавалася, безуважна глядзела на лёгкую замець, што змейкай круцілася наперадзе па сухім асфальце.

— Раманавіч мужык скваліны. У яго папяроскі не выпрасіш, не тое, што боты, — з сумнівам сказаў Вадзім.

Ранні снежаньскі адвячорак заліў доўгую тонкую хмару на захадзе яркай чырванню. Тэатральныя машыны праімчалі па галоўнай плошчы гарадка вакол заваленай гурбамі снегу цэнтральнай клумбы з абледзянелым бюстам правадыра ўсярэдзіне. Каля дома культуры яны эфектна развярнуліся і сталі. Маторы не паспелі заглухнуць, як з «Пазіка» кажаном выпырхнуў шэры цень, кінуўся да грузавіка і ўпхнуў Раманавіча, чые ногі былі ўжо на прыступцы, назад у кабіну.

— Міленькі, я табе прэмію выпішу, адгул у любы час... два адгулы, — лісліва сакатала Святлана Уладзіміраўна, здзіраючы са старога боты, — я табе выезд самы лепшы, міленькі, міленькі...

Як пад гіпнозам, кіроўца даў сябе разуць і апамятаўся толькі тады, калі адміністратар з яго абуткам пад пахай была ўжо на ганку ДК.

— А як жа я!? — жаласна крыкнуў Раманавіч наўздагон.

— Не здохнеш! — груба выгукнула адміністратар з шырокім жэстам вольнай рукі ў яго бок.

З аўтобуса грымнуў дружны смех. Растрапаная, з узбітым набакір парыку, Святлана Уладзіміраўна знікла за цяжкімі дубовымі дзвярыма ўстановы.

Разгублены кіроўца сядзеў, падкурчыўшы абматаныя анучамі паверх цёплых шкарпэтак ногі. Акцёры вясёлым гуртам заспяшаліся ў памяшканне, рабочыя сцэны вошкаліся ў кузаве грузавіка. Раманавіч з прыкрасці плюнуў і злосна ляснуў дзверцамі кабіны.

Каб калега не сумаваў, Вадзім шчодра ахвяраваў яму памяты пачак з некалькімі апошнімі цыгарэтамі. Тры гадзіны Раманавіч быў палонным пакрысе астываючай машыны, пакуль у Доме культуры з поспехам ішла прэм'ера. Больш за ўсіх апладысментаў сарваў артыст Ціхі. На гэта Святлана Уладзіміраўна самазадаволена заўважыла:

— А як вы хацелі, мае салодкія! З вамі ж па-іншаму нельга — толку не будзе.

## Прыгожая цёця

У канцлагеры дзеці не плакалі. Ліда добра запомніла, як аднойчы ў бараку нехта доўга і жаласна ўсхліпваў. Штосьці яму балела. Увайшоў нямецкі ахоўнік, пачуўся кароткі сухі шчаўчок, і енк скончыўся. Тады нават самыя маленькія ўразумелі: паводзіць сябе трэба ціха, іначай смерць. Увечары з працы вярнуліся матулі, і жыццё пайшло сваім ходам, быццам нічога не здарылася. Дарослым таксама не дазвалялася плакаць.

Потым з'явіўся злы поп без барады, у брудна-шэрай расе, які наглядаў за дзецьмі, калі матуль забіралі на працу. У страху перад адміністрацыяй лагера ён з дзягай хадзіў па дзіцячай палове барака, біў усіх, хто яму трапляўся ў праходах між нараў і грозна крычаў:

— Молитесь Богу, ё.. вашу мать! Молитесь Богу, говорю вам!

Ліда тады днямі нерухома сядзела ў недаступным куце і, адвярнуўшыся ад усіх, глядзела ў яго цемру.

— Яна зноў нічога не ела, — жаліўся ўвечары маці старэйшы брат Вова, — бульбу ў міску з супам вывернула.

Толькі з маміных рук дзяўчынка магла штосьці паесці. Жанчына брала саслабелую дачку сабе на спіну, Вова з малодшым Ванем за руку ішлі ўслед. На сваёй палове барака маці сяк-так прыводзіла сябе і дзяцей у парадак, дзяліла з імі сціплы паёк.

— Нічога, пані Шура, хутка ўсё скончыцца, — каб падтрымаць жанчыну, гаварыла суседка па нарах, родам са Слонімшчыны, — нас абавязкова вызваляць. Ужо новых зняволеных у наш лагер даўно не прыганяюць. І самалёты, халера на іх, разлёталіся. Усё бамбяць, бамбяць...

Самалёты прыляталі нішчыць нямецкія прадпрыемствы і тых, хто там працаваў. Ліда не разумела, як тыя крылатыя пачвары, што нясуць з неба смерць, будуць іх вызваляць. Увогуле, дзяўчынка смутна ўяўляла сабе свабоду. Амаль палову жыцця яна правяла ў лагерах. З мірнага часу няясна ўзгадвала толькі бацькавы абдымкі, густую шчаціну на яго няголеным твары. Ліда тады адхілілася, б'ючы тату кулачком у грудзі: «Фу! Калючы!». А той прыціснуў яе мацней і заліўся шчаслівым смехам, агаляючы два шэрагі белых, роўных зубоў.

У пачатку вайны бацькі не стала. Калі іх забіралі ў Нямеччыну, Лідзе было крыху болей, чым цяпер Ваньку. Яго ўвогуле тады толькі адарвалі ад грудзей. А Вова быў такі, як зараз Ліда. Цяперака ён дарослы. Можа самастойна ў час паветранай трывогі за руку вывесці яе і Ваньку з барака. Маці паказала дзецям месца, куды яна будзе прыбягаць, і Вова дакладна прыводзіў туды брата і сястру.

Вытворчыя карпусы, дзе працавалі вязні, месціліся на тэрыторыі лагера, каля самых варот. Жылыя баракі цягнуліся трыма паралельнымі лініямі, перпендыкулярна цэхам. Пры авіяналётах немцы выганялі ўсіх з завода і баракаў на адкрыты пляц.

Канец зімы выдаўся без снегу. На голай халоднай зямлі невялічкімі купкамі і паасобку сядалі людзі ў шэрай лагернай вопратцы з белымі нумарамі на левым баку грудзей і спіны. Маці брала Ваньку на калені, прысікала да сябе, другой рукою абдымала Ліду. Вова туліўся да іх.

— Пані Шура, вам жа не зручна! У вас трое дзетак. Давайце я з вашай дзяўчынкай пабуду, — неяк прапанавала ёй добрая суседка па бараку.

— Сходзі, доню, з цёткай Адэляй, — згадзілася Шура.

Дзеці ў канцлагеры слухаліся. Ліда моўчкі падала руку змарнелай, маршчыністай цётцы, і тая адвяла яе да сваёй групы, крокаў за пяцьдзесят.

Надрыўнае выццё сірэн, нервовы, няспынны брэх сабак раптам патанулі ў кананадзе зенітак, громе матораў дзясяткаў самалётаў і грукаце выбухаў. Бамбілі чыгуначную станцыю ў гарадку паблізу канцлагера. Шура адчувала пад сабой здрыганне зямлі. Зрабілася страшна. У выпрабаваннях апошняга часу трыццацігадовай жанчыне было не да набожнасці, але вусны самі пачалі нашэптваць: «Госпадзе Ісусе, збаў нас! Багародзіца, заступіся, памажы, выратуй! Госпадзе, памілуй нас!».

Раптам у страшным грукаце ўзрыўная хваля падхапіла іх разам з дзецьмі і кінула на ўтаптаны пляц. Краем вока Шура ўбачыла ўзвіты слуп зямлі і агню на месцы, дзе сядзела Ліда. Не паспелі асыпацца ўзнятыя выбухам камякі, як жанчына кінула Ваньку ў Вовіны рукі.

— Тут сядзіце! — загадала яна.

Імгненна Шура апынулася каля вялікай, глыбокай варонкі. Адтуль яшчэ бруіўся жаўтаваты едкі дымок. Знявечаныя целы і іх часткі раскідала на шмат метраў ад страшнай ямы. Смурод ад выбуху мяшаўся з пахам крыві. Параненых не было — бомба трапіла ў самую гушчу людзей. Ці то ад кантузіі, ці то ад таго, што налёт скончыўся, жанчына, як вар'ятка, у поўнай цішыні і прастрацыі, хадзіла сярод забітых, шукаючы астанкі свайго дзіцяці...

Яна ўбачыла дачку метраў за дваццаць ад варонкі, на роўным кавалку старой бетоннай пліты. Дзяўчынка мірна ляжала і нечаму загадкава ўсміхалася.

— Доню, ты... што? Дзе баліць? — разгублена спытала Шура.

— Мама, калі б ты толькі ведала, якая прыгожая цёця мяне ўзяла на рукі і ў паветры перанесла сюды, — радасна адказала Ліда.

Шура ўжо не помніла, калі ў апошні раз бачыла дачку такой шчаслівай. Жанчына схапіла дзяўчынку, моцна прыціснула да сябе і падбегам накіравалася да сыноў. Ліда абвіла ручкамі шыю маці, а на вуха ёй безупынна лепятала:

— Цёця была басаногая і без хусткі. А сукенка ў яе блакітная, вельмі доўгая. Усмешка добрая-добрая, а рукі мяккія, цёплыя, такія родныя, як у цябе...

Больш Шура сваіх дзяцей чужым не давярала. Усё астатняе жыццё жанчына шчыра малілася дочцынай Збавіцельцы і Яе Сыну.

Для ўжо сталай Ліды расповед пра выпадак з выбухам здаваўся неверагодным. Але яна ведала: маці хлусіць не ўмее. Хоць у памяці засталося іншае: гадоў да сямі часта бачыла ў небе сярод аблокаў Тое, што засталося ў вялікай таямніцай назаўсёды. Бо хто будзе верыць мроям маленькай дзяўчынкі!

# Эцюды



Яўген БЯЛАСІН

## Мошачак

Нядаўна згадалася мне дзіўнае слова з дзяцінства. Назоў лугу — Мошачак. І даволі нечакана адкрылася, як вылушчыўся гарэх-лушчанец у належны час, яго значэнне.

Але спачатку пра луг. Быў ён даволі прыхаваным, не адразу і ўпомніш, як туды дабрацца. У складках мясцовасці залёг гэты Мошачак. Першыя ўспаміны заўсёды самыя яркія. То ўзгадваю, як бацька збіраецца па грыбы. Гэтым разам у Белы Гай, гэта шмат далей, чым у бліжняе Хвалава, і зусім у другі бок. Садзіць мяне на раму, едзем з канца родных Задвораняў не на Паразоўскі мост, а далей, на меншы масток цераз Зяльвянку, потым праз вёску Дарані амаль да ўрочышча Каліноўшчына. За Каліноўшчынай непадалёку маёнтак краскоўскага падпанка і парк, на другім беразе рэчкі вялікая вёска Краскі. Возьмешся крыху ўлева ад гэтага кірунку, дык праз кіламетры два-тры будзе лес Якуцоўка. Там чырвонагаловікі. А калі брацца па-над рэчкай, на гэты яе бок, наўпрост на маёнтак, дык там іншы лес — Вострыя Горы. Але нам і не ў Якуцоўку, і не ў Вострыя Горы. Нам па белыя, па праўдзівыя баравікі ў Белы Гай.

Бярэмся пад прамым вуглом на лабасты пагорак. За ім кіламетрах у трох маладнякі, а за імі наш лес. Яшчэ далей за лесам, за Белым Гаем, ужо зусім іншы свет, таямнічы Шамбалінскі край. Там побач вёска Нізяны, дзе паводле сведчанняў маці чатыры браты гаспадары былі да бальшавікоў і ўсе пагінулі, акрамя аднаго, які пасля вайны жыў у Лондане. За Нізянамі хутар Верусіно і мястэчка Ізабелін, — на той час людзі называлі іх Вірусін і Забалін, каб лягчэй у рот клаліся. Насамрэч падараваныя, адпісаныя яны ў свой час былі, мабыць, дачцэ нечыяй Веры (Вярусі) і дакладна дачцэ падскарбія Вялікага Княства Літоўскага Яна Флемінга Ізабеле. А за ізабелінскімі крутымі паваротамі справа вёска Рунгі — бо там пасяліў той Флемінг запрошаных з Германіі рамеснікаў з прозвішчам Рунге. Ну ды гэта ўсё веды апошніх часоў, а на 1960-я нам так далёка ў прасторы і часе не трэба. Вярнуўшыся да Нізян, згадаю яшчэ Лапеніцу. Гэта налева за ляснымі масівамі і таксама за Шамбалінскім краем Белага Гаю. Пра Лапеніцу бацька мне на той час пару разоў згадваў: настаўнічаў там пасля Віленскай беларускай гімназіі.

Па дарозе ў грыбы ён распавядаў мне малому толькі частку згаданай раней інфармацыі, частку я даведаўся пазней, прынамсі, пра Віленскі перыяд. Пра яго Васіпавіч не казаў пры яшчэ стойкіх будаўніках камунізму, — апасаўся рэпрэсій. Больш распавядаў пра канкрэтнае: як аднаго разу восьз гэтай горкі тармазы прапусцілі, і толькі пясок унізе выратаваў, мякка прыняў нас абодвух на шалёнай хуткасці. Пра Штопа, ягоны хутар. Пра самагонку змоўчваў: нашто мне малому такія веды. Ёю з ім расплачваліся за такія-сякія сакратарскія працы ў перапісцы з уладамі. Або за дапамогу ў завочным навучанні дзяцей у савецкіх ВНУ. Пазней, калі я меў ужо свой ровар і ездзілі на пару, бацька браў актавай вышэй і распавядаў пра мясцовую Алесю, дачку хутаранца Саросіка, якая з паглядным сынам суседняга хутараніна круціла шалёнае каханне і бегала па тым Белым Гаі ў вопратцы Івана Купалы.

Дык вось, падняліся пешкі на той самы лабасты пагорак за Даранямі — відаць, таксама доранае вёска была калісьці некаму, — справа Каліноўшчына ледзь відна, вакол палі як воку сягнуць. Коцішся па добрай дарозе, мінаеш яшчэ пагорак, і яшчэ, і за трэцім злева адкрываецца раптам зялёнка. Пры дарозе трава-мурава, далей з абодвух бакоў чараты і нават аер, а пасярэдзіне блінец вады ладны такі. З гэтага боку крута поле нависае, — калі трактар не ўпішацца і кульнецца, то мала не будзе. Потым ракітнік, лозы. Вярхамі амаль па ровень поля выходзяць. Далей плашчэй, але і кустаўя больш няма. Цераз ваду трава, купіны, потым мох, ядлоўцы і якіх паўкіламетра палогага выхаду з балаціны. А калі глядзець па дарозе, то далей пры ёй, адразу леваруч, палажына і поле. Так што ладнае такое вока, нечакана сярод палёў і пагоркаў. Да Белага Гаю якіх два кіламетры.

«О, тут карасі мацёрыя ёсць, — нахвальваў бацька, зацяты рыбак. — Залатога можна зачапіць як падняць». І кожны раз падахвочваўся неяк выбрацца сюды. Але на маёй памяці так і не сабраўся. Яно і зразумела: было той рыбалкі колькі хочаш і побач з хатай. Надта рыбная была Зяльвянка, а калі не на рэчку, то ў тарфяных капанках пры ёй, кіламетр які, мо паўтара да іх — там табе і ліні, і шчупакі, а карасёў — дык проста на выкід.

Так што выбраўся ў Мошачак потым я сам. Ужо студэнтам, на летняй пабыўцы. Паверыў байкам і чуйцы, якая памалу сфармавалася была на той час, хоць і досыць рамантычная такая. Узяў напарніка — як помню, Воўку, сына настаўніка працы. Навязалі да майго ровара трыгубку, сетачку такую з тонкім капронавым палатном у вялікія вочкі, на немалую рыбу, на ягоны загрузілі зменную вопратку і абутак, торбы для рыбы, рукзак, у ім крыху яды падсілкавацца, — і праз якую гадзіну на месцы. Лезем у той Мошачак. Воўка больш гідлівы, то цалкам апрануты акунуўся, а я толькі зверху робу студатрадаўскую накінуў і на ногі старыя чаравікі, ад карчоў, а так у трусялях.

Зайшлі ад дарогі, каб спачатку накаламуціць вады, а потым палавіць колькі трэба будзе. Звычайны прыём, які часам прыводзіў, на тыя часы, да рыбнага пабоішча. Лета гарачае



Фота Яўгенія Гайдукa

было. Багны тарфяна-гліністай па пояс, вады сантыметраў дваццаць над ёй, потым больш, а пад купінамі, якія метраў за пяцьдзясят, дык і ўвогуле даволі глыбока. Але плыць не, не выпадае. Рыбы не бачна, адно кузакі нейкія шастаюць у вадзе, агідныя плавунцы-гузікі, якія, кажуць, рыбу пад'ядаюць. Як паўзлі-пераваліваліся туды, анічога не трапіла. Крыху пабоўталіся-папялёхаліся паміж купінаў і далей па траве, бо карасі хавацца любяць. І як у ваду глядзелі. Ідзем назад, адно як залунае серабро ў сетцы! Карась на поўкілаграма. І яшчэ адзін!

Пры беразе зусім стаў я грузнуць. Падымаю над вадой ляжку — а з яе два чорныя вузлаватыя шнуры звісаюць. П'яўкі! Прысмакталіся!! Конскія!!! Агідна да не магу. Спрабую змахнуць рукою — дзе там. Ужо смокчуць! Пампуюць, заразы. У сябе. Маю кроў. Ледва адарваў. Выйшлі на бераг, пры роварах. Карасі нічога, але відавочна, што бальшыня залегла ў глей або схавалася ў траве ды моху, а гэтага дабра там было нямерана. Але галоўнае, разгледзеліся — а тых не п'явіц, а конскіх, самых вялікіх п'явак у Мошачку вой як багата. І тут. І там. І вунь яшчэ дзве рассякаюць!! Занадта многа, каб нам зноў у яго сунуцца. Так і паехалі дахаты, з малой здабычай. Ці памылі сябе і снасць на рачных перакатах на канцы Дашкавічаў, за Каліноўшчынай? Ужо не помню. Але чаму «Мошачак» — спытай мяне, на той час не адказаў бы.

Цяпер адгадка сама прыйшла, нарадзілася з масы развагаў пра тыя свае далёкія ўжо гады. Мошачак — гэта двайное памяншальна-ласкальнае ад звычайнага «мох». «Мошык» і зусім маленькі, ласкавы «Моша-ча-к». Так і паўстае карцінка гэтая перад вачыма: кароценькі яркі зялёны мякенькі мошык. Няйначай, жанчыны назвалі гэты луг. Казаў жа бацька: вымочвалі ў ім раней лён. І рассцілалі потым на гарбу, пачынаючы ад крутога брыля. Праца цяжкая, але традыцыйна жаночая. Вось і прылегла была адна з іх, жанчынак тых, на мошку тым адпустку даць спіне ды рукам. Побач апусціла стамлёнае цела другая. Пра п'явак не думалі, ішлося пра мяккасць і спачын. Мох той уголас нахвальваць пачалі. Таму і назоў такі дзіўна мілагучны выйшаў.

## Лыжны эцюд

Ужо добрую гадзіну слізгае ён нязвыклымі, непазнавальнымі цяпер, узімку, краявідамі. Захацелася праехацца веламаршрутамі грыбной пары, заадно торкнуць пару-тройку вісячых тэм. Прыкладам, а як гэта асеў на новым месцы той Валера з Меднага, пасля скандальнага пазбаўлення ліцэнзіі і адабрання арэнды возера. Пры нагодзе можна было таксама спраўдзіць сваё дэклараванае мясцовымі зубрамі пяра падабенства акі дзве кроплі вады з фізруком мясцовай школкі. І як заўсёды — такі прашвырон абавязкова нешта дый прынясе-падорыць нечакана-авантурнае.

І гэта апошняе спраўдзілася, анягож. Прамінуў бабровыя пабудовы на канале, паехаў уздоўж палігона і не паспеў дабрацца да кандовых лясоў, да бору з высачэннымі хвойкамі, як адчуў пагоню. Здалёк нейкае павіскванне, нейкі гон.

Э-ге, брат... Снегу насыпала сёлета, быццам у помсту за прамінулы зусім бяззімны год. Там-сям хвойкі, — акурат яны, лістоўным няважка, а елкі больш сухарлява-жылістыя і больш архітэктурна адпаведныя, лапкі з абцяканнем, — дык там-сям хвойкі, як яшчаркі хвасты, скінулі таўшчэнныя сукі, тыя, падаючы, стрэслі агромністыя шапкі закарэлага, бо клаўся мокрым, снегу, і цяпер ляжалі нечакана яркімі зялёнымі плямамі. На зломе залатога ў дзве чалавечых рукі таўшчынёю сука жоўтая свежая плоць дрэва. Нядаўна яшчэ жывое — цяпер будзе сохнуць і буцьвець, калі не спаляць улетку салдаты з начнога ачаплення. Там-сям у снезе сляды звяр'я дробнага, то касулі, то вавёркі, а то і птушыныя, але гэтыя там ззаду — гэта не драбнякі, і няйначай злітым гуртом імкнуць.

Праз якіх хвілін пяць акрэсліліся з-за павароткі — папераздзе здаровы руды, помесь дварняка і піт-буля, следам пяць ці шэсць іншых. З ашчэранымі пысамі, некаторым язык звіс, бо задыха, горача. Пагоня. Здабыча! Вось яна, самотны лыжнік.

Руды кінуўся. Атрымаў палкай, гыркануў глуха, бы ў бочку, і адскочыў. Іншыя атачылі колам, пачалі злосна брахаць, рабіць выпады. Махаў палкамі, раз-пораз тыцкаў то аднаму, то другому. Калі даставала, пырскала кроў. Не жарты — на канцы палак як мае быць шыпы, каб не саслізгвала ані з клыгаў мёрзлай зямлі, ані з ільду калюжын. Ані з навалістых целаў бадзяжнікаў цяпер.

Але ж доўга так торкаць не будзеш, падумалася яму. Скідаць лыжы, ісці, адбіваючыся, да бліжняга дрэва? Ну ды зіма, змерзнеш на крыгу, пакуль хто даедзе. І мабільнік няйначай на здыханні, перасталі батарэйкі зарад трымаць гады са два ўжо як...

Ён прыняў рашэнне. Пераняў шлёўкі на руках, каб можна было адразу адкінуць палкі, выступіў з лыжных мацаванняў. Левай рукой крэслячы вакол сябе, запусціў правую пад нагу, выслабаніў з тоўстай рукавіцы. Шаснуў ёю ў правы кішэнь амерыканскай зялёнай дэсантнай «Аляскі», трафею яшчэ часоў «перестройкі», выцягнуў нож-спружыннік. Толькі паспеў — зноў скочыў піт-буль. Не адбіў яго палкай, як першы раз. Змахнуў яе долу і мякка прыняў звера вольнай цяпер левай, блакуючы даланёй у рукавіцы прагную пашчу, поўную здаровых клыкоў; правай ціскануў кнопку спружынніка і заваліў нападніку як мага ў бок.

Меншыя наскочылі гурмой. Хапалі хто за што, але дастаць да чалавека было цяжка: зімняя вопратка тоўстая і надзейная. Адзіна правая рука голая, але яна ў пастаянным руху, толькі мільгаціць у паветры, наносячы ўдары цяжкаму догу. І — той абвіс, аслабіў хватку на левай рукавіцы. Абваліўся, фарбуючы снег у чырвань. Чалавек узяўся за меншых. Па чарзе кожны атрымліваў то пырок, то падрэз. Ды і многа не трэба было — без лідэра іх адвага відавочна выпарылася, а гарту, мабыць, і не было. Сабакі зноў адбеглі ў кола. Не размыкалі яго, але паводзіліся зусім іначай. Залізвалі паколатыя месцы, ятра з паставаў знікла, замест яе прыйшлі нейкая дзелавітасць і будзённасць. Як быццам іх цераз дзень білі ў кроў і ганебна адкідвалі вон.

Ён крыху пачуйнаваў, якія страты. Дасталі за правую нагу бліжэй да паху. Крывавіць. Абсунуў гумку штаноў, памацаў — павярхоўнае. Толькі прышчыкнуў. Але — да артэры недалёка было. Ніжэй па назе боль адчуў — за ахіл грыз нейкі адзін. Значна. Відаць праз пашкуматаную скуру белую жылу. Але яна цэлая. «Аляска» там-сям вісіць лахманамі, — да цела не дасталі нідзе.

Пацыху падняўся. Зграя падабралася. Гырчэнне. Зыркочуць бельмамі. Паспрабаваў, а як на нагах. Узяў палкі як дубаўё, махнуў пару разоў — забаяліся, адскочылі. Уступіў у лыжы, нож пакінуў напагатове, развярнуўся і, падцягваючы правую, паслізгаў у бок старту.

Праз метраў сто азірнуўся — зграя самкнулася над сваім былым лідэрам. Моўчкі рвалі, шкуматалі, глыталі, давячыся, пакуль гарачае, пакуль не застыла.

# Што такое свабода?

Віктар МАРЦІНОВІЧ



Фота www.ujew.com.ua

Можа, мне хто-небудзь з вас, шаноўныя чытачы-беларусы з 2020 года, патлумачыць, што такое для вас асабіста свабода?

Вы адчуваеце, як змяніўся сэнс гэтага слова ў параўнанні з тым, чым была свабода для нас яшчэ год таму?

Мы ўсе імкнёмся да свабоды, шмат хто адседзеў суткі, нехта страціў здароўе і нават жыццё за яе.

Але што гэта – свабода?

Як вы яе разумееце?

Нашыя папярэднікі Тадэвуш Касцюшка, Кастусь Каліноўскі таксама біліся за свабоду. Першы вымушаны быў эміграваць, другі быў забіты і патаемна пахаваны.

Але ці тая гэта свабода, пра якую марыць кожны беларус?

Відавочна, што не.

Каліноўскі і Касцюшка разумелі свабоду як вызваленне з-пад каланіяльнага прыгнёту. Як раскошу тутэйшым людзям самім вызначаць свой лёс. Не залежаць ад рускіх паноў і чужога цара.

Дык вось яна, гэтая свабода! Яна тут у нас як найменш з 1991-га!

Беларусь – незалежная, гэта неаспрэчная дадзенасць, і рускі цар мае тут хіба што ўладу вызначаць цэны на энерганосьбіты.

Але чаму так цяжка дыхаецца пры гэтай свабодзе?

Чаму зноўку гінуць за свабоду?

Зноў выпраўляюцца на чужыну?

У выдатным рамане В'ета Нгуена «Спачувальнік» ёсць вельмі глыбокая і актуальная для нас развага.

Галоўны герой працуе сакратаром праамерыканскага афіцэра падчас згортвання вайсковай аперацыі ў В'етнаме ў 1969-м. Адначасова з гэтым герой перадае звесткі камуністам, якім спачувае. У пэўны момант гэты «двайны агент» трапляе ў камуністычны палон, і яго не ратуе тое, што ён супрацоўнічаў з «чырвонымі». Гледзячы на жудасныя рэчы, якія в'етнамцы робяць з в'етнамцамі ж у папраўчым лагеры для ваеннапалонных, ён зазначае: вось, раней нас прыгняталі французы, і мы з імі змагаліся, думаючы, што менавіта гэта і ёсць барацьба за волю. Але цяпер высветлілася, што самі в'етнамцы здольныя рабіць з в'етнамцамі такія рэчы, на якія не наважыўся б ніякі каланізатар. І што, маўляў, вось гэта і ёсць сапраўдная незалежнасць?

У гэтым сэнсе ўсе, хто перажыў лета і восень (і зіму!) 2020-га, пабачылі, што ніякі Мураўёў-вешальнік не супастаўны з тутэйшымі, дамарослымі спецыялістамі.

Што Зло неабавязкова мусіць прыходзіць звонку, каб быць Злом.

І, такім чынам, свабоды ў краіне можа не быць нават пасля таго, як краіна гарантавала сабе незалежнасць. І нават болей: тая самая незалежнасць мусіць быць крыніцай, з якой выбегла і выбудавалася самая вялікая за гісторыю гэтай зямлі несвабода.

То трэба зрабіць наступны крок.

Прыкласці высілкі і зразумець, што такое сапраўдная, дарэчная свабода.

Да чаго мы імкнёмся?

Хіба рэч толькі ў праве абіраць тых, хто намі кіруе?

У тым, каб спыніць агрэсію і гвалт?

І ці можа існаваць свабода ў атмасферы паўсюднай маны?

Няўжо свабода роўная праўдзе?

Ці, прабачце, дэмакратыі?

У мяне ёсць асабісты адказ на пытанне, што такое свабода: для мяне гэта права не падпарадкоўвацца тым загадам, якія не выходзяць з майго сэрца. Загадам, супраць якіх паўстае ўсё знутры.

Такім чынам, мяжой сапраўднай свабоды ёсць не геаграфія, а – сама асоба.

Можна жыць у цалкам незалежнай сістэме, але быць нявольнікам горшым, чым жаўнер каланіяльнага войска.

Кожны з нас мае адчуванне таго, што добра і што – не.

Свабода – гэта права не рабіць іншаму кепска тады, калі ты яму спачуваеш.

Менавіта гэтага права бракуе ўсім людзям, якія зрабіліся вінцікамі нашага невыноснага парадызу.

Я гляджу ў іхнія вочы і бачу ў іх дзве рэчы: пакорлівасць і страх, страх і пакорлівасць.

Пераадоленне іх і ёсць галоўнай задачай таго, хто змагаецца за вольную Бацькаўшчыну.

І праблема тут палягае ў тым, што значная частка гэтай барацьбы мусіць весціся ўнутры чалавечага розуму.

# У нас будзе шанец...

Зміцер КУЗМЕНКА

**Ганна Севярынец. «Гасцініца "Бельгія"»: раман, — Мінск, «Регистр».**

Кажуць, гісторыя развіваецца па спіралі. Калі так, то раман гэты адлюстроўвае адзін з бясконцых яе віткоў.

Колькі разоў айчынная мінуўшчына сціскалася менавіта ў падобны жахлівы віток, калі за світаннем адразу насоўвалася новая беспрасветная ноч?

Гасцініца «Бельгія» большую частку рамана як бы існуе па-за тэкстам. Але ўсё ў рамане пачынаецца з яе — падчас першага з'езда літаб'яднання «Маладняк» — і заканчваецца зруйнаваннем гасцініцы пры будаўніцтве Дома ўрада. Паміж гэтымі падзеямі — кароткі нават па маштабах хуткаплыннага чалавечага жыцця прамежак у дзясятак гадоў, за які старая будыніна перажыве разам з Менскам і яго жыхарамі чарговую драму.

Мы адчуваем пахі былога губернскага горада, які нядаўна зрабіўся сталіцай самастойнай беларускай рэспублікі. Мы чуем гукі конкі, гоман кірмаша, гул галасоў у калідорах новастворанага ўніверсітэта. І — новае пакаленне беларускіх пісьменнікаў. Алесь Дудар і Міхась Зарэцкі. Міхась Чарот і Анатоль Вольны. Уладзімір Дубоўка і Адам Бабарэка. Маладыя і імпэтныя. Таленавітыя...

Многія з іх загінуць ад чэкісцкай кулі ў адну чорную кастрычніцкую ноч 1937 года. Але ў рамане яны — жывыя. Са сваімі звычкамі, жэстамі, інтанацыямі. Яны пішуць вершы і прозу, ствараюць літаратурныя аб'яднанні, выдаюць часопісы ды газеты. Яны кахаюць, спрачаюцца, сварацца, п'юць гарэлку і агрэставае «Лошыцкае». Яны пакутуюць і нават часам ненавідзяць адзін аднаго. У кожнага свае ўяўленні ды амбіцыі. Аднак усе яны бязмежна любяць Беларусь і заўзята працуюць дзеля яе шчаслівай будучыні. Вось толькі неўзабаве высвятляецца, што за шчырую працу гэтую можна лёгка стаць ворагам дзяржавы. Ворагам народа. Толькі за тое, што любіш сваё, роднае.

Пад жахлівым ціскам нават самыя цвёрдыя ды ўпартыя пачынаюць сумнявацца: мо я сапраўды рабіў нешта няправільна, можа, я сапраўды — вораг... Жыццё нібыта па-ранейшаму рушыць наперад: на вуліцах смяюцца студэнты, пракладаюцца трамвайныя рэйкі, будуюцца новыя гмахі. Але ў горадзе ўжо не стае прадуктаў і пануе страх...

Асаблівая каштоўнасць гістарычнага рамана Ганны Севярынец у тым, што, бадай, кожная сюжэтная лінія, кожны паварот сюжэту і нават многія дробныя дэталі грунтуюцца на архіўных дакументах, мемуарах, дзённікавых запісах і звестках.

І яшчэ. У «Гасцініцы "Бельгія"» хаваюцца адказы на многія балючыя пытанні нашага сённяшняга дня. Як?.. Чаму?.. Дакуль?.. Таму чытайце яе. Калі ёсць такая магчымасць — чытайце разам з дзецьмі-падлеткамі. Разам з бацькамі. Бо гэта дадасць усім нам глыбіні разумення нашай мінуўшчыны і нас цяперашніх. А разуменне — гэта моц. І тады ў нас будзе шанец вырвацца, нарэшце, з замкнёнага кола гісторыі, у якім вялікая надзея шторазу змяняецца расчараваннем і трагедыяй.

# За што?..

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ

З гісторыі вядома, што калі закон парушаецца часта, злачынства становіцца паўсядзённасцю. Ці ёсць час «за кіпучай работай» на маральна-этычныя перажыванні? Не ўсім хочацца ў гэта верыць, але за гэтыя месяцы мы пабачылі столькі ўсяго расцудоўнага, што ясна, калі штосьці ў кагосьці і варушылася, яно ўжо схаванае — у той самай паўсядзённасці. Боль цяпер збольшага адбіваецца ў тых, на каго накіраваны гвалт, на іх сем'і, на іх сяброў.

Між іншым, колькасць прыватных гісторый болю стала проста фенаменальнай. Думаю, кожны, хто чытае гэты тэкст, мог бы расказаць сваю, ці гісторыю сваяка, ці сябравую. У адрозненне ад колішніх часоў сталінізма, у Беларусі ёсць магчымасць гэтыя гісторыі прагаворваць, іх ёсць каму фіксаваць. Добра і важна, што іх ёсць каму чуць. Я спадзяюся, усе яны некалі прагучаць шырока. Кожнае сведчанне павінна захавацца. Каб у наступны раз крыху менш дзён спатрэбілася чарговаму пінжачнаму еўрабізнэсоўцу з клюшкай на пряняцце лагічнага рашэння адмяніць фуршэціку з крывасмокамі.

Мне даўно рупіла напісаць адзін невялікі тэкст, каб, магчыма, лепш зразумець самому, дзеля чаго і за што ў 2020-м выйшлі беларусы са сваіх цесных кватэраў. Супраць чаго і каго — гэта ясна, і, дарэчы, для аўтарытарнай сістэмы на гэтым усё і заканчваецца. Бо кожны пратэст яна ўспрымае як персанальны выпад; для яе няма ніякіх канструктаў, ідэалагем, карацей кажучы — каштоўнасцяў (акрамя, безумоўна, самага найпершага і прымітыўнага значэння гэтага слова). Ёсць толькі прозвішчы, якія ўсё вырашаюць. І нават свечкі на сіць ставяцца таму, што нехта І. Хрыстос можа, з пэўнай доляй імавернасці, разрулiць нейкія важныя для іх пытанні. І чаму б тады не закінуць вуды?

Усё ж, і мне яўна гэта бачыцца, для пратэсту былі найважнейшымі не прозвішчы, а менавіта каштоўнасці. Памятаю, як мяне ўразілі людзі ў першым ланцугу салідарнасці, які транслявалі журналісты Радыё Свабода, праходзячы ад чалавека да чалавека праз увесь мінскі праспект Незалежнасці.

Людзі гаварылі пра сваю абражаную годнасць, пра самае нізкае і крыўднае стаўленне да сябе з боку ўладаў падчас эпідэміі.

Пра тое, што яны хочуць, каб іх воля была пачутая. Каб у краіне з'явілася магчымасць выбіраць і быць абранымі, свабодна, законна і без апрыклых фальсіфікацый.

Напэўна, упершыню я так часта чуў ад людзей пра сваё законнае права кантраляваць чыноўнікаў і сілавікоў, якія існуюць за кошт сабраных падаткаў.

Вельмі шмат хто, асабліва з маладых, гаварыў пра свабоду. Гэта не заўсёды нават канкрэтызавалася. Чалавек мог проста пасля гэтага моўчкі паглядзець у аб'ектыў, і станавілася ясна, што для яго прага свабоды — не пустыя словы.

Безумоўна, вельмі часта гаварылася пра беззаконне. Мне нават падаецца, што гэта і ёсць шуканае «беларускае слова-2020». У ім месціцца і гнеў за фальсіфікацыі выбараў, і што чалавека, калі ён захоча стаць кандыдатам у прэзідэнты, могуць проста і ні за што пасадзіць у турму. Што можна збіць, пакалечыць, нават забіць, і за гэта нічога не будзе.

І гэта не гнеў разбуральны. Гэта раз'ятранасць ад парушэння нацыянальнага права, якое мусіць быць асновай і фундаментам дзяржавы. Пратэст адбываўся за ўзнаўленне законнасці. Гэта менавіта і была сапраўдная спроба аховы грамадскага парадку, «пра якую так доўга гаварылі бальшавікі».

Бо калі такога грамадскага парадку няма, з'яўляюцца велізарныя злаякасныя пухліны злачынстваў, якія разбураюць увесь дзяржаўны арганізм.

Як прыклад — адзін маленькі дапісаны неканстытуцыйны пункт аднаго не самага вызначальнага, мякка кажучы, закона дазваляе пасадзіць у турму 35 000 чалавек за тры месяцы, прынесці пакуты як мінімум дзесяці-дваццаці блізкім людзям кожнага з пасаджаных. У выніку — за тры месяцы мы маем рану ў паўмільёны чалавек! Так працуе пухліна. У 1930-я проста былі іншыя лічбы — 58.10 замест 23.34...

За што выходзілі беларусы? За роўнасць перад законам, за доступ да інфармацыі і справядлівы суд, за недатыкальнасць жытла, абарону ад катаванняў і нялюдскага стаўлення, таемнасць перапіскі і выбарчае права, за мірныя сходы, страйкі і незалежныя прафесійныя саюзы.

Насамрэч усё проста. Усё даўно сфармулявана («Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека»).

Гэта тая самая, паводле Міністэрства замежных спраў, «насаджаная амерыканцамі дыктатура правоў чалавека». Якой чамусьці баяцца ўсе астатнія дыктатуры.

На шчасце, большасць урэшце зразумела, што справа не ў прозвішчах. І што трэба цалкам прайсці шлях, не мроячы пра тэлепартацыю. Галоўнае, стала значна цікавей гэтай дарогай ісці. Бо стала відавочна, што ты, мякка кажучы, не адзін і ўжо ніколі не будзеш адзін. Ці не найлепшы гэта вынік?

budzma.by

# Наста Кудасава: «Паэзія — гэта спосаб існавання»

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**З Настай Кудасавай хацелася паразмаўляць пра асабістае, нелітаратурнае. Але... не атрымалася. З першых хвілін стала зразумела, што паэзія — гэта яе лад жыцця, прызма, праз якую яна глядзіць на свет. Праўда, каб прыняць гэта, паэтцы давялося прайсці шлях, які прымусіў шмат ад чаго адмовіцца. Але Наста перакананая, што без болю не бывае ачышчэння, а без ачышчэння — самога творцы.**



***— Шлях да першых публікацый быў складаным?***

— У мяне часта пытаюць, як маладым аўтарам надрукавацца. А я не ведаю! Мабыць, мне пашанцавала ў жыцці, і ў мяне заўсёды прасілі творы, каб іх надрукаваць. Толькі самыя першыя вершы, яшчэ падчас вучобы ў школе, я сама даслала ў газету «Наша Ніва». Гэта быў 1999 год, і я, канечне ж, успрыняла першую публікацыю з вялікім трапятаннем. А потым так сталася, што падчас вучобы на філфаку БДУ я ўвесь час знаёмілася з тымі людзьмі, якія самі бралі мае вершы ў друк. Так што напрошвацца мне не даводзілася. Я і цяпер проста пішу, пакуль у патрэбны момант хтосьці не прапануе: «Давайце возьмем вашы вершы!».

***— Вас дома ўспрымаюць як паэтку? Ці там усё ж такі Наста Кудасава — звычайны чалавек?***

— Мне цяжка сказаць, як сваякі мяне ўспрымаюць, бо мы мала пра гэта размаўляем. Я інтраверт, дзялюся мала чым. Дома я маці, гаспадыня. Там мяне вымяраюць іншымі крытэрамі. Ды наогул, распавядаць пра творчы працэс не толькі цяжка, але й небяспечна, бо ён падобны нечым да варажбы: ёсць у ім сувязь з нейкімі патаемнымі, патойбочнымі рэчамі, пра якія непажадана казаць услых. Словы — жывыя, усё, што прамаўляеш, — здзяйсняецца. Таму я вельмі асцярожна стаўлюся да расповедаў пра механізмы творчасці. Гэта працэс, які застаецца са мной.

***— Атрымліваецца, пішаце пэўныя словы, якія пасля здзяйсняюцца ў жыцці?***

— Так. Словы, напісаныя ў вершах, пасля здзяйсняюцца. Часта бывае так, што пішаш верш, і з'яўляецца нейкі радок, які невядома, навошта і адкуль прыйшоў. Напрыклад, увесну 2020 года я напісала верш пра Карэлію. Там быў радок пра восень, якая прыйдзе «і змые «і межы, і сцюжы, і катаў з ахвярамі». Мне доўга мулялі гэтыя словы пра «катаў з ахвярамі», бо я не адчувала ўнутранай шчырай патрэбы сказаць менавіта так, падавалася, што гэта ў пэўным сэнсе кампраміс дзеля ўдалага заканчэння верша. А я ж стараюся рабіць творы так, каб за кожнае слова можна было адказаць. Я выдатна разумела, чаму мне баляць «межы і сцюжы», бо раптоўна ўвесну надышла пандэмія, межы зачыніліся і я не здолела выехаць у Карэлію, як планавала, і вельмі сумавала ад гэтага. Але гэтыя «каты з ахвярамі»... Яны былі недарэчнымі на той момант, аддавалі літаратуршчынай, мы ж жылі ў нібыта мірны час. Але колькі я ні шукала замену, словы не хацелі замяняцца. А літаральна праз некалькі месяцаў надышоў гэты жнівень — і мы перайшлі ў восень сапраўдных катаў і ахвяр. Цяпер я вельмі баюся гэтага радка, але і веру яму нарэшце безадгаворачна.

***— Значыць, Вы транслюеце тыя словы, якія прыходзяць, афармляючы іх у вершаваныя радкі?***

— Часам я ўсведамляю, што пішу таму, бо гэта звычка: бачыць свет і адчуваць яго праз словы. А часам бываюць настолькі неверагодныя творы, што я чытаю і дзіўлюся: няўжо гэта я магла такое напісаць? Бо гэта штосьці большае за мяне. Я па жыцці — звычайная, сярэдняя, далёка не ідэальная асоба. І калі атрымліваецца неймаверны верш, ён настолькі прыгажэйшы і лепшы за мяне, што я разумею: ён не мой, ён быў створаны на нейкіх нечалавечых вышынях. Чалавек жа можа быць працэйшым за сваю творчасць і бруднейшым нават. Гэта нармальна, мы ўсе людзі — жывыя, недасканалыя. А вершы бываюць ідэальнымі, няўжо ж яны мне падуладныя? Але тым не менш, я не вельмі разумею, як можна трансляваць у творчасці нейкія каштоўнасці і не імкнуцца жыць паводле гэтых каштоўнасцей. Мне здаецца, ты мусіш хаця б паспрабаваць быць роўным гэтым творам, адпавядаць іх вышыні, скарацідь разбежку паміж вершам і табой.

***— Заўжды так адчувалі?***

— Раней не было такога адчування. Магчыма, яно і закладаецца прыродай, але ты яго не адразу распазнаеш. І каб распазнаваць, трэба навучыцца адкідаць шмат чаго лішняга.

***— Чаго менавіта?***

— Мітусні, чакання грошай, прызнання, асабістага шчасця... У мяне было шмат чаканняў ад жыцця. А зараз зразумела, што я на сваім месцы таму, што я пішу. У мяне ёсць сэнс, бо ёсць голас. Я ні ў чым больш не магу быць настолькі ж дакладнай і выразнай, як у вершах. У гэтым максімальна раскрываецца мая душа. Раней было шмат мітусні, разбэшчанасці, нейкай неахайнасці. А цяпер я нібыта дасягнула паэтычнага дзэну: я проста назіраю. Я магу назіраць за ўсім: за сваім болем, адчаем, паразамі, страхамі. Я гляджу на ўсё як летапісец, які мусіць запісваць тое, што адбываецца ў маім жыцці, жыцці сяброў, жыцці краіны...

***— Гэта досыць высокая прыступка духоўнага развіцця асобы...***

— Можна сказаць, што творчасць — гэта як быццам нейкая рэлігійная практыка. Ведаю, што ёсць школы, дзе вучаць пісаць кнігі. З аднаго боку я разумею, што чалавека можна навучыць пэўным тэхнічным рэчам. Але ёсць іншыя рэчы, якім немагчыма навучыцца за пару гадоў у пісьменніцкай школе, бо неабходна проста жыць адмысловым чынам. Паэзія — гэта спосаб існавання. Для таго, каб рэалізоўвацца ў творчасці, трэба пазбавіцца скуры, стаць максімальна адкрытым, адчувальным. Гэта той стан, калі не абрастаеш тлушчам глухаты, а застаешся да ўсяго чулым, уразлівым. Прычым гэта не дасягаецца раз і назаўжды, трэба сябе перапытваць штодня: «Ці не аброс я?».

***— Чаму Ваш шлюб скончыўся разводам?***

— Мы раз'ехаліся і сталі жыць асобна вельмі даўно, але працягваем разам займацца дзецьмі. Цяжка сказаць, чаму так адбылося, гэта мой адзіны досвед такіх сур'ёзных стасункаў, таму я не ведаю, як павінна быць. Напэўна, я проста занадта хацела стаць маці, я заўсёды марыла нарадзіць дзіця, толькі ў гэтым бачыла сэнс існавання. Таму не вельмі добра ўсведамляла тады, у маладосці, які чалавек мне патрэбны, не глядзела крытычна. Цяпер жа я разумею, што хачу бачыць у мужчыне найперш сябра, роўнага мне і ўзаемна цікавага. Але я такога пакуль не сустрэла.

***— Ці пісалі вершы ў шлюбе?***

— Спачатку крыху пісала па старой памяці, а пасля перастала. Потым жа, чым больш адзінока рабілася, тым больш вершаў пачало з'яўляцца, гэта ўжо пасля нараджэння сына. І я стала адчуваць сябе шчаслівай проста таму, што нарэшце праз вершы змагла назваць усё тое, што мне балела. Яны дазволілі мне выплысці з бессэнсоўнасці і роспачы.

***— Калі нарэшце выплылі, адразу пачалі жыць «на поўныя грудзі»?***

— Не, вельмі доўга было пачуццё паламанасці. Я ж выхаваная так, што сям'я мусіць быць адна на ўсё жыццё. Таму ў мяне была чорная дзірка на месцы рэчаіснасці. Я добра памятаю, як прачыналася штораніцу і не магла паварушыцца, думала: хутчэй бы вечар, каб толькі скончыўся яшчэ адзін дзень гэтага жыцця. Хацелася памерці.

***— Нават дзеці не ратавалі?***

— Нішто не можа выратаваць з гэтага стану. Напэўна, людзі ў такім настроі павінны звяртацца да псіхолагаў, ды я не прызвычаеная расказваць іншым пра свае праблемы. У мяне была вера, заставалася яшчэ нейкая тоненькая сувязь з Творцам, якую нельга губляць ніколі. І канечне ж, мне дапамагалі сябры. Тое, што мяне любілі, мяне «выцягвала». Потым, калі выныраеш з гэтай багны, азіраешся, робіцца вельмі страшна, што ты мог настолькі страціць радасць жыцця. Цяпер я ведаю: што б ні здаралася ў жыцці — гэта заўсёды вельмі цікава. І боль, і гора — гэта цікава, таму што гэта і ёсць менавіта маё жыццё, ніякага іншага не будзе. Варта дажыць да канца хаця б з цікавасці, чым гэта ўсё скончыцца. Калі навучыцца глядзець на ўсё збоку, тады можна ўсё перажыць. Цяпер мне камфортна так, як ёсць. Я пішу, займаюся дзецьмі, яны цудоўныя! А туды, у багну, вяртацца не хачу.

***— Адчуваеце сябе самотнай?***

— Цяпер самота мяне не палохае. Я чамусьці раней думала, што я створаная дзеля кахання. Але кожны, па вялікім рахунку, усё адно застаецца адзінокім, нават у шлюбе. Ніхто да канца не можа зразумець іншага чалавека, нават самага дарагога, і гэта нармальна. Самота дадзеная для таго, каб мы маглі даведацца пра саміх сябе, зазірнуць у сябе.

***— Колькі гадоў вашым дзецям?***

— Сыну 12 гадоў, дачцэ –9.

***— Чым сталі займацца, калі засталіся адна з дзецьмі?***

— Я брала заўсёды падпрацоўкі. Раней то перакладчыцай, то мэнэджаркай была, усяго патроху... Я не магла стала працаваць, бо сын з дзяцінства цяжка хварэў на эпілепсію. Зараз ужо лепш, прыступы здараюцца толькі 2–3 разы на тыдзень, і ён пакрысе сталее.

***— Калі Вы ўсвядомілі, што быць паэткай — гэта менавіта Ваш шлях?***

— Быў такі перыяд, калі я не магла ўладкавацца ў жыцці, даць рады з працай і шмат сябе дакарала. Я не адразу зразумела, што хвароба дзіцяці — гэта крыж на ўсё жыццё і мой побыт не можа быць такім, як у іншых. А яшчэ, калі ты ўвесь час спрабуеш скочыць вышэй за галаву, недзе падсвядома ускладаецца віна на дзяцей, нібыта яны не даюць табе нармальна жыць. Я не хачу, каб яны такое хоць раз адчулі. Я хачу, каб яны ведалі, што іх дзяцінства — самае шчаслівае і непаўторнае. І праўда ж, ва ўсім ёсць плюсы. За кошт таго, што мы з дзецьмі амаль заўсёды побач, у нас вельмі блізкія і даверлівыя стасункі.

***— А як узнікаюць вершы?***

— Я звычайна пішу ў галаве, а пасля запісваю іх дзе прыйдзецца: на кавалку сурвэткі, на газетцы, на нейкіх паперчынах выпадковых. Аднойчы падумала: можа, у мяне ўсё атрымліваецца абы-як, бо трэба па-іншаму гэта рабіць, па-даросламу? Тады я стала спрабаваць штодня сядаць за стол, наводзіць там парадак і пісаць старанна па некалькі гадзін у дзень. Магчыма, камусьці такая дысцыпліна дапамагае, але не мне. Твор узнікае толькі тады, калі прыходзіць моцны подых і цябе зносіць разам з ім. Адзінае, што патрабуе дысцыплінаванасці, — гэта знаходжанне ў самоце. Каб нешта пачуць, трэба ні з кім не размаўляць, не мітусіцца. І канечне, словы трэба выхадзіць нагамі. Седзячы за сталом, нічога не напішаш, з радком трэба разам пракрочыць.

***— Шмат хто кажа, што ў Вас светлая паэзія для цяперашніх дзён. Вы самі адчуваеце гэтую радасць, надзею ў душы?***

— Так, у мяне ёсць давер, адчуванне, што мы не кінутыя лёсам. Я адчуваю, што ўсё будзе добра і што гэтыя выпрабаванні нам дадзеныя для таго, каб нас загартаваць. Але, натуральна, я шмат перажывала і перажываю... Восень для мяне была часам упадку веры ў чалавецтва наогул. Але я думаю, што нічога не адбываецца дарэмна. Я бачу, што свет мяняецца. Мяняюцца людзі, каштоўнасці. Мы ж бачым, што ў Беларусі цяпер ідзе нараджэнне грамадства на абсалютна іншых прынцыпах: узаемадапамогі, салідарнасці, талерантнасці.

***— У сувязі з гэтым, якая задача ў нашых творцаў? І наогул, ці павінны яны рэфлексаваць над працэсамі, што адбываюцца сёння ў нашай краіне?***

— Я не магу сказаць, што творцы некаму нешта павінны. Але калі ты назваўся творцам, то што ж, давай, рэфлексуй ужо неяк... У мяне ёсць адчуванне, што паэзія цяпер адказная за вельмі важныя рэчы. Яна можа даць збавенне, падтрымку, яна дазваляе выпусціць гнеў і роспач. Гэта адзін са спосабаў псіхатэрапіі, прычым як для паэтаў, так і для чытачоў.

Літаратурная Беларусь

Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 354-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

# «Малюнак сапсавалі, вінаватых не знайшлі»

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**Валянціна і Дзмітрый — інваліды-вазочнікі, якіх суд Калінкавіцкага раёна аштрафаваў за пікетаванне з бел-чырвона-белым муралам на плоце. Але гэта не прымусіла іх адмовіцца ад сваёй грамадзянскай пазіцыі.**



**За непрыстойны выгляд галоўны архітэктар палічыла менавіта мурал з БЧБ-колерамі. Хаця праз дарогу ад дома, на электра-трансфарматарнай будцы была намалявана выява мужчынскіх палавых органаў — і гэта нікога не бянтэжыла**

Дом, на тэрыторыі якога з'явілася графіці, — так бы мовіць, працоўнае месца Валянціны. Яна працуе ў кол-цэнтры анлайн-крамы, мае сваё ІП, якое цяпер, аднак, закрывае.

— Я працую дыстанцыйна, — тлумачыць Валянціна, — у самім горадзе знайсці працу нерэальна, вакол — недаступнасць: ганкі, другія паверхі...

Унутраная частка плота, які падзяляў зямельны надзел паміж суседзямі, — бетонная сцяна. У Валянціны заўсёды была думка яе пафарбаваць, але рэалізаваць задуму атрымалася толькі ў пачатку лістапада мінулага года. Рашышча нарэшце на гэта дапамог выпадак: Валянціна прабіралася на вазку праз вялікую лужыну, якая знаходзіцца недалёка ад дома, дзе яна працуе, а незнаёмы хлопец дапамог ёй пераадолець. Разгаварыліся, ды ён і прапанаваў пафарбаваць гэты плот: намаляваць вершніка на кані на бел-чырвона-белым фоне.

— Мы выбралі ілюстрацыю, якая нам падабаецца, — распавядае Дзмітрый. — Хлопец намаляваў яе на нашым плоце, бо самі мы, канечне ж, зрабіць гэта не можам.

Мурал з'явіўся 7 лістапада, а ўжо на наступны дзень сям'і патэлефанавалі знаёмыя, якія сказалі, што прыехалі нібыта супрацоўнікі камунальнай службы і зафарбавалі сцяну.

— Мы прыехалі, усё адмылі, малюнак адкрыўся зноў, — узгадвае Дзмітрый. — Але тады ўжо стала зразумела, што на плот паклалі вока, таму на наступны дзень мы паехалі туды разам: Валя — працаваць, а я — пільнаваць.

Працягу гісторыі Дзмітрыю доўга чакаць не давялося. У хуткім часе ён пабачыў, што да дома пад'ехалі машына ЖКГ, адкуль выйшлі два супрацоўнікі з вёдрамі, і міліцэйская машына.

— Супрацоўнікі ЖРЭА, калі пабачылі нас, то рэзка развярнуліся, пайшлі да сваёй машыны — і з'ехалі, — узгадвае Дзмітрый. — А супрацоўнікі міліцыі сталі ўдакладняць, ці з'яўляецца дом нашай уласнасцю, аглядаў тэрыторыю. Пасля прыехаў намеснік начальніка РУУС, які стаў пытаць пра ўмовы пражывання і хацеў трапіць унутр дома, аднак Валянціна туды яго не пусціла.

У хуткім часе сужэнцы атрымалі ліст, што па іх справе была праведзена праверка па парушэнні нормаў добраўпарадкавання, аднак парушэнняў знойдзена не было.

— Праз некаторы час нам зноў нехта сапсаваў фарбай малюнак, — узгадвае Дзмітрый. — Мы выклікалі міліцыю, сказалі, што гэта наш малюнак і ён для нас — каштоўнасць. Вінаватых за тое псаванне так і не знайшлі.

У канцы снежня на ўчастак да сямейнай пары прыйшла начальніца аддзела архітэктуры і будаўніцтва Калінкавіцкага райвыканкама з прадпісаннем, у якім было сказана зафарбаваць графіці. Аднак незадоўга да яе прыходу Дзмітрый акурат рабіў запыт у Міністэрства архітэктуры накont таго, ці трэба ўзгадняць афарбоўку ўнутранага боку плота. Сужэнцам прыйшоў адказ, што ніякіх узгадненняў у такім выпадку не патрабуецца.

Нягледзячы на тое, што Дзмітрый паказаў адказ міністэрства, галоўны архітэктар раёна настойвала на тым, што плот на той момант меў непрыстойны выгляд. За непрыстойны выгляд галоўны архітэктар палічыла менавіта мурал з бел-чырвона-белымі колерамі. Хаця праз дарогу ад дома, на электра-трансфарматарнай будцы была намалявана выява мужчынскіх палавых органаў — і гэта нікога не бянтэжыла. «Толькі калі мы абурыліся гэтым фактам, то прыехалі і зафарбавалі той малюнак», — кажа Дзмітрый.

Таксама Дзмітрый не разумее, як можна выдаткоўваць столькі часу на барацьбу з муралам, калі ў горадзе і блізка не вырашаныя праблемы з безбар'ерным асяроддзем.

— У адной краме зрабілі аварыйны пандус — нават я, спартсмен, не забяруся на яго, дый ніводны чалавек на вазку туды не залезе. Я проста патэлефанаваў архітэктару і пацікавіўся, чаму пандус зрабілі не па нормах. Мяне запэўнілі, што там будзе электрычны пад'ёмнік, але я ведаю, што на вуліцы, без навеса, такі пад'ёмнік хутка псуецца. Галоўнаму архітэктару я выказаў сваё неразуменне: вакол шмат праблем з безбар'ерай, але ж мы іх не кранаем па кожным пешаходным пераходзе, — распавядае Дзмітрый.

— У той час, калі ў горадзе маецца столькі праблем, архітэктар зазірае за чужыя платы, — кажа Валянціна. — Прытым, я спытала, ці не сорамна ёй цяпер займацца гэтым плотам. Яна адказала, што не сорамна і што для нас і так шмат чаго робіцца. Толькі пытанне: дзе і як робіцца?

Згодна з прадпісаннем, якое было выдадзена 30 снежня, сужэнцы мусілі зафарбаваць плот праз суткі. Валянціна папрасіла адцягнуць гэты тэрмін да 5 студзеня: «Сказалі, калі не выправім, трэба прыходзіць у выканкам, каб скласці на нас пратакол». У выніку, сужэнцы не сталі зафарбоўваць плот — і





на іх склалі пратакол, пасля чаго справу перадалі ў суд.

— Суд па гэтай справе прайшоў у студзені. Трэба адзначыць, што павестку мы пабачылі толькі за дзень да суда, — кажа Валянціна.

У тыя дні быў галалёд, таму Валянціна наўпрост не змагла б дабрацца да будынку суда. Яна напісала просьбу аб тым, каб пасяджэнне перанеслі. Аднак гэтая просьба засталася без увагі. На судзе прысутнічалі знаёмыя сям'і, якія запісалі на дыктафон тое, што там адбывалася. Паколькі былі яўныя нестыкоўкі, суддзя аправіла справу на дапрацоўку.

У пачатку лютага сям'я даведалася, што, аказваецца, 14 студзеня на іх склалі пратакол па 23.34, а малюнак на плоце быў прызнаны пікетаваннем.

— У пратаколе было напісана, што ва неўсталяваны перыяд часу на нашым двары было праведзена пікетаванне з гербам «Пагоня» і бел-чырвона-белым сцягам, — распавядае Дзмітрый. — Мы заключылі дамову з адвакатам, падрыхтавалі хадайніцтва ў суд па трох пунктах. Па-першае, міліцыя заўважыла малюнак не ў студзені, а ў лістападзе, таму яны наўпрост не маглі прыцягнуць нас па гэтым артыкуле. Па-другое, мы напісалі, што, згодна з законам аб дзяржаўнай сімволіцы ад 1991 года, герб «Пагоня» выглядае інакш, чым выява, якая была на плоце ў падворку. А таксама нагадалі, што была праведзена праверка, згодна з якой не было выяўлена парушэнняў у добраўпарадкаванні тэрыторыі.

У выніку суд палічыў, што Валянціна Яшчанка правяла масавае мерапрыемства — пікетаванне, на правядзенне якога не было атрымана адпаведнага дазволу Калінкавіцкага райвыканкаму. Суд па гэтай справе пераносіўся двойчы. Урэшце Валянціну прызналі вінаватай і аштрафавалі на 10 базавых велічынь.

— Ці сутыкнуліся вы, акрамя ўсяго іншага, падчас працэсу з дыскрымінацыяй вас як людзей з інваліднасцю?

— Я здзівілася, колькі павестак накіравалі ў пустэчу, — распавядае Валянціна. — Я казала, што не магу забіраць іх са скрыні, якая знаходзіцца паміж паверхамі. Яны ж бачылі, што я перасоўваюся на вазку... Прытым, кожны вечар, калі я выязджаю па працы, супрацоўнікі міліцыі суправаджаюць мяне на Ніве, — ззаду ці абганяюць мяне спераду. То-бок, яны ведаюць, дзе я жыву і дзе працую, каб адправіць мне павестку. Мяне выклікалі ў РУУС на трэці паверх, дзе ганак — без пандусу. Па-мойму, гэта здзек!

— Мы мяркуем, што нас так проста не пакінуць у спакоі, — разважае Дзмітрый, — тым больш, адна справа знаходзіцца на дапрацоўцы. Канечне, будзе пастанова, каб мурал прыбраць. Мы вырашылі не чакаць камунальнікаў з фарбамі, пастановаў і штрафаў, таму яго прыбралі. Цяпер наш плот — гэта своеасаблівы чорны квадрат. Мы нічога не парушылі. Гэта наша маёмасць. Ніхто не мае права ўказваць, што нам рабіць у нашым двары, нават калі там нейкім чынам адлюстроўваюцца нашы погляды. Гэта наша права!

— Веснічкі мае так і не знайшлі, якія скралі, калі замалёўвалі плот, — дадае Валянціна. — Дый асабліва нікога і не шукалі, бо ведаюць, хто псаваў маю маёмасць.

Валянціна дадае, што гэта сітуацыя спрыяла моцнаму расчараванню, асабліва ў тых, хто пастаўлены для таго, каб абараняць людзей.

**Фота з сямейнага архіва**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ФРАНЦЫЯ. Ганьба Напалеону!

Напярэдадні 200-й гадавіны смерці Напалеона, якую Францыя будзе адзначаць напачатку траўня, імператар аказаўся фігурантам шматлікіх скандалаў. Прыхільнікі фемінізму і крытыкі спадчыны каланіялізму знаходзяць у асобе Банапарта і ў яго ўчынках шмат адмоўных рысаў.

Напрыклад, высветлілася, што імператар быў вялікім аматарам рабства. Менавіта згодна з яго загадам у французскіх калоніях Вест-Індыі на пачатку XIX стагоддзя было адноўлены інстытут рабства. Ганілі Напалеона за тое, што ён прыдумаў мадэль цэнтралізаванай дзяржавы, якая, маўляў, стала пралогам аўтарытарных дзяржаў.

Што да феміністак, яны не разумеюць, як героем Францыі можа быць чалавек, які, на іх думку, вельмі па-спажывецку ставіўся да жанчын. Пра гэта, маўляў, сведчаць яго шматлікія раманы. А міністр па пытаннях роўнасці Францыі ўвогуле назвала Напалеона «адным з найвялікшых жанчынаненавіснікаў у гісторыі».

Нягледзячы на ўсю крытыку Напалеона, Эмануэль Макрон пакуль не адмовіўся ад удзелу ў юбілейных мерапрыемствах. Хаця час перадумаць яшчэ ёсць.

**Паводле французскай прэсы**

### РАСІЯ. Сталіца вяртаецца ў Піцер?

Расія ўсхваляваная. З'явіліся чуткі пра тое, што некаторыя буйныя фінансавыя структуры, звязаныя з нафтаздабычай, пачалі актыўна скупляць зямлю ў Санкт-Пецярбургу. На падставе гэтага робіцца высноfrom, што аперацыі з нерухомасцю, нібыта, праводзяцца ў чаканні міграцыі ў Санкт-Пецярбург ці то парламента, ці тое ўсіх органаў выканаўчай улады, у тым ліку нават прэзідэнта.

Пераезд сталіц, нібыта, пачаўся яшчэ ў 2008-м, калі Крэмль «выселіў» у Санкт-Пецярбург Канстытуцыйны суд Расіі. І хаця судовая ўлада ў Расіі, па зразумелых прычынах, — неадназначная тэма, хутка паўстаў план пераезду на берагі Нявы і Вярхоўнага Суда. І вось цяпер — плёткі пра пераезд нават парламента.

На карысць верагоднасці пераезду Дзяржумы гаворыць той факт, што дэпутатам новага склікання, хутчэй за ўсё, стане цяперашні спікер Заканадаўчага сходу Санкт-Пецярбурга Вячаслаў Макараў. Макараў, як піша прэса, мог бы "як найлепш" ажыццявіць пераезд Дзярждумы ў Паўночную сталіцу.

**Паводле расійскай прэсы**

### ТУРКМЕНІСТАН. Народны сабакагадоўца

У Туркменістане працягваецца бум вакол сабак пароды алабай, якія абвешчаныя нацыянальнай каштоўнасцю. Пры гэтым за кошт сабачай тэмы дзяржаўныя медыя працягваюць прапагандаваць станоўчы імідж кіраўніка дзяржавы. Пішуць, што Бердымухамедаў прысвячае сабакам вершы і песні. У Ашхабадзе ім быў адкрыты гіганцкі помнік алабаю. Нарэшце, як сцвярджаюць туркменскія СМІ, прэзідэнцкая кніга «Туркменскі алабай» адыгрывае важную ролю ў «жыцці і лёсе народа».

І вось — новы этап. Днямі туркменскі парламент прыняў законапраекты аб стварэнні ганаровага звання «Народны гадавальнік сабак». Не выклікае сумневаў, што першым, хто атрымае гэты тытул, стане Бердымухамедаў.

Парадаксальна, але паралельна кампаніі ў гонар алабая муніцыпальныя ўлады туркменскіх гарадоў масава знішчаюць бяздомных сабак і катоў, якія аказаліся на вуліцы з-за эканамічнага крызісу. У тым ліку не шкадуюць і прадстаўнікоў улюбёнай кіраўніком краіны сабачай пароды.

**Паводле туркменскай прэсы**

### ІТАЛІЯ. Кулінарныя злачынцы

Кулінарная Італія абураная. Усё з-за амерыканскага выдання New York Times, якое апублікавала рэцэпт вядомага італьянскага соусу Carbonara. На думку мясцовых кулінараў, гэта не рэцэпт, а здзек з італьянскай кухні. «Нас больш не шакуе, калі мы бачым, як амерыканцы кладуць ананас на піцу ці выпускаюць на рынак безмалочнае веганскае рэчыва, якое называюць "мацарэла". Але цяпер парушаныя ўсе межы», — піша адзін з рымскіх кухараў.

Уся справа ў тым, што New York Times прапануе дадаваць у згаданы соус тАматы, што, на думку мясцовых кулінараў, проста вычварэнства. «Гэта тое самае, што пакласці салямі ў капучына або мартадэлу — у сушы», — іранізуе мясцовая прэса.

Аднак праблема значна больш глабальная. У кіраўніцтве італьянскай асацыяцыі фермераў баяцца сцэнару, калі на рынку прыжывецца фальшывая італьянская кухня. Паводле разлікаў, толькі праз амерыканскі варыянт Carbonara Італія страціць значнае месца на сусветным рынку соусаў з абаротам 100 мільёнаў долараў. «ЗША — галоўны кулінарны злачынца. Хопіць гэтага міжнароднага аграпірацтва!» — заяўляюць італьянскія кухары.

**Паводле амерыканскай прэсы**




Фота Reuters

# Пашпарт — зброя ці паратунак?

Алег НОВІКАЎ

**Тыя, каго турбуе масавы ад'езд з Беларусі, могуць заспакоіцца хіба тым, што гэты сыход яшчэ не дасягнуў маштабаў Ганконгу.**

Анаогул, жыхарам Ганконгу, як і беларусам, уласцівы вельмі творчы падыход да палітычных пратэстаў. Менавіта ў Ганконгу падчас пратэстаў 2003-га прыдумалі выкарыстоўваць парасоны ў якасці палітычнай сімволікі. Пасля таго, як нядаўна кітайскія ўлады забаранілі пратэставую сімволіку, на муры пачалі актыўна клеіць плакаты часоў Маа з заклікамі да рэвалюцыі.

І вось — новая фішка. Цяпер на акцыі пратэстаў модна хадзіць, дэманструючы British National Overseas — брытанскі нацыянальны заморскі пашпарт, які вядомы таксама як BNO. Дакумент раздаваўся жыхарам Ганконгу ў 1997 годзе, напярэдадні далучэння брытанскай калоніі да Кітая.

Асноўнае права, што дае гэты пашпарт, — магчымасць на бязвізавы ўезд у Брытанію. Аднак наяўнасць дакумента не дае дазволу на працу, што абумовіла адносна невялікую папулярнасць BNO сярод жыхароў Ганконгу. Паводле даных Міністэрства ўнутраных спраў Вялікабрытаніі, на пачатак кастрычніка 2020 года ў мегаполісе пражывалі 469 тысяч уладальнікаў пашпартоў BNO.

Каштоўнасць BNO рэзка змянілася на працягу апошняга года. У гэты час Пекін займаўся тым, што актыўна пераглядаў прынцып «Адна дзяржава — дзве сістэмы», на аснове якой Ганконг быў інтэграваны ў КНР. Кропкай невяртання стала прыняцце ў чэрвені 2020-га закона аб нацыянальнай бяспецы Ганконга, які дазваляе пазбаўляць правоў тых жыхароў горада, хто «займаецца сепаратызмам, тэрарызмам або кантактуе з замежнікамі ў мэтах змовы». У якасці доказу сур'ёзнасці намераў у жніўні «за кантакты з іншаземцамі» быў арыштаваны выдавец мясцовай апазіцыйнай газеты Apple Daily.

Змена палітычнага клімату выклікала ў шмат каго з жыхароў намер змяніць месца жыхарства. Тым больш, што былая метраполія аператыўна адрэагавала на навіны. Яшчэ ў ліпені прэм'ер-міністр Вялікабрытаніі заявіў, што свабоды Ганконга парушаюцца новым заканадаўствам, і яго жыхары маюць права на прытулак у Вялікабрытаніі. Атрымаць яго можна пры наяўнасці BNO.

Колькі ўцекачоў з 7,5-мільённага Ганконга можа прыняць Брытанія? Паводле ацэнак брытанскага МУС, акрамя тых, хто ўжо валодае BNO, права на яго маюць яшчэ 2,9 мільёна чалавек. Пры жаданні па пашпарт могуць звярнуцца яшчэ 2,3 мільёна чалавек — нашчадкі тых, хто жыў у Ганконгу да далучэння да КНР, плюс іх родныя. У выніку агульная колькасць патэнцыйных мігрантаў з мегаполісу складае каля 70% насельніцтва горада. Дарэчы, прыбыццё такой колькасці ганконгцаў, якія, як вядома, не самыя бедныя людзі, дапаможа інвеставаць у эканоміку Брытаніі каля 5 мільярдаў долараў.

Фінальная колькасць уцекачоў шмат у чым будзе вызначацца пазіцыяй Пекіна, які не збіраецца заставацца староннім назіральнікам. Пасля таго, як у студзені 2021-га ў Лондане быў непасрэдна запушчаны «маршрут» — план па прыёме і адаптацыі мігрантаў, — Пекін паказаў зубы. Урад КНР заявіў, што больш не будзе прызнаваць BNO. Сама ідэя таго, што нейкая замежная дзяржава пачне раздаваць на кітайскай тэрыторыі пашпарты, асуджаная як праява каланіяльнай архаікі.

Хутка ў кітайскай праўладнай прэсе былі агучаны канкрэтныя планы, як разбурыць той «маршрут». Некаторыя каментатары прапануюць уладам разглядзець варыянт пазбаўлення кітайскага грамадзянства жыхароў Ганконгу, якія маюць або будуць атрымліваць BNO. Прапануецца таксама ануляваць іх прапіску ў Ганконгу разам з правам голасу. Такі падыход, дарэчы, дазваляе ўзняць квоту лаяльных цэнтру дэпутатаў у мясцовай заканадаўчай асамблеі.

І гэта яшчэ не ўсё. Пакольні, у адпаведнасці з законам, за выключэннем некаторых катэгорый, усе дзяржаўныя службоўцы павінны быць сталымі жыхарамі Ганконга, уладальнікам BNO пагражае лёс палітычных маргіналаў.

Хаця, як піша прэса, рэалізаваць пагрозы ў дачыненні да ўладальнікаў брытанскіх пашпартоў будзе складана. Сапраўды, Кітай не прызнае падвойнае грамадзянства, аднак у кітайска-брытанскай сумеснай дэкларацыі агаворана: BNO і іншыя замежныя пашпарты, якімі валодаюць жыхары Ганконга, будуць разглядацца як дзейсныя дакументы. Не кажучы пра тое, што ў Ганконгу жыве шмат людзей, якія маюць падобныя на BNO паперы, напрыклад, канадскія.

Лондан, у сваю чаргу, ужо паабяцаў ціснуць на Кітай, каб там не чынілі перашкодаў для ахвочых атрымаць BNO. Хутчэй за ўсё, гандаль наконт правоў уладальнікаў брытанскага дакумента будзе часткай больш глабальнага брытанска-кітайскага супрацьстаяння. Канфлікт, дарэчы, выклікае праявы ксенафобіі на адрас кітайцаў у Англіі, што, на думку экспертаў, палохае некаторых патэнцыйных імігрантаў.

Так ці інакш, як піша газета South China Morning Post у выпуску ад 19 сакавіка, з моманту запуску брытанскай нацыянальнай замежнай візавай схемы ў студзені на атрыманне грамадзянства Альбіёну падалі заяўкі каля 27 тысяч жыхароў Ганконгу. Паводле сацыялагічных апытанняў, якія былі праведзеныя ў жніўні 2020 года, каля трацiны жыхароў тэрыторыі плануе пакаваць чамаданы.

# «Даказаў, што адплата немінучая»

Алег НОВІКАЎ

**Сто гадоў таму ў Берліне Сагамон Тэйліран застрэліў арганізатара генацыду армян.**



Фота www.ok.ru

Калі пачынаеш чытаць біяграфію Сагамона Тэйлірана, на першых старонках ніяк не падумаеш, што ён з часам абярэ прафесію забойцы-тэрарыста. Сагамон нарадзіўся 2 красавіка 1896 года на ўсходзе Турцыі, атрымаў пачатковую адукацыю ў мясцовай пратэстанцкай школе, а затым адправіўся ў Канстанцінопаль, дзе працягнуў навучанне ў ліцэі.

Яго жыццё радыкальна змяніла кампанія турак супраць армянскага грамадзянскага насельніцтва, ахвярай якой аказалася сям'я Тэйлірана. Сагамон стаў сведкам згвалтавання дзвюх сясцёр і забойства маці ды брата. Выжыць яму ўдалося выпадкова: турэцкія салдаты чамусьці не дабілі яго, а пакінулі юнака паміраць на кучы параненых і мёртвых целаў. У выніку Тэйліран вырашыў жыць — у імя сваёй помсты. Неўзабаве ён адправіўся ў Канстанцінопаль, дзе наладзіў кантакты з армянскай рэвалюцыйнай партыяй «Дашнакцуцюн».

Менавіта «Дашнакцуцюн» распрацавала карную аперацыю пад назвай «Немезіс» — старанна прапрацаваны план помсты ўсім, хто вінаваты ў генацыдзе армянскага народа. Першапачаткова спіс патэнцыйных ворагаў утрымліваў больш за 600 імёнаў, але, улічваючы абмежаваныя магчымасці, іх колькасць скарацілі да 41. У спіс увайшлі самыя ненавісныя асобы, найбольш блізкія да кіраўніцтва Асманскай імперыі.

У спісе фігураваў і вялікі візір Мехмет Талаат-паша — міністр унутраных спраў Асманскай імперыі, дзяржаўны дзеяч, які лічыцца галоўным арганізатарам і куратарам генацыду і дэпартацыі армян. Менавіта Талаат-паша ў шыфраванай тэлеграме ад 15 красавіка 1915 года даў адмашку на масавыя забойствы армян. Ён таксама лічыцца суаўтарам дырэктывы, у якой выкладаліся канкрэтныя меры па «канчатковай ліквідацыі» армянскага народа.

Дарэчы, у сваіх мемуарах (апублікаваных у 1946 годзе) Талаат-паша прызнаваў факт гвалтоўнай дэпартацыі і знішчэння армян, але матываваў гэта выключна абаронай «нацыянальных інтарэсаў» туркаў і імкненнем перашкодзіць «стварэнню армянскай дзяржавы ў памежжах з Расіяй рэгіёнах».

Таксама варта ўзгадаць, што ў 1919 годзе ў Канстанцінопалі пад ціскам краін Антанты, якія дыктавалі туркам умовы пасля Першай сусветнай вайны, Талаат-паша і іншыя каты армян былі завочна асуджаныя да смяротнага пакарання. Праўда, гэта быў, хутчэй, сімвалічны жэст. Усім асуджаным дазволілі сакрэтна збегчы з краіны. Так зрабіў і Талаат-паша, які пераехаў у Германію, дзе жыў пад іншым прозвішчам.

У Германіі, а менавіта ў Берліне, яго і знайшоў Сагамон Тэйліран, якому даручылі акт адплаты. 15 сакавіка Сагамон высачыў ахвяру на вуліцы. Ён паклікаў Талаат-пашу і прылюдна застрэліў яго са свайго пісталета. Пасля гэтага малады армянін без лішняга шуму здаўся паліцыі, пакорліва прымаючы свой далейшы лёс.

Суд над забойцам стаў гучнай падзеяй. Адвакаты абралі цікавую тактыку: яны дамагліся, каб аб'ектам разгляду суда стала не толькі забойства, але і папярэднія дзеянні самога Талаат-пашы як арганізатара зверскіх масавых забойстваў мірнага насельніцтва.

У выніку на суд выклікалі шмат сведак, якія распавядалі падрабязнасці катаванняў і жорсткасці младатуркаў. Многае з расказанага шакавала грамадскасць, якая стала на бок абвінавачанага. У выніку ў чэрвені 1921 года германскі суд апраўдаў Сагамона Тэйлірана, спаслаўшыся на тое, што злачынства было здзейснена пад уплывам глыбокай эмацыйнай траўмы.

Сагамон Тэйліран пражыў амаль трыццаць гадоў у Сербіі, потым у ЗША, дзе і памёр у 1960 годзе. Яго ўчынак у Арменіі заўжды разглядалі як подзвіг. «Ён даказаў, што адплата немінучая — і справядлівы суд напаткае забойцаў у любым месцы і ў любы час. З тых часоў ніхто з асманскіх забойцаў, нават калі і памёр сваёй смерцю, не ведаў спакою ані хвіліны», — піша армянская прэса з нагоды юбілею.

**На суд выклікалі сведак, якія распавядалі падрабязнасці катаванняў і жорсткасці младатуркаў. Расказанае шакавала грамадскасць, якая стала на бок абвінавачанага. У выніку суд апраўдаў Сагамона Тэйлірана**

Ёсць і дыяметральна супрацьлеглыя думкі, паводле якіх Тэйліран быў банальным злачынцам. Напрыклад, такую пазіцыю адстойвае шэраг гісторыкаў Азербайджана. Некаторыя лідары гэтай краіны ў свой час таксама сталі ахвярамі «Дашнакцуцюн». Крытыкі Тэйлірана спрабуюць выявіць яго ментальна хворым чалавекам, хлусам і нават баязліўцам. Напрыклад, у віну армяніну ставяць тое, што ён страляў са спіны, пабаяўшыся паглядзець ахвяры ў вочы.

Напэўна, кампрамісны будзе фармулёўка аднаго французскага гісторыка. Ён лічыць апісаныя вышэй падзеі «рэдкім выпадкам, калі злачынным шляхам спрабавалі аднавіць справядлівасць і адпомсціць за знішчэнне народа».

Напрыканцы застаецца нагадаць яшчэ адну іронію гісторыі. У 1943 годзе парэшткі Талаат-пашы былі перавезеныя з Берліна ў Стамбул і пахаваныя на мемарыяльных могілках пад назвай Манумент Свабоды. Аказваецца, да таго, як пачаць пераследаваць армян, у 1909-м нябожчык удзельнічаў у падаўленні выступлення кансерватараў-путчыстаў, што спрабавалі спыніць працу асманскага парламента. Менавіта ў гонар жаўнераў, якія абаранялі парламент, і быў пабудаваны помнік. Больш за тое, комплекс, у якім пахаваны далёкі ад дэмакратычных каштоўнасцяў Талаат-паша, лічыцца сімвалам турэцкай дэмакратыі і адданасці краіны свецкім прынцыпам.

Дарэчы, да ўсёй гэтай гісторыі аказалася датычная і Беларусь. Менавіта ў Беларусі, а дакладней, пад Ваўкавыскам, у 1900 годзе нарадзіўся будучы вядомы польскі адвакат Рафаэль Лемкін. Ён уважліва назіраў за дэталямі працэсу над Сагамонам Тэйліранам. Гэты працэс натхніў Лемкіна сфармуляваць азначэнне паняцця «генацыд» і прапанаваць сусветнай грамадскасці прыняць адпаведную міжнародную канвенцыю супраць злачынстваў такога кшталту.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Юлія Цімашэнка



Усё больш і больш экспертаў прагназуюць, што ў самы бліжэйшы час структура ўкраінскай партыі «Батьківщина», якую ачольвае Цімашэнка, і прэзідэнцкая партыя «Слуга народа» створаць кааліцыю. Такім чынам нельга выключаць, што 60-гадовая Цімашэнка ў чацвёрты раз у сваёй палітычнай біяграфіі стане прэм'ерам краіны.

«Шлюб састарэлай удавы і маладога гусара» (так жартоўна апісваюць саюз Цімашэнка і Зяленскага) можа радыкальна змяніць украінскія рэаліі. Перш за ўсё падобны картэль дазволіць прэзідэнту Украіны атрымаць большасць у парламенце, якая неабходная для атакі на алігархаў. Абяцанне перагледзець вынікі прыватызацыі 1990-х гадоў апошнім часам стала адной з галоўных фішак Зяленскага. Не кажучы ўжо пра тое, што кампанія супраць алігархаў узмоцніць прэстыж прэзідэнта на Захадзе.

Зяленскі за кошт Цімашэнка таксама можа атрымаць канал выхаду на электарат. Партыя Цімашэнка мае самую рабочую сетку ў краіне, у той час як «Слугі народа» — абсалютна віртуальная партыя, якая жыве ў Інстаграм.

Але самая вялікая інтрыга палягае ў паводзінах Цімашэнка. Калі «Батьківщина» ўвойдзе ў кааліцыю, то выхад з яе будзе азначаць маштабны палітычны крызіс, новыя выбары і канец улады не толькі «Слугі народа», але і Зяленскага. Таму ўжо на наступны дзень пасля стварэння кааліцыі амбіцыі Цімашэнка могуць вельмі значна вырасці. Відавочна, Зяленскі разумее такія рызыкі, аднак альтэрнатыва саюзу з партыяй «Батьківщина» пакуль таксама не праглядаецца.

### Самія Хасан Сулуху



Віцэ-прэзідэнтка Танзаніі заняла пасаду кіраўніка краіны пасля смерці прэзідэнта. Яна вызнае іслам і носіць хіджаб. Спіс краін, дзе мусульманкі становяцца першымі асобамі, у свеце невялікі. У Афрыцы іх да ўступлення на пасаду Саміі Сулуху не было зусім.

Дарэчы, нягледзячы на свой знешні клерыкальны імідж, новая прэзідэнтка атрымала адукацыю ў Брытаніі і ў ЗША, і наогул лічыць сябе сацыялісткай.

Танзанію нельга назваць краінай, дзе пераважае мусульманскае насельніцтва. Тутэйшая ісламская абшчына, хоць і хутка павялічваецца, але саступае па колькасці хрысціянскай. Зрэшты, пакуль асаблівых цяжкасцяў у спадарыні Сулуху на пасадзе кіраўніцы не праглядаецца. У спадчыну ёй дасталася моцная, па афрыканскіх мерках, эканоміка, і ўстойлівыя знешнепалітычныя кантакты.

Калі нічога вельмі негатыўнага за час кадэнцыі новай прэзідэнткі (яна будзе кіраваць дзяржавай да 2025 года) не здарыцца, рэнамэ жанчын-мусульманак у палітыцы ў свеце можа вырасці.

Застаецца згадаць адзін цікавы, але сімвалічны момант. З уступленнем на пасаду Самію Сулуху павіншавала віцэ-прэзідэнтка ЗША Каміла Харыс. Улічваючы пастаянныя спекуляцыі пра дрэнны стан здароўя прэзідэнта ЗША Джо Байдэна, не выключана, што Харыс можа паўтарыць гісторыю афрыканкі.

### Нуржан Альтаеў



Пад кіраўніцтвам былога дэпутата парламента, выключанага з партыі Назарбева нібыта з-за разыходжанняў з праўленнем арганізацыі, у Нур-Султане прайшло пасяджэнне «Нацыянальнай каардынацыйнай рады апазіцыйных сілаў».

Гэтую структуру ўдзельнікі нарады разглядаюць як вядучую апазіцыйную сілу ў краіне — прынамсі, перакананыя, што такой яна стане ў самым хуткім часе. Новая структура выглядае новай і ў ідэалагічным плане. Дамагацца дэмакратычных рэформаў у краіне Нуржан Альтаеў і яго паплечнікі збіраюцца не толькі за кошт лібералізацыі. Асноўную стаўку новыя апазіцыянеры робяць на антырасійскія і антыкітайскія лозунгі.

Прычым настроеныя яны вельмі радыкальна. Адзін з прысутных на нарадзе вядомы тым, што раней заклікаў казахскіх вайскоўцаў бамбіць гарады Расіі. Таксама новае фарміраванне абяцае патрабаваць ад улады прызнаць масавы голад у савецкім Казахстане ў 1930-я гады як акт генацыду.

Нягледзячы на патрыятычную рыторыку, шмат хто не верыць у праект Альтаева. Увагу журналістаў прыцягнуў факт, што мерапрыемства праходзіла ў шыкоўным гатэлі пры жорсткіх каранцінных мерах фактычнага лакдаўна, пад носам ва ўрада і адміністрацыі прэзідэнта. Тое, што ўлады далі магчымасць правесці сустрэчу ў самым цэнтры сталіцы без умяшання паліцэйскіх і санітарных службаў, дае падставы падазраваць, што дзейнасць Альтаева курыруецца з офісу прэзідэнта. Можна дапусціць, што ў Казахстане ўлады з нейкай мэтай фарсіраваным метадам ствараюць штучныя апазіцыйныя арганізацыі.



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

# Сталінская галгофа каталіцкіх святароў

**У міжваенны час Беларусь, нягледзячы на заключаны ў 1921 годзе «Рыжскі мір», працягвала, па-сутнасці, быць прыфрантавой рэспублікай. Мінск знаходзіўся ўсяго ў некалькіх дзясятках кіламетраў ад Польшчы, і Савецкая Беларусь, у выпадку вайны, павінна была прыняць першы ўдар «капіталістычнага свету». На гэтым фоне савецкія спецыяльныя органы імкнуліся цалкам «ачысціць» памежную рэспубліку ад варожай агентуры і іх памагатых. Асаблівую ўвагу чэкістаў прыцягвалі каталіцкія святары, сувязь з Польшчай і Ватыканам якіх не выклікала дадатковых пытанняў.**





Ксёндз Павел Хоміч



Святар Ян Тройга

## «Агенты» Польшчы і Ватыкана

Яшчэ ў красавіку 1923 года ў Маскве адбыўся працэс над кіраўніком каталіцкага касцёла ў СССР архіепіскапам Янам Цепляком. Яго абвінавачвалі ў непадпарадкаванні савецкім уладам і выступленні супраць іх. У выніку святара прысудзілі да смяротнага пакарання, якое потым замянілі на 10 гадоў лагерных прац. Урэшце, ужо ў красавіку 1923 года Цепляку, у рамках міжнародных абменаў вязнямі, дазволілі выехаць на тэрыторыю Другой Рэчы Паспалітай.

У ліпені 1922 года ў Віцебскай губерні судзілі ксяндза Язэпа Лук'яновіча, які не даў бальшавікам знішчыць рэліквіі Андрэя Баболі. У гэты ж час адбыўся працэс над каталіцкімі святарамі ў Мінску, якіх абвінавачвалі ў тым, што яны перашкаджалі рэквізіцыі каштоўных рэчаў з касцёлаў. Абвінавачаных прысудзілі да розных тэрмінаў зняволення. У 1924 годзе быў распрацаваны Кодэкс правілаў функцыянавання каталіцкага касцёла ў СССР, у якім, сярод іншага, адзначалася, што ксяндзы ў сваёй дзейнасці павінны кіравацца савецкімі законамі і ім падпарадкоўвацца. Да таго ж бальшавіцкія ўлады разглядалі магчымасць прыняць на сваёй тэрыторыі ксяндзоў з Італіі і Германіі, аднак хутка ў Крамлі зразумелі, што ў «першую краіну працоўных і сялян» могуць прыехаць «фашысты» (у Італіі набіраў моц Мусаліні, а ў Германіі прыхільнікі нацыянал-сацыялізму станавіліся ўсё больш папулярнымі. — І.М.). Таму самым простым выйсцем была арганізацыя працы мясцовых каталіцкіх святароў. Тых, хто паходзіў з БССР ці іншых савецкіх рэспублік.

## Тры этапы знішчэння

У 1924 годзе на тэрыторыі Савецкай Беларусі працавалі 36 каталіцкіх святароў, з якіх было 13 палякаў, 12 беларусаў, 3 «неўсталяванай» нацыянальнасці, 4 літоўцы і яшчэ 4 беларусы — прадстаўнікі антыклерыкальнай царквы. АДПУ/НКУС увесь час сачылі за дзейнасцю ксяндзоў і іх памагатых. У гэты час адбываліся рознага роду правакацыі супраць каталіцкіх святароў. У пачатку 1930-х гадоў сталі адбывацца арышты тых, хто знаходзіўся ў парафіяльных саветах. У Мінску, напрыклад, былі арыштаваныя 24 чалавекі. У сталіцы па абвінавачанні ў дачыненні да «Польскай вайсковай арганізацыі» (POW) быў арыштаваны ксёндз Адам Пучкар-Хмялецкі, а ў Гомелі — пробашч Кастусь Андрэксус.

Выведка польскага Корпуса аховы памежжа ў 1933 годзе вылучала ў палітыцы савецкіх уладаў у адносінах да каталіцкага касцёла тры этапы. Першы быў звязаны з паралізацыяй дзейнасці каталіцкай царквы праз ужыванне высокіх падаткаў і іншых збораў. Другі быў звязаны з дыскрэдытацыяй ксяндзоў і святароў у маральным сэнсе і іх шантаж. Рабілася гэта яшчэ і дзеля таго, каб завербаваць частку клірыкаў і зрабіць з іх «саксупаў» — «сакрэтных супрацоўнікаў». Нарэшце, падчас трэцяга этапу на савецкай тэрыторыі праводзіліся арышты найбольш уплывовых каталіцкіх святароў. Пры гэтым апошніх абвінавачвалі ў рэлігійнай агітацыі, накіраванай на звяржэнне камуністычнага строю, шпіянажы на карысць буржуазных выведак (перш за ўсё польскай. — І.М.), кантактах з замежжам, неданясенні пра тую ці іншую антысавецкую дзейнасць.

«Цяпер у парафіях засталіся нешматлікія ксяндзы, у асноўным хворыя ці старыя людзі, якія не маюць ніякага ўплыву і якія робяць усё, што ім загадаюць савецкія ўлады. Арыштаваныя ксяндзы знаходзяцца ў розных турмах, на Салаўках. Ксяндзоў трымаюць на востраве Анзэр і Троіцкай "камандзіроўцы" з мэтай, каб яны не мелі ўплыву на вязняў. Шмат ксяндзоў адбылі свой тэрмін зняволення, аднак іх па сённяшні не вызвалілі», — адзначалася ў справаздачы польскага КАП у жніўні 1933 года.

Такая сітуацыя не магла прайсці незаўважанай для вернікаў. Жанчыны працягвалі наведваць службы і малітвы. Мужчыны ўжо радзей хадзілі ў касцёл. Цікава было тое, што, напрыклад, жаўнерам Чырвонай Арміі ўвогуле было забаронена наведваць рэлігійныя ўстановы. Паступова звычайныя жыхары БССР пачалі абыходзіць касцёлы бокам, бо адчувалі, што ўлады будуць помсціць за такія візіты.

## Тыя, хто прайшоў праз пекла на зямлі

У пачатку 1930-х гадоў польскія выведнікі склалі спіс ксяндзоў, якія знаходзіліся ў турмах і лагерах на тэрыторыі СССР. Сярод іншых там былі і беларусы, а таксама тыя, хто нарадзіўся і працаваў на тэрыторыі нашай краіны.

У 1923 годзе быў арыштаваны ўраджэнец Гродзенскай губерні, каталіцкі святар Ян Тройга. Ксяндза прысудзілі да трох гадоў турэмнага зняволення. Польскія ўлады спрабавалі вызваліць святара. У выніку ў снежні 1924 года Тройга аказаўся на волі. Праз тры гады АДПУ зноў арыштавала яго, і хутка ксёндз быў накіраваны на Салаўкі, на востраў Анзэр. У 1932 годзе адбыўся трэці арышт айца Яна. Цяпер ужо па «групавой справе каталіцкага духавенства». У тым жа годзе ён памёр у турэмным шпіталі.

У 1925 годзе да трох гадоў турмы прысудзілі ксяндза з-пад Віцебска Казіміра Юршына (літоўца па нацыянальнасці). Тады ж у рукі ДПУ трапіў настаяцель прыхода ў Віцебску Леанард Бараноўскі. Першы раз бальшавікі арыштавалі яго яшчэ ў 1919 годзе. Тады чырвонаармейцы ўзялі яго ў закладнікі. Пазней святар быў узяты пад варту ў 1922-м. Нарэшце ў 1925-м Бараноўскага абвінавацілі ў шпіянажы на карысць Польшчы, і ў ліпені таго ж года калегія АДПУ прысудзіла яго да трох гадоў лагерных прац. Летам 1926-га Леанард Бараноўскі быў накіраваны ў Салавецкі лагер асобага прызначэння, дзе прасядзеў да лета 1928-га, калі зноў быў прысуджаны да трох гадоў ссылкі і накіраваны ў вёску Тагур Нарымскага краю. Там ён і памёр у снежні 1930-га ад тыфу.

У 1926 годзе ў Ленінградзе быў арыштаваны беларус, ураджэнец Ваўкавыска Гродзенскай губерні, ксёндз Павел Хоміч. Ён скончыў Пецярбургскую духоўную семінарыю і Духоўную акадэмію ў горадзе на Няве. У 1920-я гады служыў у розных касцёлах на тэрыторыі Расіі. АДПУ абвінавачіла беларускага святара ў «правядзенні контррэвалюцыйнай рэлігійнай дзейнасці сярод моладзі», і ў 1927-м Хоміч быў асуджаны на 10 гадоў лагерных прац. Знаходзіўся на востраве Анзэр. У ліпені 1932 года Павел Сямёнавіч быў арыштаваны «па групавой справе каталіцкага духавенства» і прысуджаны да года знаходжання ў штрафным ізалятары. Пазней Хоміч быў вывезены ў Ленінградскую турму, а пасля гэтага этапаваны ў лагер у Камсамольску-на-Амуры. У 1935-м ксяндза Паўла вярнулі ў Салавецкі лагер, а праз год вызвалілі з забаронай жыць у 12 буйных гарадах СССР і памежных тэрыторыях. Аднак у жніўні 1939 года святар прыехаў у Ленінград. У ліпені 1942 года Павел Хоміч быў арыштаваны НКУС і абвінавачаны ў «паражэнчай прапагандзе». Нагадаю, гэта быў самы цяжкі час блакады Ленінграда. 1 верасня 1942 года беларуса расстралялі.

У 1927 годзе быў арыштаваны настаяцель касцёла ў Лагойску Язэп Ібянскі. Яго прысудзілі да пяці гадоў лагерных прац. Ксяндза накіравалі на Салаўкі, дзе той і памёр у 1929-м.

У гэты ж перыяд на Міншчыне быў арыштаваны ксёндз Уладзіслаў Жаўняровіч. Першапачаткова яго прысудзілі да пяці гадоў турмы. Ксяндза накіравалі ў Салавецкі лагер, адкуль у траўні 1930-га ён быў выпушчаны па амністыі. З верасня 1930 года Жаўняровіч знаходзіўся ў Томскім краі. У 1933 годзе яго вызвалілі, але з абмежаваннем (забаронай на жыхарства ў 12 вялікіх гарадах і памежнай зоне). У жніўні 1937-га НКУС зноў арыштаваў яго і абвінаваціў у контррэвалюцыйнай дзейнасці. У верасні 1937-га Жаўняровіч быў расстраляны.

Такі ж лёс напаткаў іншых святароў: Івана Жаўрыда ў Бабруйску, ураджэнца Аршанскага павета Магілёўскай губерні, святара з Ніжняга Ноўгараду Антонія Дземяшкевіча, магілёўскага ксяндза Язэпа Белагаловага, віцебскага ксяндза Адольфа Філіпа і шмат каго яшчэ...

## Мянялі, як Тарашкевіча

Толькі некаторым каталіцкім святарам з тэрыторыі СССР атрымлівалася ўратавацца з дапамогай абмену палітзняволенымі паміж СССР і Другой Рэччу Паспалітай. У 1927 годзе быў арыштаваны магілёўскі біскуп, латыш Баляслаў Слаская, якога асудзілі на тры гады. У 1919-м ён быў настаяцелем касцёла Святой Кацярыны ў Петраградзе, у 1924-м служыў у Маскве, потым у Ленінградзе. Пазней пераехаў у Віцебск, а пасля гэтага быў прызначаны на Магілёўскую кафедру. Яму ўдалося выехаць за мяжу і пазней ён быў арцыбіскупам Магілёўскім у... Брусэлі.

У 1926 годзе АДПУ арыштавала ксяндза Чэслава Федаровіча, які служыў на тэрыторыі савецкай Украіны. Ён прайшоў праз Салаўкі, турмы ў Харкаве, Яраслаўлі, Маскве пакуль у 1932 годзе не быў абменены на савецкага шпіёна.

У 1933 годзе быў абменены і выехаў у Літву ксёндз Вітальд Пашкевіч з Магілёва. Ён быў арыштаваны ДПУ ў 1930-м. Святара абвінавацілі ў «распальванні варожых да савецкай улады настрояў» і накіравалі ў лагер на пяць гадоў. «Добры ксёндз, мае моцны і рашучы характар», — адзначалася ў дакуменце КАП. У ліпені 1932-га Пашкевіча зноў арыштавалі і абвінавацілі ў «стварэнні антысавецкай групоўкі», а таксама ў перадачы шпіёнскіх звестак аб становішчы католікаў у СССР за мяжу. Пашкевіч быў вывезены ў Бутырскую турму ў Маскве.

Пасля вызвалення Пашкевіч жыў у Латвіі, у Краславе, аднак летам 1941 года быў арыштаваны і забіты.

Адзначу, што абмен усіх палітзняволеных у 1930-я гады адбываўся на памежнай станцыі Коласава. Там, дзе мянялі і Тарашкевіча на Аляхновіча.

У сярэдзіне 1930-х гадоў выведка КАП інфармавала Варшаву, што касцёлы і цэрквы на тэрыторыі БССР закрытыя, і часцей за ўсё выкарыстоўваюцца як склады для збожжа. Аднак ні польскія памежныя выведнікі, ні жыхары паўночна-ўсходніх ваяводстваў Другой Рэчы Паспалітай у той час нават не здагадваліся, які жах іх чакае ў пачатку Другой сусветнай вайны. У верасні 1939 года бальшавіцкія ўлады пачалі рэалізоўваць сваю антырэлігійную палітыку ўжо на тэрыторыі новых заходніх абласцей БССР.

# БРСМ замест фанатаў

Сяргей КАЙКО

**Другі тур футбольнага чэмпіянату Беларусі прайшоў ціхмяна і незаўважна, нібыта праўладная акцыя на праспекце з чырвонымі сцягамі. Падабенства дадала і колькасць заўзятараў — іх зноў было зусім мала. Не «заходзіць» беларусам футбол у гэты час, што ты зробіш. Ёсць справы, клопаты і інтарэсы больш важныя.**



Амаль паўсюль, як і тыдзень таму, на трыбунах гуляў вецер — аднак былі і выключэнні. Дакладней, адно выключэнне. У Брэсце, дзе мясцовму стадыёну зрабілі хоць якую касу.

Зрэшты, гэта той самы выпадак, калі выключэнне толькі пацвярджае правіла. Бо чатыры з гакам тысячы на «Брэсцкім» у суботу — гэта больш, чым агулам на ўсіх астатніх гульнях тура. То-бок, калі вынесці за дужкі той асобна ўзяты ажыятаж, то ў астатку атрымаем прыкладна тое ж дыскрэдытуючае бязлюддзе, якое назіралася ў першым туры.

У Брэсце ж футбол любяць — нездарма ў 2019-м мясцовае «Дынама» ўпершыню ў гісторыі стала чэмпіёнам. Дый працэс тады суправаджаўся рознымі мерапрыемствамі агітацыйнага кшталту. То славутага Дыега Марадону ў горад прывязуць, то вырашаць разыграць сярод гледачоў новенькае аўто, то яшчэ штосьці прыдумаюць. Грошай куры не клявалі — дзякуй лукашэнкаўскаму бізнесоўцу Аляксандру Зайцаву. Ён, дарэчы, не цураўся і патрыятычных памкненняў. Над стадыёнам гучала беларуская мова — у песнях і выступах, папулярызавалася вышыванка і іншыя гістарычныя адметнасці, і народ цягнуўся на футбол, на стадыёнах было безліч гарачых вачэй. Адных фанатаў іншым разам набівалася ў сектар пад цэлую тысячу.

Аднак часы змяніліся. Зайцаў, як вядома, зрабіў кульбіт — вярнуў «Дынама» пад апеку гарадскіх уладаў і ўзяўся апекавацца «Рухам», другім брэсцкім клубам, які сам жа і адрадзіў. Дзвярыма гэпнуў гучна — разам з грашыма забраў з сабой і большасць майстравітых гульцоў. Дынамаўскі ж клуб застаўся на дзяржаўным пражытачным мінімуме — і з вільготнымі ўспамінамі пра тое, як яшчэ зусім нядаўна выпраўляў футбалістаў на выязныя матчы чартэрам «Белавія», а ў міжсезонні грэў каманду на зборах у Дубаі. Sic transit gloria mundi, як казалі ў старажытныя часы.

Часы змяніліся — але цікавасць да футбола ў Брэсце інерцыйна захавалася. Тым больш у госці завітаў не хто-небудзь крывы ды кілавы, сам БАТЭ з Барысава — супернік статусны і тытулаваны. Таму людзі і пацягнуліся на трыбуны, каб хоць ненадоўга абстрагавацца ад журботнай сённяшняй рэчаіснасці. Ці ўдалося — сказаць складана. Бо як бы рухава і мудрагеліста ні намагаліся гуляць каманды, нешта ім, як таму танцору, усю дарогу перашкаджала. То мяч не ляцеў у вароты, то ногі неслі не туды, то блыталіся думкі. І як вынік — тыя самыя 22 бугаі з мініяцюры Райкіна так і не спарадзілі за ўвесь матч аніводнага гола. 0:0 — самыя сумныя лічбы — так і засталіся гарэць на табло.

З забітымі мячамі ўвогуле ў туры не склалася. Усяго 14 у васьмі матчах — ураджай на ўзроўні стратнага калгасу «Голад не цётка». Ёсць такі тэрмін — вясенні футбол. Гэта калі на стартавым адрэзку сезона каманды яшчэ не набралі абароты і памногу хібяць і поркаюцца, на полі як мухі ў павуцінні. Аднак ці справядліва ў нашай зоне рызыкоўнага земляробства спасылацца на гэтыя аб'ектыўныя абставіны? Бо за вясеннім футболам традыцыйна прыйдзе летні — і будзе спёка, якую зручна вінаваціць у млявай гульні. А затым і халадна стане, восень настане — і тут ужо футбалісты стаміліся, таму што надта ж доўгі і энергазатратны атрымаўся сезон.

Ну дый годзе блазнаваць. Усё ж гулялі хлопцы як маглі, што той тапёр, у якога не варта страляць. Іншая справа, як у адным цудоўным месцы спрабавалі вырашыць пытанне з гледачамі.

| | | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Іслач | 2 | 2 | 0 | 0 | 3-0 | 6 |
| 2. | Шахцёр | 2 | 2 | 0 | 0 | 3-1 | 6 |
| 3. | Дынама Бр. | 2 | 1 | 1 | 0 | 4-0 | 4 |
| 4. | БАТЭ | 2 | 1 | 1 | 0 | 3-0 | 4 |
| 5. | Дынама Мн. | 2 | 1 | 1 | 0 | 3-0 | 4 |
| 6. | Гомель | 2 | 1 | 1 | 0 | 3-1 | 4 |
| 7. | Энергетык-БДУ | 2 | 1 | 0 | 1 | 4-2 | 3 |
| 8. | Тарпеда-БелАЗ | 2 | 1 | 0 | 1 | 1-3 | 3 |
| 9. | Нёман | 2 | 0 | 2 | 0 | 1-1 | 2 |
| 10. | Віцебск | 2 | 0 | 2 | 0 | 0-0 | 2 |
| 11. | Рух | 2 | 0 | 2 | 0 | 3-3 | 2 |
| 12. | Мінск | 2 | 0 | 1 | 1 | 2-3 | 1 |
| 13. | Слуцк | 2 | 0 | 1 | 1 | 1-4 | 1 |
| 14. | Славія | 2 | 0 | 0 | 2 | 0-2 | 0 |
| 15. | Смаргонь | 2 | 0 | 0 | 2 | 0-5 | 0 |
| 16. | Спадарожнік | 2 | 0 | 0 | 2 | 0-6 | 0 |

**Ствараць масоўку з ліку на ўсё прыдатных афіцыйных «камсамольцаў» — гэта такі распаўсюджаны побыт у дэкарацыях нашага сацрэалізму. Хоць хакей, хоць футбол, хоць тэатр, хоць мітынг...**

Гаворка пра Віцебск, дзе на матчы з мінскім «Дынама» пустуючы фан-сектар рызыкнулі напоўніць сурагатам. А менавіта — выпісалі па інвойсе ў спагадлівых інстанцыях тыповых клакёраў. Натуральна, на гэткую ролю ідэальна падышлі чальцы БРСМ — яны, як тыя піянеры, заўсёды гатовыя. І нават маскіравацца палічылі за лішняе. Размясціліся ў сектары за сваімі фірмовымі сцягамі, пачалі скандзіраваць нешта жвавае, нібыта на карпаратыўнай спартландыі... І імгненна зрабіліся мемам у маштабах цэлага тура.



Бо як жа: ствараць масоўку з ліку на ўсё прыдатных афіцыйных «камсамольцаў» — гэта такі распаўсюджаны побыт у дэкарацыях нашага непазбыўнага сацрэалізму. Хоць хакей, хоць футбол, хоць тэатр, хоць мітынг у падтрымку дзеючага курса — партыя сказала «трэба», камсамол адказаў «ёсць». А тое, што гэта цяпер мала каго натхняе — вунь нават у віцебскіх футбалістаў ад такой «падтрымкі» вушы гараць — то хіба гэта каго турбуе?

Так што рашэнне знойдзена. Калі заўзятары не спяшаюцца на стадыён, гукайце БРСМ, ён не падвядзе. Паглядзім, ці возьмуць з віцяблян прыклад у іншых гарадах.

Праўда, давядзецца крыху пачакаць, бо чэмпіянат бярэ паўзу. Цяпер на павестцы ў беларускага футбола — гульні зборнай. Нацыянальная каманда Беларусі бярэ старт у новай адборачнай кампаніі — гэтым разам да чэмпіянату свету–2022. Заўтра нашым хлопцам гуляць дома з эстонцамі, а 30 сакавіка — выязны матч з бельгійцамі. Яшчэ два супернікі па групе — зборныя Чэхіі і Уэльса.

Група, што і казаць, складаная — лічы, непраходная. Але ж калі гэта бянтэжыла наша футбольнае кіраўніцтва? Федэрацыя ўжо паставіла перад гульцамі безнадзейную, але амбіцыйную задачу — заняць месца не ніжэй за другое. Адарванасць ад рэальнасці ў такім мэтапакладанні ўбачаць нават юныя выхаванцы якой-небудзь правінцыйнай ДЮСШ. Бо дзе мы, а дзе бельгійцы з чэхамі ды валійцамі... Але ж хто яго ведае... Можа, кіраўніцтва мае нейкія сакрэты. Ці беларускія футбалісты за зіму навучыліся гуляць, як у лепшых дамах Еўропы. Ну альбо дапамогуць у цяжкія часы верныя заўзятары — з ліку бездадмоўных БРСМаўцаў, ад імпэту якіх у зборнай раптам вырастуць крылы.

### Чэмпіянат Беларусі

**ТУР 2.** 19.03. СЛАВІЯ (Мазыр) — ТАРПЕДА-БЕЛАЗ (Жодзіна) — 0:1 (1220 гледачоў; Мікалаевіч, 80). ІСЛАЧ (Мінскі раён) — СМАРГОНЬ — 2:0 (200; Камароўскі, 17, 50, з пенальці).

20.03. ЭНЕРГЕТЫК-БДУ (Мінск) — ШАХЦЁР (Салігорск) — 1:2 (350; В.Васільеў, 58 — Кендыш, 18; Сачыўка, 31). ВІЦЕБСК — ДЫНАМА (Мінск) — 0:0 (625). МІНСК — РУХ (Брэст) — 2:2 (218; Зяньковіч, 81, з пенальці; Рахманаў, 86-аўтагол — Лапцеў, 2, Канцавы, 34). ДЫНАМА (Брэст) — БАТЭ (Барысаў) — 0:0 (4203).

21.03. СЛУЦК — НЁМАН (Гродна) — 1:1 (580; Альфрэд, 64 — Джыгера, 42). ГОМЕЛЬ — СПАДАРОЖНІК (Рэчыца) — 2:0 (550; Гомза, 9, Салавей, 56).

**ТУР 3.** 2.04. Смаргонь — Славія, Шахцёр — Іслач, Рух — Энергетык-БДУ, Спадарожнік — Мінск, БАТЭ — Гомель, Нёман — Дынама Бр., Дынама Мн. — Слуцк, Тарпеда-БелАЗ — Віцебск.

ДЗЕНЬ НАРОДЗІНАЎ ЗА КРАТАМІ

# «Ты — мой, а я твая назаўсёды!»

Аксана КОЛБ

**Нават не верыцца, што гэта прыгожая дзяўчына столькі вытрымала за апошнія пяць месяцаў. Наталля расказвае пра свайго Віцю — і яе вочы свецяцца. «Гэта ўсё даецца нам не проста так, і мы абавязкова справімся, — кажа дзяўчына. — У нас яшчэ ўсё жыццё будзе наперадзе».**







Наталля — жонка палітвязня Віктара Барушкі, якому 30 сакавіка споўніцца 33 гады. Віктара брутальна затрымалі 18 кастрычніка ля велазавода. Амапавец збіў яго з ног — і, падаючы, Віктар зламаў нагу другому амапаўцу. І хоць у судзе не прагучала ніводнага доказу віны Віктара, Марына Запаснік прысудзіла Барушку 5 гадоў узмоцненага рэжыму за нібыта «наўмыснае прычыненне цяжкага цялеснага пашкоджання ў дачыненні да асобы ў сувязі з ажыццяўленнем ёй службовай дзейнасці».

Калі Віктар расказваў на судзе пра тое, што з ім было пасля затрымання, плакалі ўсе, хто знаходзіўся ў зале. У бацькі падсуднага вырваўся вокліч болю. Як вытрымала гэта Наталля, цяжка сказаць. Перад судом на нервовай глебе ў яе пачаліся спазмы цягліцаў. Ніякія лекі не дапамагалі. І толькі праца з псіхолагам хоць трохі дала сілы. А яшчэ — каханне. Каханне і сёння дае ёй моц вытрымаць усё і дачакацца свайго Віцю.

— Мне ўвесь час сніцца сны, што ён ужо дома. Звоніць мне і кажа, паехалі дадому. Я прыходжу дахаты, а ён сядзіць на канапе. Ці заходзіць у дзверы і кажа: «Я дома». Ці нядаўна прыснілася, што ён мне звоніць з дому, а я якраз прыгатавала труса. Кажу яму: пачакай, зараз прыбягу дахаты цябе пакармлю. Прыбегла, пачала разаграваць, але пакарміць не паспела. Разбудзіў званок. Напэўна, гэта таму, што ўвесь час пра яго думаю, у думках з ім размаўляю і чакаю.

Яшчэ да суда думала, што ён можа вярнуцца. Чакала, што патэлефануе яго брат і скажа: «Наташа, вязу Віцю дахаты». Пасля суда прыйшло спусташэнне, быў нейкі ступар. Не хацелася ва ўсё гэта верыць... Думала, як ім спіцца па начах? Але справядлівасць будзе, у гэта я дакладна веру.

Яго вельмі чакае наш трохгадовы Дзяніс. Ён увесь час пытаецца, калі тата прыйдзе. Я сказала сыну, што тата ў лякарні. Каб ён паверыў, нават давялося паказаць фота з бальніцы, дзе Віктар быў амаль два тыдні пасля жорсткага збіцця. Дзяніс тады сказаў, давай лепш мы паедзем туды, мне зробяць укол, а тату вылечаць. Ён вельмі чакае тату, каб пайсці на мост глядзець на цягнікі. Яны часта хадзілі глядзець на цягнікі, бо сын іх вельмі любіць. Цяпер Віця яму перадае малюнкі цягнікоў і караблёў, хоць маляваць асабліва не ўмее. Віктар вельмі любіць сына. Хаця Дзяніс — мой сын ад першага шлюбу, але ён называе Віцю татам і таксама вельмі яго любіць. А як не любіць? Віктар — найлепшы тата на свеце.

І найлепшы муж. Адзін на сто мільёнаў. Мне так з ім пашанцавала. Ён вельмі добры, шчыры, вясёлы. Ніколі на мяне не крыўдзіцца. І заўсёды клапоціцца пра мяне, стараецца аберагаць. Устане ранкам, падыме Дзяніса, накорміць, зробіць мне сняданак. Я так сумую па яго сняданках... Па нашых шпацырах пад зоркамі. Ёсць адна зорка, такая яркая-яркая, якая свеціць у розным месцы ў залежнасці ад пары года. Мы вельмі любілі на яе глядзець.

На канапе ляжыць яго байка, з яго водарам. Час ад часу я яе адзяваю, але не надоўга, каб не перабіць яго пах. Пахаджу ў ёй — і нібыта з ім была побач. Усе яго рэчы дома на сваіх месцах. Я нічога не мяняла. І яго барабанныя палачкі таксама. Зрэдку іх вельмі беражліва бярэ ў рукі сын. Яны разам часам гралі на барабанах. І красоўкі яго любімыя, сінія з аранжавымі шнуркамі, я паставіла ля дзвярэй... Хаця, калі Віцю адправяць у калонію, то давядзецца перадаць красоўкі яму.

Але тое-сёе, праўда, я змяніла. Зрабіла рамонт. Пакleіла шпалеры, якія мы разам з Віцем выбіралі. Ён вернецца і ўбачыць, як у нас прыгожа. А яшчэ адрэзала 15 сантыметраў сваіх валасоў. Цяпер пра гэта шкадую, але тады мне проста фізічна было неабходна зрабіць хоць нешта, што я магу. Бо на іншае, на прысуд, на тое, што яго няма побач, я не магла паўплываць. Мне было важна ўпэўніцца, што я хоць нешта магу...

Ведаеце, што я зраблю, калі Віця вернецца дахаты? Я проста абдыму яго за шыю, прытулюся — і буду так стаяць. Доўга-доўга, хоць цэлую вечнасць. Не адрываючы рукі, гледзячы ў яго вочы, на яго зморшчынкі каля вачэй. Удыхаючы яго водар. Нават, напэўна і не пакармлю (пасміхаецца). Ён мне скажа: «Мая Татошачка». А я скажу: «Ты — мой, а я — твая назаўсёды».

Я ведаю, што гэта абавязкова здарыцца. Не магу сказаць дакладна, калі: праз тыдзень, месяц, год ці больш — але дакладна здарыцца. Мы яго дачакаемся. І ў нас усё будзе добра. Мы абавязкова дадзім рады ўсяму гэтаму. У нас яшчэ ўсё жыццё будзе наперадзе.

***

Я глядзела на Наталлю — і ніколькі не сумнявалася, што яны сапраўды з усім гэтым справяцца. У гэтай 23-гадовай дзяўчыне столькі моцы і годнасці, што па-іншаму і быць не можа. Яна гадуе сына, збірае перадачы, чакае спатканняў з мужам, ездзіць да сваіх бацькоў у Падмаскоўе і збіраецца ехаць да бацькоў Віктара ў Бярозу дапамагаць па гаспадарцы (бо «Віця заўсёды так рабіў»). А яшчэ яна шые эксклюзіўную жаночую бялізну, у яе ёсць інтэрнэт-крама, пра якую яны марылі разам.

Канечне, ёй дапамагаюць. Сябры Віктара (хаця знайшліся і тыя, хто за гэты час нават не пацікавіўся, як яны), бацькі, суседзі, якія падтрымліваюць маральна, дапамагаюць фізічна і грашыма. Канечне, без гэтай падтрымкі было б цяжка. Але менавіта той сталёвы стрыжань, які немагчыма не заўважыць, дае Наталлі сілы ісці далей і чакаць каханага.

«Напішыце, што мы ўсе яго віншуем з Днём народзінаў! — дадае Наташа. — Мы яго любім, чакаем. І жадаем здароўя і моцы».

«Новы Час» далучаецца да віншаванняў Віктару Барушку, а таксама ўсім палітвязням, чый Дзень народзінаў у сакавіку. Жадаем усім нам вольнай Беларусі! Краіны, дзе шчырыя, добрыя і працавітыя людзі будуць вольна дыхаць і гадаваць дзяцей і ўнукаў.



## Праграма рэабілітацыі

**Каманда грамадскага аб'яднання «Звяно» запусціла праграму рэабілітацыі былых зняволеных.**

Праграма рэабілітацыі распрацаваная ў мэтах сацыялізацыі людзей, якія сутыкнуліся са складанасцямі ў пошуку працы і аднаўленні кантактаў пасля вызвалення, дапамогі ў рэалізацыі іх правоў і інтарэсаў, а таксама для прасоўвання талерантных, паважных і антыдыскрымінацыйных адносін у грамадстве да былых зняволеных. Кожны чалавек, які вярнуўся з месцаў пазбаўлення волі, ужо адбыў тэрмін свайго пакарання і мае права вярнуць да сябе павагу.

У рамках праграмы можна звярнуцца па бясплатную ананімную псіхалагічную дапамогу і атрымаць кансультацыю сацыяльнага работніка і юрыста, запісацца на курсы па асновах карыстання базавымі кампутарнымі праграмамі, скарыстацца кампутарам і доступам у інтэрнэт.

*+375 29 102 21 21; +375 17 366 84 30*
*Адрас: Ленінградская, 1А, пам. 3. Час працы: 10: 00-18: 00*
*Падрабязнасці на сайце: zvyano.by*

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №504

Падпісана да друку 25.03.2021. 8.00. Наклад 6600 асобнікаў. Аб'ём 6 друк. аркушаў. Кошт свабодны.